Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 34 (4680) 24 жніўня 2012 г.

Думка пісьменніка

## Свабода марыянетак



Чалавек нярэдка вымушаны выбіраць паміж дабром і злом. Аддаць перавагу таму альбо іншаму — справа сумлення і свабоды кожнага. Але, на жаль, часта перавага ідзе ў бок апошняга. І гэта не дзіўна, калі тэлебачанне, некаторыя СМІ, а асабліва глянцавыя часопісы, стымулююць імкненне валодаць "скарбамі жыцця" — матэрыяльнымі дабротамі і пачуццёвымі ўцехамі. А так званы прагрэс — ні што іншае, як пошук сродкаў для авалодання гэтымі "скарбамі".

На жаль, масавая культура, прапагандыстам якой стала тэлебачанне, накіравана на выхаванне паслухмяных спажыўцоў, асоб са стэрэатыпным мысленнем, якое кожны дзень навязваецца звонку.

Тэлебачанне, без перабольшання, той жа наркотык. Сёння гэта з упэўненасцю сцвярджаюць сацыёлагі і псіхолагі. Усё часцей тэлебачанне становіцца інструментам маніпуліравання асобай. Шматлікія, нярэдка прымітыўныя па змесце баевікі, "мыльныя оперы", свецкія хронікі і плёткі, рэкламныя застаўкі не лепшым чынам уздзейнічаюць на псіхіку, мысленне, выбар жыццёвых каштоўнасцей чалавека, асабліва маладога.

Каб пазбегнуць духоўнай дэградацыі масавага гледача, тэлебачанне трэба рэфармаваць, каб больш эфірнага часу адводзілася тым дзеячам літаратуры і мастацтва, чыя творчасць супрацьстаіць бездухоўнасці, жорсткасці, цынізму. Ёсць цудоўны спецыялізаваны праваслаўны тэлеканал "Саюз", але ён мае строгую рэлігійную скіраванасць. Чаму б не існаваць падобнаму тэлеканалу свецкага характару, гасцямі якога былі б пісьменнікі, псіхолагі, дзеячы навукі і мастацтва і проста "героі нашага часу", каб яны словам і прыкладам стымулявалі імкненне ствараць добрае, гарманізаваць жыццё, задумвацца над яго сэнсам? Бо менавіта бездухоўнасць чалавечай асобы з'яўляецца першапрычынай катастрофы, якая пагражае знішчэннем жыцця на зямлі.

І хаця галоўная ідэя XXI стагоддзя: даць свабоду чалавечай асобе (колькі гаворак і заклікаў да гэтай свабоды!), на самай справе найбольш распаўсюджаным воблікам сучаснага чалавека з'яўляецца ўсяго толькі слабавольная марыянетка, якая замест свабоды трапляе ў сітуацыю амаль поўнай залежнасці.

Цяга да свабоды дадзена чалавеку ад нараджэння. Але, на жаль, вельмі часта са сталасцю гэта цудоўная патрэба непрыкметна знікае. Яе забівае празмерная залежнасць ад іншых людзей, ад тых правілаў і звычак, якія склаліся ў грамадстве. Напэўна, трагізм нашага часу ў тым, што чалавек, які дасягае вышэйшай ступені знешняй свабоды, раптам разумее, што з'яўляецца ўсяго толькі "шахматнай" фігуркай у нечай гульні.

Чаму чалавек, так званы "вянец тварэння", дазваляе адбывацца гэтаму? Чаму не імкнецца вызваліцца з заганнага круга? І, што самае недарэчнае, лічыць сябе гаспадаром свайго жыцця...

Ці ёсць адказы на гэтыя пытанні?

**Наталія КАСЦЮЧЭНКА**

# Свая эпоха

**Пімен Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года — за некалькі месяцаў да пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі. Нельга не спыніцца на гэтай акалічнасці, бо творчасць пісьменніка характарызуецца "палымянай публіцыстычнасцю": ён быў равеснікам эпохі і ўсім сэрцам, амаль кожным радком жыў яе марамі, трагедыямі і расчараваннямі. Пытанне толькі ў тым, якая эпоха падавалася Пімену Емельянавічу сапраўды *сваёй*...**

*Алеся ЛАПІЦКАЯ,*
**фота з фондаў Літаратурнага музея Пімена Панчанкі ў СШ №199 г. Мінска**

Першыя зборнікі Панчанкі прасякнутыя светлым юнацкім шчасцем: шчасцем жыць у любай Савецкай Беларусі. Ці, дакладней, спачатку жыць у ***Беларусі***, і ўжо пасля ў ***Савецкай***. Бо ў лепшых яго вершах таго часу спеюць каласы, гудуць чмялі і толькі ў некаторых радках (ды затое вельмі манументальна) паўстаюць шчаслівыя калгаснікі.

Галоўным творчым этапам для пісьменнікаў, вядома, быў час Вялікай Айчыннай вайны. Пімен Панчанка стаў першым паэтам, чые вершы раскідвалі з самалётаў на акупаваных тэрыторыях — і хай сабе ў "Паэме сораму і гневу" ён потым дыскрэдытуе ваеннае жыццё многіх савецкіх аўтараў, у тыя гады для Панчанкі і яго героя ўсё было проста і відавочна: *"А цяпер — біць дык біць! І за слёзы матуліны, / І за сінія касачы"*. Гэтая рацыя і сёння падаецца неабвержнай, і невыпадкова большасць хрэстаматыйных твораў Пімена Панчанкі напісана менавіта ў 1940-я гады.

Унікальны жыццёвы досвед, набыты ў час вайны, — гэта не толькі ўражанні ад далёкага, невядомага Ірана, якія адлюстраваліся на старонках "Іранскага дзённіка" (экзатычны каларыт, непазбыўнае "трызненне вайной" і сум па Радзіме), але і запамінальныя эпізоды салдацкага жыцця. Такія вершы, як "Апельсіны", "Беларускія шрыфты", "Цыганскі бераг" ці знакамітая "Бульба", апісваюць здарэнні даволі тыповыя , але праз іх узнаўленне паэт без патэтычных фраз выяўляе і нацыянальную салідарнасць, і моцнае пачуццё асабістай адказнасці, без якога немагчымая была перамога. Галоўнае ж тут — нязвыклыя фарбы і адметная настраёвасць твораў: "аранжавыя кветкі" ў "снезе сінім" не цвілі, бадай, ні ў адным іншым вершы пра вайну.

Рэха вайны доўга гучала ў савецкай паэзіі — у тым ліку і ў творах, прысвечаных змаганню за мір. Гэтай тэме аддаў належнае і Пімен Панчанка, але больш яркімі, адметнымі падаюцца тыя вершы, дзе паэт самастойна і нават даволі смела паказаў, колькі слядоў — дагэтуль не зацярушаных, не загоеных — пакінула вайна на беларускай зямлі і ў беларускіх сэрцах. У "Святочных салютах" ветэран пад гукі "халастых перуноў" цяжка згадвае недалёкае мінулае:

*Нявесела, як сто гармат бабахне…*
*Нясцерпна горка гарадам згараць,*
*Нялёгка і героям паміраць,*
*І кожны подзвіг кроўю душна пахне…*

Шыкоўныя салюты падаюцца недарэчнай забаўкай, бо гучныя залпы



абуджаюць горкія, зусім не святочныя ўспаміны:

*Сябры мае,*
*Прашу цішэй паліць:*
*Зямлі яшчэ баліць.*
*І мне баліць.*

Больш як праз 30 гадоў пасля перамогі Пімен Панчанка піша пра замініраваны лес (*"Не прайшлі сапёры тут спачатку, / Не прайшлі сапёры тут пасля"*), і канкрэтны лес ля Дуброўны робіцца абагуленым вобразам, увасабленнем не столькі праблемы негаспадарлівага стаўлення да зямлі, колькі сімвалам эпохі:

*Час мой, асцярожны і трывожны,*
*Колькі лес той будзе на вайне?*

Пасля вайны Пімен Панчанка пісаў пра сучасніка-беларуса, пра грамадска-палітычнае жыццё, уздымаў праблемы духоўнасці, экалогіі, тэхнічнага прагрэсу — і заўсёды горача, з імпэтам і абурэннем… Палымянасць, публіцыстычнасць — адметныя рысы не толькі творчасці Панчанкі, але і наогул тагачаснай савецкай паэзіі, прычым дакладную мяжу паміж публіцыстычнай паэзіяй і рыфмаванай публіцыстыкай дагэтуль ніхто не правёў. І для паэзіі, і для публіцыстыкі ўласцівыя эмацыянасць, высокая ступень суб'ектыўнасці, ужыванне сродкаў мастацкай выразнасці, але паэ-зія — гэта мысленне вобразамі, а публіцыстыка — у першую чаргу сродак фарміравання грамадскай думкі...

Яшчэ адно пытанне — да якой ступені паэт можа быць выхавацелем і настаўнікам? Бо ўжо ў 60-я гады Пімен Панчанка пачынае прамаўляць з пазіцый праўдалюба і змагара за духоўнасць, пачынае настаўляць, выкрываць недахопы. Персанажамі ягоных твораў робяцца мяшчане, кар'ерысты і іншыя адмоўныя тыпажы таго часу.

(Заканчэнне на стар. 7)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Андрэя Міхалкова-Канчалоўскага з 75-годдзем. "У Беларусі высока цэняць Ваш талент і адданасць мастацтву. Упэўнены, што Ваша шматгранная дзейнасць і ў далейшым будзе садзейнічаць пашырэнню культурных сувязей паміж нашымі народамі", — сказана ў віншаванні.

✔ Заяўка на ўключэнне традыцыі шапавальства (ручной вытворчасці валёнак) у спіс Сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА будзе разглежана ў лістападзе Міжурадавым камітэтам па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Не так даўно гэты спіс папоўніўся калядным абрадам "Цары", на чарзе — "Жаніцьба Цярэшкі".

✔ Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы праводзіць конкурс "Беларусь — Расія: Крок у будучыню". Удзел у ім прымаюць журналісты, якія асвятляюць дзейнасць і развіццё Саюзнай дзяржавы. Заяўкі можна падаваць да 30 верасня бягучага года.

✔ Прадпрыемства "Мінская спадчына" плануе ў 2014 годзе пачаць стварэнне гісторыка-архітэктурнага комплекса "Мінскае замчышча". Мяркуецца, што размесціцца ён у раёне ракі Свіслач, праспекта Пераможцаў і станцыі метро "Няміга". "Мінскае замчышча" будзе ўключаць археалагічны музей, музей гісторыі горада, залу-амфітэатр, гандлёвыя рады і нават тэатр-балаган. Мост праз Свіслач злучыць новы аб'ект з Траецкім прадмесцем.

✔ Каля сарака прафесійных дзяржаўных і прыватных тэатраў Беларусі выказалі жаданне прыняць удзел у адборачным туры II Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Большасць заяўленых да ўдзелу пастановак — па творах класічнай і беларускай драматургіі. Восем пастановак разлічаны на дзіцячую аўдыторыю. Убачыць творчасць намінантаў, якія трапяць у шорт-ліст, можна будзе ў Мінску з 12 па 19 лістапада.

✔ Другі фестываль этнакультурных традыцый "Кліч Палесся" пройдзе 24—25 жніўня ў Лясковічах Петрыкаўскага раёна. Удзел у ім прымуць выканаўцы і захавальнікі народнай культуры з Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Сярод гасцей — прафесійныя выканаўцы з Украіны і Расіі. Фестываль папярэдніча этнаграфічны "Летнік на Петрыкаўшчыне", які сабраў практыкуючых фалькларыстаў і этнографаў.

Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ



*За падзеяй*

# Мы аддалі нават «звяздоўскі» парасон

У Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбылося адкрыццё выстаўкі "«Літаратура і мастацтва» — мінулае і сучаснае", прысвечанай 80-годдзю нашай газеты.

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

Як распавяла намеснік дырэктара Літаратурнага музея Петруся Броўкі Таццяна Відзевіч, ідэя выстаўкі ўзнікла невыпадкова: "Усе вядомыя майстры беларускага слова друкаваліся на старонках "ЛіМа". Броўка таксама не з'яўляецца выключэннем. З першага, 1932 года існавання газеты, на яе старонках з'яўляюцца артыкулы пра дзейнасць і асобныя творы Петруся Броўкі. Так, у красавіку 1932 года творца разам з Міхасём Лынькоўым і Барысам Мікулічам распавядаюць у газеце пра свае творчыя планы. У кастрычніку гэтага ж года Пятрусь Броўка згадвае пра сваю працу над аповесцю "Сезоннікі", якая так і не з'явілася ў друку па невядомых прычынах".

У фондах Літаратурнага музея Петруся Броўкі захоўваецца багатая калекцыя нумароў "ЛіМа" за 1970 — 1980-я гады, асабліва каштоўнымі супрацоўнікі называюць нумары 1950 — 1960 гадоў, якія вельмі добра захаваліся. Вядома, што Пятрусь Броўка друкаваўся ў "ЛіМе" амаль да апошніх гадоў свайго жыцця. Таму канцэпцыя выстаўкі склалася сама сабою.

Першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, калі пазнаёміўся з экспанатамі выстаўкі, звярнуў увагу на некаторыя пажаўцелыя старонкі, якія сталі ўжо гісторыяй: "ЛіМ" — старэйшая літаратурная газета. У плане паліграфічным мінулыя нумары, магчыма, адстаюць ад сучасных, але цікавасць да зместу вялікая. Вось, можна ўбачыць верш Петруся Броўкі, прамову Якуба Коласа, інфармацыю і фота пра тое, як Максім Горкі сустракаецца з памежнікамі ў нас, у Беларусі". "ЛіМ" не заўсёды быў роўны, — адзначыў Генадзь Пятровіч, — але самае галоўнае, што нумары перадаюць подых часу. У розныя эпохі ў "ЛіМа" быў свой почырк. І хочацца верыць, што сённяшні "ЛіМ" нашы паслядоўнікі праз 30, 50 гадоў будуць гартаць з не меншай цікавасцю".

Цяперашні галоўны рэдактар "ЛіМа" Таццяна Сівец падкрэсліла: у газеце "падаецца гісторыя краіны — гісторыя ў творчых асобах". Яна падзякавала музею за ініцыятыву і захаваныя экспанаты і заўважыла, што з лімаўскіх фондаў адбіралі для выстаўкі самае памятнае, "аддалі нават "звяздоўскі" парасон, падараваны газеце падчас святкавання 80-гадовага юбілею".

На сустрэчу прыйшлі былыя і сённяшнія супрацоўнікі штотыднёвіка, яго даўнія сябры і пастаянныя чытачы газеты. Амаль палова тых, хто прысутнічаў на адкрыцці выстаўкі, працавалі ў "ЛіМе" альбо плённа супрацоўнічалі з газетай шмат гадоў. Але, што асабліва цешыць, наведаліся і нашы чытачы, якія з цікавасцю слухалі ўспаміны творцаў.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы і літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, пісьменніца Раіса Баравікова аднесла сябе да старажылаў "ЛіМа" і згадала сваю пераддыпломную практыку, якую праходзіла ў газеце. Тыя "тры шчаслівыя летнія месяцы", калі яна патрапіла ў аддзел літаратуры (ім на той час загадваў Анатоль Грачанікаў, працаваў Міхась Стральцоў), — былі часам знаёмства з літаратурай. А пасля працавала ў штаце, друкавала публіцыстычныя нататкі і вершы.

Госць з Германіі Навум Цыпіс, па адукацыі народны настаўнік, згадаў напісаныя рэцэнзіі на вершы і заўважыў, што ў былыя часы "таго, хто друкаваўся ў "Нёмане" і "Полымі", прызнавалі беларускім пісьменнікам, а пра каго напісаў "ЛіМ" — прызнавалі крытыкі". Вельмі строгая газета была, і ўзровень яе быў вельмі высокі. Зрэшты, усе прамоўцы, у ліку якіх — Навум Гальпяровіч, Казімір Камейша, жадалі газеце доў-гага жыцця. Не абышлося і без прыемных сюрпрызаў: даўні сябар і аўтар "ЛіМа", член апякунскага савета музея Ганад Чарказян падараваў музею намаляваны ім партрэт Петруся Броўкі, а "ЛіМ" у падарунак ад музея атрымаў томік Петруся Броўкі, выдадзены ў серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі".




*Традыцыі і сучаснасць*

# …І падкову на шчасце

У гэтую суботу ў Зэльве адбудзецца гістарычны Ганненскі кірмаш. Галоўная яго асаблівасць — магчымасць набыць усё неабходнае для гаспадаркі і добра павесяліцца.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Права арганізоўваць такі кірмаш атрымалі калісьці ўладальнікі зямель князі Сапегі. Зэльвенскі не губляўся нават сярод расійскіх кірмашоў і з'яўляўся якраз той падзеяй, якая выходзіла за дзяржаўныя межы. Тут гандлявалі купцы з Украіны, Францыі, Саксоніі, Баварыі, Прусіі, Швецыі, Турцыі.

Дзякуючы Ганненскаму кірмашу Зэльва была вядомая ўсяму свету яшчэ ў XVIII стагоддзі. Мясцовыя ўлады вырашылі адрадзіць свята ў 2001 годзе. Сёлетні кірмаш з сучасных — шосты па ліку, ён набывае ўсё большы размах. Як вядома, асноўным таварам на кірмашах XVIII — XIX стагоддзяў былі коні. Таму не дзіўна, што выява каня адлюстравана на эмблеме Ганненскага кірмашу, а сярод мерапрыемстваў — конкурсы павозак і брычак.

Гандлёвыя рады будуць абсталяваныя ў стылі XVIII стагоддзя, для гандляроў і пакупнікоў падрыхтавалі стылізаваныя касцюмы той эпохі. Як вядома, кожны кірмаш прапаноўвае адмысловую забаўляльную праграму, таму вырашана не адыходзіць ад гэтага правіла — гасцей чакае тэатралізаванае прадстаўленне.

## Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі

**СМЯТАНІН Андрэй Віктаравіч**
*Дзіцячы пісьменнік*



Нарадзіўся 4 верасня 1970 г. ў г. Сакі Крымскай вобласці. Скончыў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт эканомікі і фінансаў. Аўтар 12 вершаваных кніг для дзяцей. Друкуецца ў дзіцячых часопісах Беларусі, Расіі і Украіны. Удзельнік многіх літаратурных конкурсаў, лаўрэат Міжнароднага літаратурнага конкурсу "Серебряный ручеёк" (2011), "Серебряное перо Руси" (2009 — 2011).

**РАШЭТНІКАВА Ніна Барысаўна**
*Перакладчык*



Нарадзілася 1 лістапада 1949 года ў г. п. Сапацкіно Гродзенскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дацэнт філалагічнага факультэта БДУ. Кандыдат педагагічных навук. Аўтар літаратуразнаўчых і навукова-метадычных артыкулаў. Пераклала з чэшскай мовы тры кнігі: "Немцава Бажэна. Бабуля: карціны вясковага жыцця" (2007), "Гэты цудоўны край — зямля чэхаў. Выбраныя старонкі з чэшскай літаратуры XIX ст." (2009), "Ад падання да рамана. Выбраныя старонкі з чэшскай прозы XIX — першай паловы XX ст." (2010).

*Глыбокае-2012*

## Знакамітым землякам

**Раіса МАРЧУК**

Горад Глыбокае, рыхтуючыся да Дня беларускага пісьменства, набывае абноўлены выгляд. Новае аблічча атрымаюць такія аб'екты культуры, як Глыбоцкі гарадскі дом культуры, гарадскі цэнтр культуры з тэатральнай залай імя І. Буйніцкага, гісторыка-этнаграфічны музей, дзіцячая школа мастацтваў, будынак былой бібліятэкі.

Як расказала намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Галіна Унуковіч, у скверы на плошчы 17 Верасня з'явяцца бюсты васьмі знакамітых выхадцаў з Глыбоччыны. Гэта пісьменнік, гісторык, этнограф, грамадска-палітычны дзеяч Вацлаў Ластоўскі, фалькларыст і мастак Язэп Драздовіч, паэт Алесь Дубровіч, акцёр, рэжысёр і заснавальнік беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі, фундатар храмаў Глыбоччыны Іосіф Корсак, генеральны канструктар авіятэхнікі, двойчы Герой Сацыялістычнай працы Павел Сухі, рэфарматар іўрыту — дзяржаўнай мовы Ізраіля — Эліэзэр Бэн-Ягуда і Герой Савецкага Саюза Пётр Казлоў.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

*Літабсягі*

# Святаполк-Мірскія — род слынны

Род Святаполк-Мірскіх у Вялікім Княстве Літоўскім быў вядомы як шляхецкі, а ў Расіі — як княжацкі. З XVI стагоддзя яго прадстаўнікі пісаліся толькі як Мірскія. Святаполк-Мірскімі яны сталі ў XVIII стагоддзі, "раскруціўшы" легенду, паводле якой іх род паходзіць ад самога Святаполка, сына вялікага князя кіеўскага Уладзіміра, жонкай якога была Рагнеда.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Род Святаполк-Мірскіх патрабуе да сябе не меншай павагі і ўвагі, чым, да прыкладу, знакаміты магнацкі род Радзівілаў. Справа не ў тым, хто больш зрабіў для Беларусі. Гаворка павінна ісці пра тое, што не ведаць Святаполк-Мірскіх — проста недаравальна. Толькі людзі, незнаёмыя з гісторыяй, могуць ставіцца да іх як да эксплуататараў. Варта прачытаць кнігу Эдуарда Карніловіча "Святополк-Мирские. Хранители чести", каб упэўніцца, як шмат зрабілі прадстаўнікі вялікага роду на карысць Радзімы.

Аўтар гэтага выдання — кандыдат гістарычных навук, дацэнт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, які больш як сорак гадоў піша пра дзеячоў рэвалюцыі, палітыкі, навукі, літаратуры, пры гэтым часта ўводзіць ва ўжытак малавядомыя, а то і зусім невядомыя факты. Ён упершыню так шырока расказаў пра Святаполк-Мірскіх. Са старонак кнігі паўстаюць шэсць іх прадстаўнікоў. Прычым двое з іх нават не згадваюцца ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Гэта генерал-лейтэнант, удзельнік Крымскай і руска-турэцкай вайны, герой Карса, член Дзяржаўнага Савета Расіі, двойчы дэпутат Дзярждумы Дзмітрый Мікалаевіч Святаполк-Мірскі, які шмат увагі надаваў развіццю сельскай гаспадаркі, маючы на гэта свой уласны погляд. Вярнуў Карніловіч з небыцця і Дзмітрыя Пятровіча Сятаполк-Мірскага, удзельніка Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, выдатнага даследчыка рускай літаратуры. Ды іншыя прадстаўнікі гэтага роду, пра якіх распавядае руплівы даследчык, — з тых, кім нельга не ганарыцца.




Несумненна, што з кнігай пазнаёміцца людзі, неабыякавыя да нацыянальнай даўніны. Ухвальна тое, што ёю распачата выданне новай серыі — "Забытая Беларусь". Дарэчы, за такую ўдзячную і патрэбную справу ўзялося ААТ "ФУАинформ".

*Арт-лінія*

# Моладзь + класіка

Няўжо і сапраўды амаль за месяц да пачатку свайго 75-га сезона Беларуская дзяржаўная філармонія парадуе публіку сімфанічным канцэртам? Так, афіцыйнае адкрыццё яе юбілейнага сезона мае адбыцца толькі 20 верасня. Тым не менш, 27 жніўня ў Вялікай зале галоўнай канцэртнай установы нашай краіны будзе гучаць сімфанічны аркестр. І які! У Мінск прыедзе маладзёжны інтэрнацыянальны сімфанічны калектыў "I, Culture orchestra 2012".

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Гэты аркестр паяднаў маладых выканаўцаў з дзяржаў-удзельніц "Усходняга партнёрства": Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Малдовы, Польшчы, Украіны. Незалежнае журы правяло папярэдні конкурсны адбор аркестрантаў. Высакакласныя спецыялісты з Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Расіі ды іншых еўрапейскіх краін праслухоўвалі таленавітых прэтэндэнтаў, наведваючыся ў сталіцы краін-удзельніц. А пралягаў маршрут гэтага "музычнага кастынгу" такім чынам: Варшава — Мінск — Кіеў — Кішынёў — Тбілісі — Ерэван — Баку. У тым самым парадку будзе разгортвацца і гастрольны тур маладзёжнага аркестра. Яго першае выступленне адбудзецца заўтра ў Варшаве, праз дзень гэты ўнікальны калектыў чакаюць у Мінску, а заключны канцэрт гастроляў прагучыць 2 верасня ў сталіцы Азербайджана — Баку.

Арганізаваны праект "I, Culture orchestra 2012" Інстытутам імя Адама Міцкевіча, што ў Рэспубліцы Польшча, у ліку партнёраў — Польскі інстытут у Мінску, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі.

Як вядома, такая міжнародная маладзёжная музычная імпрэза ажыццяўляецца не ўпершыню. І штораз не абыходзіцца без сюрпрыза: ці то нейкі адмысловы твор у праграме, ці то імя выканаўцы, здатнае заінтрыгаваць самых дасведчаных слухачоў. Канцэрт, які ладзіцца ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі 27 жніўня, прадставіць творы вялікіх майстроў: уверцюру-фантазію Пятра Чайкоўскага "Рамэа і Джульета", сімфанічную паэму Атарына Рэспігі "Фантаны Рыма", Эцюд сі-бемоль мінор Караля Шыманоўскага, Сімфонію № 8 соль мажор Антаніна Дворжака. Жывое выкананне нават знаёмай музыкі — гэта заўсёды сюрпрыз.




*Афіша канцэрта "I, Culture orchestra 2012" з партрэтам дырыжора Ілліча Рываса.*

Ды галоўная інтрыга для публікі — малады маэстра, які выступіць за дырыжорскім пультам. Яго імя Ільіч Рывас, ён родам з Венесуэлы, пры ім ужо не толькі талент, але і сусветнае прызнанне. А яму толькі дваццаць гадоў? Неверагодна... Варта парупіцца пра білеты!

*Повязі*

# Краток усміхаецца

"Чэшскі «Краток» прыехаў у Мінск" — пад такой назвай у галерэі "Універсітэт культуры" адкрылася выстаўка ілюстрацый да анімацыйнага фільма "Krtek" чэшскага мастака Здэнека Мілера. Гэта сумесны праект Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Дар'я ШОЦІК**

У экспазіцыі прадстаўлена 40 работ, да якіх у наведвальнікаў асаблівая ўвага, бо цікавіліся мультыплікацыйным персанажам у савецкім дзяцінстве многія. Дырэктар галерэі Наталля Барсукова адзначыла, што ілюстрацыі падзелены не на серыі з папулярнага мультфільма, а на поры года. Такім чынам, галерэю ўпрыгожваюць такія цудоўныя, маляўнічыя работы, як "Краток і снежная баба" (Зіма), "З кнігай у ложку" (Восень), "Крот і тачка" (Вясна), "Падарожжа ў парасоне" (Лета) ды іншыя. Ілюстрацыі для выстаўкі перадала дачка Здэнека Мілера Катаржына.

Дарэчы, мастака-аніматара Здэнека Мілера ва ўсім свеце ведаюць як унікальнага творцу, які падарыў усмешку і радасць не толькі дзецям, але і дарослым. Першая серыя пра "Кратка" выйшла ў 1956 годзе пад назвай "Як Крату штонікі сшылі" і ў 1957 годзе атрымала "Залатога льва" Венецыянскага кінафестывалю. Прынамсі, гэта была адзіная серыя, дзе выкарыстоўвалася мова. Ужо ў наступных мультфільмах персанаж не размаўляе, ён выдае смешныя гукі, піск, смех. Вядома, што розныя гукі прамаўлялі дочкі Здэнека Мілера. Усяго выйшла 57 мультфільмаў з "Кратком".

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі Йіржы Карас зазначыў:

— Краток заваяваў сэрцы не аднаго пакалення гледачоў. Гэта заслуга яго таленавітага стваральніка Здэнека Мілера, чалавека, які не проста любіў мультыплікацыю, меў свой непаўторны стыль, але і валодаў выдатным пачуццём гумару. Я ведаю, што і ў Беларусі яго вельмі любяць. Таму нам хацелася не толькі прывезці і паказаць ілюстрацыі сучасным беларускім дзецям, але і даць магчымасць папярэднім пакаленням атрымаць асалоду ад дабрыні і гумару гэтых малюнкаў.



Дарэчы, калі казаць пра культурныя стасункі Беларусі і Чэхіі ўвогуле, нельга не адзначыць, што кожныя два тыдні ў чэшскім пасольстве ладзіцца экспазіцыя беларускіх мастакоў, а зусім нядаўна ў Празе прайшла выстаўка "Душа Беларусі".

Дарэчы, пасля 8 верасня "Краток" будзе экспанавацца ў Гомелі.

*З-пад пяра*

➤ Міжнародная тэатральная летняя школа SYPEMEDA папярэднічае адкрыццю новага тэатральнага сезона і працуе ў Мінску з 19 па 31 жніўня. Школа аб'яднала беларускіх рэжысёраў, драматургаў, акцёраў, а таксама медыя-дызайнераў з розных краін Заходняй Еўропы. Тэма праекта — дыялог паміж традыцыйнымі тэатральнымі формамі і медыя-тэхналогіямі. Акрамя тэарэтычных заняткаў, удзельнікаў чакае практычная частка. Ёй стане стварэнне супольнага спектакля на тэму "Вавілонская вежа", які аб'яднае серыю вольных па форме, жанру і змесце эцюдаў. Такім чынам, гледачы, што прыйдуць на спектакль 30 і 31 жніўня ў Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, змогуць адкрыць для сябе розныя аспекты заяўленай тэмы.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

➤ Міжнародны фестываль "Вярнуцца ў Расію вершамі і прозай: рускамоўныя пісьменнікі па-за Расіяй", які праходзіў у польскім горадзе Слупск, сабраў больш як сто ўдзельнікаў з розных краін свету. Сваю творчасць гасцям прапанавала і Любоў Красеўская, намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нарадзілася і вырасла паэтэса ў Хакасіі.

**Анатоль МІКАЛАЕЎ**

➤ Выстаўка "Я з Брэста… Самвел Мацевасян", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння ўдзельніка абароны легендарнай цытадэлі, адкрылася ў мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць- герой". Намеснік палітрука 84-га стралковага палка 6-й стралковай дывізіі Мацевасян вызначыўся тым, што ўзначаліў першую контратаку на досвітку 22 чэрвеня. Цяжка паранены, ён апынуўся ў палоне, пасля пабегу трапіў да луцкіх партызан, пазней ваяваў на фронце. Удзельнічаў у штурме Берліна, вызваленні Прагі. У 1957 годзе ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга за ўдзел у абароне Брэсцкай крэпасці, ордэнамі Чырвонай Зоркі і медалямі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з выпадку смерці Уладзіміра Пятровіча БЕЛЬСКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным, блізкім і сябрам.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю Уладзіміра Пятровіча БЕЛЬСКАГА яго сваякам, сябрам і былым калегам.

Філалагічны факультэт, кафедра беларускай літаратуры і культуры Белдзяржуніверсітэта смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка, журналіста Уладзіміра Пятровіча БЕЛЬСКАГА і выказваюць шчырыя спачуванні сваёй калежанцы, старшаму выкладчыку кафедры беларускай літаратуры і культуры Т. У. Бельскай, а таксама родным і блізкім.

# Партрэт жанчыны незвычайнага лёсу

Мінуў тыдзень з дня адкрыцця выстаўкі “Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600-1800” у нясвіжскім Палацавым ансамблі. За гэты час больш як 5 тысяч чалавек падзівіліся на рэдкія экспанаты з “заморскай” калекцыі. Кожны прадмет, ад самага вялікага да мініяцюрнага, — гэта яскравы ўзор дэкаратыўна-прыкладного мастацтва XVII-XVIII стагоддзяў, своеасаблівы “маркер” эпохі. Веданне гістарычнага напаўнення, з якім цесна нітуецца жыццяпіс яго гаспадара і аўтара, набліжае нас да разумення тагачаснага ладу жыцця.

**Анастасія ПАДДУБСКАЯ, спецыяліст па сувязях з грамадскасцю ДУ “НГКМЗ “Нясвіж”**

Сённяшні аповед — першы з серыі замалёвак пра “каралеўскія шэдэўры” з калекцыі Музея Вікторыі і Альберта (www.vam.ac.uk). Гаворка пойдзе пра адзін з найцікавейшых экспанатаў, прадстаўленых на выстаўцы ў Нясвіжы. Партрэтная мініяцюра Гартэнзіі Манчыні, герцагіні дэ Мазарэн, выкананая Жанам Пеціта прыблізна ў 1675 годзе, адносіцца да першай тэматычнай секцыі, прысвечанай феномену каралеўскага заступніцтва ў Еўропе. З выявы, памерам усяго толькі 2,3 х 2,6 см, на нас глядзіць прызнаная красуня свайго часу, італьянка па паходжанні, любімая пляменніца кардынала Мазарыні, чарнавокая Гартэнзія Манчыні. Яе лёс, падобны да прыгодніцка-авантурнага рамана, здзіўляе і сёння.

Што азначала нарадзіцца прыгожай і разумнай жанчынай у перыяд росквіту ідэй Асветніцтва? Пэўную ролю ў тым, як склалася жыццё Гартэнзіі, адыграла яе прыналежнасць да знакамітай і ўплывовай сям'і.

## Жыццяпіс

Гартэнзія Манчыні нарадзілася 6 чэрвеня 1646 года ў Рыме. Яе бацька, барон Ларэнца Манчыні, памёр праз год пасля нараджэння Гартэнзіі. Маці вырашае даручыць выхаванне пяці дачок свайму роднаму брату — кардыналу Джуліа Мазарыні, першаму міністру Францыі пры Людовіку XIV. Так Гартэнзія апынулася ў Парыжы. Дзядзька ўсё жыццё клапаціўся пра пляменніц — з цягам часу ўсе яны добра павыходзілі замуж і сталі герцагінямі, княгінямі ці графінямі.


Гартэнзія Манчыні.


Карл Эмануіл герцаг Савойскі.

Калі Гартэнзіі споўнілася 13 гадоў, яе рукі папрасіў “апальны” кароль Англіі Карл II. Але ж кардынал адмовіў “жаніху”: кароль без каралеўства, фактычна жабрак, падаваўся не самай лепшай партыяй для прыгажуні. Але праз некалькі месяцаў лёс пакпіў з Мазарыні — Карл II заняў брытанскі трон. Час выйшаў — нават пасаг у 5 мільёнаў ліўраў не змог змяніць сітуацыю. Кароль не прыняў прапанову кардынала ажаніцца з Гартэнзіяй.

Пасля няўдалага сватання, рукі Гартэнзіі прасілі многія знатныя асобы — Карл Эмануіл герцаг Савойскі, стрыечны брат караля Людовіка XIV; герцаг Латарынгскі. Але 1 марта 1661 года ва ўзросце 15 гадоў Гартэнзія стала жонкай Арманд-Шарля дэ ла Порта, герцага дэ ла Мейрэ — аднаго з найбагацейшых людзей Еўропы.

Гэты саюз не стаў гарманічным, хоць Гартэнзія і нарадзіла чатырох дзетак. Нягледзячы на тое, што розніца ва ўзросце мужа і жонкі была не такая значная — 14 гадоў — адносіны паміж імі не складваліся. Герцаг дэ ла Мейрэ хутка стаў моцна раўнаваць жонку. Часам ягоныя прыступы рэўнасці межавалі з вар'яцтвам. У выніку Гартэнзія не вытрывала і збегла ад мужа. Так пачаліся яе вандроўкі па Еўропе. Пастанаўленнем французскага парламента Гартэнзіі было дазволена жыць асобна ад мужа ў асабістым палацы, але жанчына так баялася, што герцаг дэ ла Мейрэ дабярэцца да яе, што вырашыла ўсё ж такі пакінуць Францыю і накіравалася ў Мілан, дзе жыла яе сястра Марыя, жонка Ларэнца Анофрыа Калона, канетабля каралеўства Неапалітанскага.


Кароль Людовік XIV.

Так, 21-гадовая Гартэнзія Манчыні, герцагіня дэ Мазарэн, пачынае новае жыццё не толькі вольнай, але і, дзякуючы прызначанаму Людовікам XIV штогадоваму забеспячэнню ў памеры 24 тысяч ліўраў, багатай жанчыны. Пазней кароль пазбавіць яе гэтых грошай. Нагодай будзе занадта вясёлы лад жыцця і рэпутацыя легкадумнай жанчыны, апрача таго — інтрыганткі. Гартэнзія ізноў пакідае Парыж і з'яўляецца пры двары герцага Савойскага, які калісьці хацеў з ёй ажаніцца. Той пасяліў яе ў замку Шамбор.

Гартэнзія ў самым росквіце сваёй прыгажосці, літаральна кожны дзень яна мяняе строі. Яе займаюць як забавы — балі і паляванні, так і больш сур'ёзныя заняткі — літаратура і мастацтва. Яна становіцца гаспадыняй вытанчанага салона. Герцаг, яе даўні прыхільнік, бавіць час у кампаніі Гартэнзіі, прымушаючы ўласную жонку рэўнаваць. Калі ж праз тры гады, у 1675-м, ён паміpae, герцагіня дае зразумець Гартэнзіі, што ў Савоі для той больш няма месца.

Апошнім прытулкам красуні-італьянкі стала Англія. Праз 16 год пасля таго, як Карл II пасватаўся да юнай Гартэнзіі, яны ізноў сустрэліся. Ці абудзіліся былыя пачуцці, ці нарадзілася новае захапленне — невядома. Але Гартэнзія Манчыні стала фаварыткай караля. Аднак у большай ступені “дзякуючы” свайму свавольнаму нораву Гартэнзія не доўга заставалася ў гэтай якасці. Праўда, на гэты раз герцагіня дэ Мазарэн не пакінула краіну — прывабная, забяспечаная жанчына з вострым розумам і добрай адукацыяй напрацягу ўсяго жыцця карысталася папулярнасцю сярод асоб процілеглага полу. Побач з ёю было шмат тых, хто шчыра захапляўся гэтай жанчынай. Былі і такія, хто жадаў заняць у яе сэрцы месца караля…

Што засталося сучаснікам пасля смерці Гартэнзіі? Некалькі партрэтаў, па якіх можна меркаваць пра яе выключную прыгажосць, а таксама мемуары, якія яна напісала разам з сястрой Марыяй. (Дарэчы, мемуары сясцёр Манчыні былі другімі ў Еўропе пасля ўспамінаў, выдадзеных “каралевай Марго”, Маргарытай Наварскай.)

Такім чынам, усё жыццё Гартэнзія ішла, дакладней, бегла наперадзе — мужа, закона, плётак. Яна хацела быць свабоднай — і ў яе гэта атрымалася.

XV стагоддзе пакінула змены на палітычнай карце свету — адны дзяржавы згубілі былую моц у крывавых войнах, іншыя, наадварот, перажылі хуткае развіццё. Многія еўрапейскія краіны дасягнулі поспеху ў развіцці гандлю, тэхналогій, сельскай гаспадаркі. Адначасова павышаецца ўзровень грамадскай культуры. Іспанія, Італія, Нідэрланды становяцца лідарамі еўрапейскай моды і густу. У сферы палітыкі і культуры пануе Францыя ў асобе Людовіка XIV. Эпоха Асветніцтва адзначаецца росквітам навукі, інавацый, усталяваннем міжнародных стасункаў у многіх сферах жыцця. Побач з гэтым існуе феномен каралеўскага заступніцтва — многія мастакі, музыканты, філосафы і мысляры знаходзяць месца пры двары. Так з'яўляюцца шматлікія выявы манархічных і проста знатных асоб, якія ў свой час былі аматарамі мастацтваў і гуртавалі вакол сябе таленавітых майстроў розных жанраў. Адной з такіх асоб і была Гартэнзія Манчыні, герцагіня дэ Мазарэн.

Жан Пеціта — знакаміты майстар партрэтнай мініяцюры. Гісторыя гэтага віду мастацтва ахоплівае перыяд прыкладна ў два з паловай стагоддзі — XVII — сярэдзіна XIX ст. Гэта тэхніка давала магчымасць сумясціць вытанчанасць жывапісу з трываласцю вырабу. Апошняя якасць была немалаважнай, бо мініяцюры насілі ў медальёнах, імі ўпрыгожвалі гадзіннікі, табакеркі і г. д. Такія партрэты не выцвітаюць і захоўваюць яркасць фарбаў на стагоддзі. Пеціта давёў гэты від мастацтва да такой дасканаласці, што яго сталі называць каралём мініяцюрыстаў-эмальераў. Гэтаму спрыялі дасканалейшая тонкасць яго мастацкай манеры, уменне ствараць вытанчана прыгожыя рэчы. У розныя часы Жан Пеціта выканаў партрэты каралеўскай сям'і Карла I, а таксама герцага Букінгемскага і ягонай жонкі. Падчас рэвалюцыйных рухаў у Англіі мастак выехаў у Францыю, дзе працаваў пры двары караля Людовіка XIV. Магчыма, што ў гэты перыяд сярод шматлікіх выяў блізкай да манарха знаці з'явіўся і мініяцюрны партрэт герцагіні Гартэнзіі дэ Мазарэн (даследчыкі датуюць яго 1675 годам паводле адметнага стылю прычоскі).


Кардынал Мазарыні.

# Пачатак з канца,


Вера Вярба, жнівень 1971 г.

## ці Чаму Вера Вярба працягвае жыць у нашых сэрцах

*Апошні месяц літаратурны асяродак краіны быў узрушаны нечаканай навіной — памерла аўтарка знакамітых "Ручнікоў". Пад такім загалоўкам былі прыблізна аднолькавыя допісы — кароткія біяграфічныя даведкі. Як рэдкае выключэнне можна прыгадаць артыкулы, набудаваныя на ўспамінах пісьменнікаў, з якімі працавала Вера Вярба. Але ўсе яны распавядаюць пра адзін і той жа перыяд: пакуль паэтэса не пакінула літаратурнае жыццё. З пэўнага часу асоба яе стала ва ўсіх сэнсах загадкавай. Яна не з'яўлялася на літаратурных імпрэзах, нідзе, урэшце рэшт, не друкавалася. Больш за тое, Вера Вярба для многіх знікла з жыцця. Аднак тут нельга шукаць вінаватых. Пісьменніца тым часам адсвяткавала сваё 70-годдзе і не збіралася пакідаць гэты свет. Да юбілею Веры Вярбы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ўжо дзейнічала персанальная выстаўка. А ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры пачалі працаваць над экспазіцыяй пад назвай "Апякункі паэтычных нябёсаў", прысвечанай жанчынам-паэтэсам другой паловы XX стагоддзя. Акурат пасля свята мы, супрацоўнікі музея, звярнуліся да Гертруды Пятроўны з просьбай дапамагчы пры стварэнні выстаўкі і перадаць у фонды музея пэўныя матэрыялы з яе асабістага архіва. Вось так усё пачыналася…*



Экслібрыс В. Вярбы. Мастак В. Ціхановіч.

**Святлана ГАЙДУК,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

І досыць хутка на "Зімовай калыханцы" скончылася наша знаёмства са знакамітай паэтэсай Верай Вярбой. Хто б мог падумаць, што праз два тыдні пасля нашай просьбы напісаць аўтограф гэтага верша да новай выстаўкі "Калыханка ў нашым жыцці" пісьменніцы не стане. Так раптоўна і нечакана… Засталіся толькі шматлікія пытанні, што ўжо даўно былі таямніцаю для многіх: чаму паэтэса так хутка пакінула літаратурную працу; што паслужыла таму прычынай; ці працягвала пісаць далей; ці не сумнявалася ў правільнасці свайго выбару на карысць сям'і?..

За час літаратурнага затворніцтва (як можа хто-небудзь сказаць) Вера Вярба спаўна пераасэнсавала перажытае. Ад з'яўлення першага зборніка "Вочы вясны", калі паэтэсе споўнілася 20 гадоў, да апошняга "Яраслаўна" ў 1986 годзе. Пасля былі толькі выданні выбраных паэзіі. З кнігай "Апошні верасень", што выйшла ў 1995 годзе, прыйшло канчатковае творчае маўчанне. Аднак на гэтым не трэба паспешна ставіць кропку ў яе літаратурнай біяграфіі.

Вядома, што Гертруда Пятроўна апошнім часам спрабавала пісаць прозу. Толькі рабіла гэта, відаць, не для мройнай вядомасці. З часам лірыка, нават для творцаў, знікае, а патрэба пісаць застаецца. Так і вядомая паэтэса вырашыла паспрабаваць сябе ў новым амплуа. Да месца будзе згадаць, што прозу раней яна лічыла простым заняткам. Пішы сабе, маўляў, як думаеш. А ў паэзіі не так. Тут дзейнічаюць шматлікія законы (рытмікі, мелодыкі і інш.), падпарадкоўваючыся якім ты яшчэ мусіш вельмі лаканічна выкладаць свае думкі.

Незразумела толькі адно: чаму адораная самабытным талентам паэтэса магла сысці з літаратуры на вяршыні славы і прызнання? Улічваючы псіхалогію жанчыны, прааналізаваўшы некаторыя размовы з Гертрудай Пятроўнай, можна меркаваць, што яна проста стамілася. Стамілася ад няўдзячнай працы, якая патрабуе поўнай самааддачы. Стамілася ад таго, што яе лічылі проста прыгожай, абаяльнай жанчынай-паэтам, аўтарам адной тэмы — тэмы кахання. Менавіта яна, як слушна адзначаюць калегі па пяры, прынесла ў літаратуру чыстую жаноцкасць, якой раней так не хапала. Але ці толькі жаноцкасць была ў яе вершах? З такой аднастайнасцю яна не магла мірыцца, ды і пераконваць у адваротным нікога не хацела. Пісьменніца казала проста: "Ці можна назваць паэзію Ганны Ахматавай ці Марыны Цвятаевай толькі жаноцкай, слабай?" Адказ відавочны. Але не будзем уцягвацца ў гэтую невырашальную спрэчку, якой ужо некалькі дзесяцігоддзяў.

Ці патрэбны якія-небудзь тлумачэнні да наступных радкоў з верша "Кругі быцця":

*Кругі быцця акрэслены, як мукі,*
*Неразгаданай існасцю вякоў.*
*Апошні круг — твае, напэўна, рукі,*
*Зачараваныя замест акоў.*

*Я лёс знайшла. І свет мяне адрынуў.*
*З табой і дня не пражыла маной.*
*Кругі быцця… Успомню вочы сына,*
*Што сочаць неадступныя за мной.*

Пустую нішу пасля сыходу з літаратуры запоўніла любоў да сына. "Мой сын — маленькая планета", — пісала Вера Вярба яшчэ ў пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Усё жыццё яе акружалі мужчыны-творцы. У сваім хатнім архіве Гертруда Пятроўна захоўвала фотаздымкі з розных творчых сустрэч, паездак. Усюды яна адна сярод мужчын. Так і ў сям'і: хлопчыкаў яна любіла больш за дзяўчынак. Вельмі радавалася двум унукам.

Нягледзячы на вядомасць і таленавітасць, яна не патрабавала да сябе асаблівых адносін. Нікога ні ў чым не вінаваціла, не скардзілася на абставіны жыцця. Аднак вернасць ідэалам і прынцыпам захоўвала да канца. На пахаванні сын Юрый перадаў у фонды музея вельмі дарагую для яго маці рэч — пасведчанне сябра Саюза пісьменнікаў БССР. Атрыманае 27 сакавіка 1964 года (была яшчэ студэнткай 5-га курса філфака БДУ), а прадоўжана 29 снежня 1979-га. Гэта апошні дакумент, які фактычна звязваў паэтэсу Веру Вярбу з Саюзам пісьменнікаў. Яна не перадала яго адразу ў фонды музея, не пакінула для экспанавання. А вырашыла зберагчы для сябе як памяць пра былое.

*Беражы, калі гэта не скончыцца, —*
*Успаміну былое цяпло.*
*Мне жыццю так падзякаваць хочацца:*
*У другіх і таго не было.*

Падчас анатавання фотаздымкаў, што Гертруда Пятроўна прынесла на выстаўку, узнікала шмат пытанняў наконт таго, дзе і калі яны былі зробленыя, а таксама наконт невядомых асоб. Здавалася, такія капанні ў даўно мінулым не выклікалі ў пісьменніцы радасці. Гэта была тая старонка ў яе жыцці, якую яна штучна пахавала ў пажаўцелых ад часу здымках.

*Нас пакаленні зменяць у змаганні,*
*Сусвет убачаць з зорнай вышыні.*
*Хай ім пасвеціць і маё каханне*
*Маленькай зоркай ў сіняй цішыні.*

У многім мы мяркуем пра аўтара, асабліва паэта, па яго творчасці. Творчасць Веры Вярбы па праву можна назваць (што ўжо і рабілі раней некаторыя літаратуразнаўцы) лірычна-інтымным дзённікам. Яна ўвайшла ў наша жыццё прыгожай жанчынай-паэтам з вытанчаным станам, які захавала да канца жыцця. Яе высакароднасць выдавалі знешні выгляд і манера паводзін. Не згубіла пісьменніца з часам сваю непасрэднасць і пачуццё гумару.

Чалавек праходзіць у жыцці пэўныя этапы, "кругі быцця". Такія этапы нярэдка звязваюць з прыроднымі цыкламі: вясна — пачатак жыцця, яго чысціня, летуценнасць і наіўнасць; лета — першаснае сталенне, пошук адказаў на вечныя пытанні, красаванне; восень — лёсавызначальны выбар, духоўнае мацаванне; зіма — поўная цвёрдасць і ўпэўненасць у жыццёвай пазіцыі, шматлікія расчараванні, магчымая адзінота і скон. Вера Вярба прайшла ўсе кругі, але асаблівае месца ў яе творчасці займае вобраз вясны. Яна ўвайшла ў літаратуру летуценніцай з "*вачыма вясны*", крочыла на паэтычных хвалях "*Сіняй бухты*", а пайшла — ціха, незаўважна. Але… За зімой нязменна прыходзіць вясна, а за вясной… І так з году ў год адно кола часу змяняе другое…

Паэты таксама жывуць вечна…

*Лес спявае калыханку*
*Рэчцы і ракітам,*
*Каб заснулі яны ранкам*
*Ціхім сном блакітным.*

*І прыносіць вецер лесу*
*Калыханкі спевы,*
*Каб заснулі да прадвесня*
*Усе лясныя дрэвы.*


Вера Вярба з сынам Юрам.

# Пах каракумскай вады

Запозненая вестка прыйшла з Туркменістана. Спярша Агагельды Аланазараў, а затым Атаджан Таган напісалі, што пайшоў з жыцця публіцыст, літаратуразнаўца, кінасцэнарыст Какалы Бердыеў.

Здаецца, яшчэ нядаўна прыходзілі ад яго лісты... Вось і гэты, на бланку рэдакцыі часопіса "Савет эдэбіяты" ("Савецкая літаратура") ад 22 мая 1990 года ляжыць перад вачыма: "Саша, добры дзень! Ліст твой, напісаны 12 красавіка, атрымаў толькі што — 20 мая. Рады, што ты вяртаешся з далёкай і доўгатэрміновай камандзіроўкі. Я не ведаю, ці атрымаў ты ганарар за нарыс пра Керыма Курбанняпесава, але ён быў надрукаваны ў мінулым годзе ў 10-м нумары. У нас у рэдакцыі застаўся толькі адзін экзэмпляр у падшыўцы. Таму я не магу выслаць часопіс, проста не знайшоў.

Дасылаю сваю кнігу нарысаў, якая выйшла ў Маскве. Пішу мала. За пяць гадоў пабудаваў сабе ў родным ауле лецішча. Прыязджай. Цяпер крыху вызваліўся. Будзем пісаць сельскія нарысы.

Часопіс дзейнічае. Калектыў амаль той самы, дружны. Заўсёды рады сустрэчы.

З братэрскім прывітаннем Какалы Бердыеў. 22 мая 1990 года. Ашхабад".

Поруч з Какалы Бердыевым у часопісе "Савет эдэбіяты" росшукамі лепшых мастацкіх твораў займаліся яго сябры, аднадумцы: галоўны рэдактар — вядомы паэт Байрам Джутдзіеў; намеснік галоўнага — празаік Нарклыч Хаджагельдыеў; у аддзелах — Шыралі Нурмурадаў, Анналы Бердыеў. Апошні са згаданых — родны брат Какалы, перакладчык Янкі Купалы. А Нарклыч Хаджагельдыеў пераклаў на туркменскую мову адзін з раманаў Івана Чыгрынава.

Была ў Какалы Бердыева яшчэ адна ніточка, што яднала яго з Беларуссю. У 1960 годзе ў Ашхабад прыехаў Алесь Адамовіч. Разам з Какалы яны падарожнічалі па Туркменістане, пазнаёміліся з будаўніцтвам Каракумскага канала. Як вынік — з'явіліся сумесныя публікацыі ў туркменскім часопісе "Савет эдэбіяты", беларускім "Полымі", маскоўскім часопісе "Дружба народов". У "Полымі" нарыс Алеся Адамовіча і Какалы Бердыева называўся "Зялёнае — колер шчасця".

Чытаем у красавіцкім за 1961 год нумары "Полымя": "Ашхабад, "чорныя пяскі", Туркменія...

Аднаму з нас, аўтараў, — гэта штосьці з кнігі. Другому — гэта тое, адкуль для яго пачаўся свет, жыццё, край, дзе ён нарадзіўся, вырас.

Пустыня! Яна і з самалёта не выглядае менш уладарнай. Пляміста жоўтая, у воспінах белых саланчакоў і такыраў, з перарывістымі выгінамі высахлых рэчышчаў, што нагадваюць арабскія пісьмёны, яна такая ўсеабдымная, што мімаволі думаеш: якое ж вялікае павінна быць тое, што здолела б, ужо не кажам перамагчы, але хоць абмежаваць уладу гэтага мёртвага акіяна.

Варта ступіць на туркменскую зямлю, як адразу адчуеш "прысутнасць" каракумскага канала, хоць да яго і некалькі соцень кіламетраў. Да канала ляцяць не толькі птушкі. І думкі ўсе імкнуцца туды..."

У нарысе Алеся Адамовіча і Какалы Бердыева апавядаецца і пра сустрэчу з туркменскім паэтам Ата Саліхам. "... вяртаючыся ад Бяшымава ў Мары, мы былі яшчэ ў аднаго чалавека, што гэтак жа цвёрда і проста ідзе па жыцці. А чалавек гэты сляпы. І ўсё роўна ён лепш за многіх відушчых убачыў у свой час правільную дарогу ў жыцці і другіх вёў за сабою. І калі сёння туркмен — зусім не той чалавек, якога перамanьвалі ў Афганістан басмачы, палохаючы, што калгас — гэта агульныя жонкі, калі сёння госці з Пакістана, Індыі, Афганістана бываюць уражаныя не толькі маштабамі будаўніцтва, але і тым, якія тут людзі, дык ёсць у гэтым заслуга і народнага паэта Ата Саліха..."

У таго ж Ата Саліха ёсць лірычная паэма "Слова ад шчырага сэрца". І Алесь Адамовіч, і Какалы Бердыеў, распавядаючы руплівую працу будаўнікоў Каракумскага канала, пісалі ад сэрца, з любоўю да людзей. Гэтая ж любоў, гэтая ж адкрытасць кіравала і Какалы Бердыевым, калі ён расказваў туркменскаму чытачу пра Янку Купалу і беларускую літаратуру.

За гэта і наша беларуская ўдзячнасць светлай памяці Какалы Бердыеву.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Паміж воляй і доляй




Новы раман "Мастак і парабкі" Віктара Карамазава патрабуе чытання няспешнага і размеранага. Гэтак жа нетаропка цячэ жыццё галоўнага героя — рускага мастака-перасоўніка Мікалая Неўрава, які прыехаў у беларускую вёску Лыскаўшчыну ў пошуках каларытнай натуры для напісання "запаветнай" карціны, "святыні-таямніцы" — своеасаблівага духоўна-творчага выніку. Пісьменнік не ставіць задачу захапіць-прывабіць чытача вострым дзеяннем, нечаканымі паваротамі сюжэта. Раман з'яўляецца не першай спробай празаіка ў жанры мастацкай, або белетрызаванай, біяграфіі. Напісаўшы даволі вялікую колькасць прысвечаных мастакам твораў ("Крыж на зямлі і поўня ў небе", "Мой брат духоўны", "Краса і воля", "Брама", "Антон" і інш.), В. Карамазаў здолеў выпрацаваць уласныя мастацкія падыходы да жыццяпісу.

**Ала БРАДЗІХІНА**

У цэнтры сюжэта рамана — падзеі апошніх месяцаў жыцця мастака, якія і прывялі яго да сумнага фіналу: Неўраў застрэліўся. Менавіта загадкавая смерць і матывы суіцыду становяцца прадметам увагі В. Карамазава: "Найбольш мяне цікавіла сама трагедыя, з чаго яна ўзялася, шукаў прычыну незвычайнай смерці. Бо тое, што пісалі газеты: «Дыягназ — нервы», — не пераконвала. Мастак — вязень красы жыцця і гэтак лёгка, капрызам нерваў, сваё жыццё аддаць не можа". Акрамя згаданага аўтарам лаканічнага паведамлення ў тагачаснай прэсе, сёння амаль не засталося крыніц, якія б утрымлівалі інфармацыю пра апошнія гады Неўрава. Такая скупасць, сціпласць дакументальнага матэрыялу спрыяла ўзмацненню суб'ектыўнага пачатку рамана.

> "Мне хацелася ўбачыць мастака такім, якім ён быў у нашай вёсцы, — псіхолагам, рэалістам-народнікам, чалавекам высокай культуры, вялікай душы і мужнай шчырасці, творча актыўным і годным перад любою ўладай і сілай, — убачыць мастака ў асяроддзі тагачаснай беларускай прыгнечанасці і пакоры, выявіць яго рэакцыю на небяспеку, якую нясе ў сабе памяркоўнае суіснаванне агіднага дэспатызму і вольнага творчага духу".

Пісьменнік імкнецца як аднавіць мадэль падсвядомых зрухаў Неўрава, так і рэканструяваць той ланцужок падзей, якія прывялі мастака да самазабойства. Іншымі словамі, пры наяўнасці дакументальнай асновы неабходнага ўнікання выдуманых падзей і фактаў (недарэмна адным з сінанімічных тэрмінаў жанру з'яўляецца "фактаграфічная мастацкая біяграфія") празаік у рамане не прытрымліваецца. Аднак у творы не толькі адлюстраваны храналагічна абмежаваны перыяд (апошняя вясна), даволі вялікае месца займае тут рэтраспектыўны паказ купецкага дзяцінства і часу навучання ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, стасункаў з калегамі і настаўнікамі Скоцці, Сурыкавым, Паленавым, Рэпіным, Васняцовым і інш., пераказ малавядомых цікавых выпадкаў з жыцця героя. Не меншая роля ў раманнай структуры надаецца, так бы мовіць, жывапіснаму складніку: вытлумачэнню матываў напісання той ці іншай карціны, інтэрпрэтацыі творчасці Неўрава ў цэлым, тыпалагічнаму параўнанню яго творчасці з іншымі жывапісцамі, даволі цікавым развагам пра сутнасць мастацтва ўвогуле (параўнанню яго з чараўніцтвам, паляваннем, судом, акцёрскай прафесіяй, з якой яго яднае пераўвасабленне стваральніка ў ролю пэўнага героя, апраўданню марадзёрства дзеля мастацтва і інш.). Пры гэтым В. Карамазаў не дае разгорнутых характарыстык, абмяжоўваючыся кароткімі трапнымі ацэнкамі, што ў сукупнасці складваюцца ў цэласную карціну. Адчуваецца, што аўтар знаёмы з тэхнікай жывапісу не толькі завочна. Пра гэта сведчаць і адметныя пейзажныя замалёўкі. Насычаныя колерам і тонкімі яго адценнямі, эфектамі святла і ценю, багатыя на візуальныя, рэчыўныя дэталі, яны ўспрымаюцца не дэкаратыўнымі, а функцыянальна актыўнымі кампанентамі і, па сутнасці, выступаюць сродкамі псіхалагізму, надаючы аповеду пра славутага мастака натуральнасць і арганічнасць.

Аднак найчасцей аўтар звяртаецца да сродкаў прамога псіхалагізму. Прастора рамана напоўненая ўнутранымі маналогамі, снамі, галюцынацыямі галоўнага героя. В. Карамазаў прадстаўляе чытачу Неўрава як невядомы "нехрэстаматыйны" вобраз, з яго страхамі і сумненнямі, няўпэўненасцю і нават бяскрыўднымі прыхамацямі. Паслядоўна адлюстроўваюцца і праявы нервовай хваробы мастака: рэзкія перапады настрою, прыступы меланхоліі, зацятая маўклівасць, эмацыянальная нястрыманасць і выбухі гневу. Уласцівая вобразу Неўрава дэпрэсіўная акцэнтуацыя абумоўленая разуменнем пісьменнікам прычын трагедыі, дзе афіцыйная версія — хвароба — выступае толькі наступствам страты абсалютнай для кожнага мастака каштоўнасці — натхнення. Творчы крызіс, у сваю чаргу, тлумачыцца адсутнасцю той самай натуры — каларытных народных тыпаў, пошук якіх і прывёў сталічнага мастака ў глухую беларускую вёску. Неўраву вярэдзіць душу шматгадовая адсутнасць вынікаў сваёй працы. Незадаволенасць сабой выклікае трывогу — і метафізічную, што праяўляецца ў слыхавых і зрокавых галюцынацыях, і ўцялесненa-матэрыяльную, увасобленую ў чужой мастаку лакальнай прасторы — Лыскаўшчыне. Эскапічныя матывы ўзмацняюцца поўнай адзінотай і стомленасцю Неўрава, праблемамі яго асабістага, сямейнага жыцця, непрыманнем і неразуменнем вёскі, да спасціжэння космасу якой першапачаткова так імкнуўся мастак, расчараваннем у народзе, якім раней, на адлегласці, так захапляўся. Пісьменнік па-майстэрску фіксуе псіхалогію афектаваных станаў, што папярэднічалі звядзенню рахункаў з жыццём. Больш за тое, псіхалагізм для В. Карамазава і свядомы эстэтычны прынцып, і метастылёвая з'ява.

Стварыць перакаўнаўчы вобраз рэальнай гістарычнай асобы В. Карамазаву ўдаецца праз умелае выкарыстанне метаду псіхалагічнай эмпатыі — спасціжэння не знешняга, а ўнутранага, своеасаблівага "ўчування", у тым ліку разумення душы мастака праз плён яго працы — карціны. Аднак верагоднасць, праўдзівасць галоўнага персанажа рамана "Мастак і парабкі" зніжаецца на моўным узроўні, дзе сустракаюцца словы і выразы, наўрад ці ўласцівыя чалавеку пачатку XX стагоддзя, да таго ж інтэлігенту: "<…> яшчэ і нос у зямлю не глядзеў, як у іншых *бульбашоў*"; "накастыляе" (у сэнсе "паб'е"); "Але яшчэ ў мяне душа. Таксама з *псіхамі*. Яна не кожную жанчыну да сябе падпусціць"; "А як пісаў Дэлакруа "Свабоду, што вядзе народ"? З каго ляпіў *пасіянарную* [у значэнні тэрміна, уведзенага М. Гумілёвым. — **А. Б.**] жанчыну, якой мадэлі даў у рукі вольны сцяг?" і інш.

Пры гэтым вобраз Неўрава канкрэтна-гістарычны і абагульнены адначасова, ён увасабляе свабодалюбівага Мастака, які супрацьпастаўляецца прыніжаным і бязвольным парабкам-рабам. У адрозненне ад галоўнага героя, постаці складанай і супярэчлівай, іншыя вобразы-персанажы рамана (генерал Чарняеў, памешчык Лупандзін, сяляне Параска, Гіра, Восіп, Марыйка), падаюцца аднапланавымі. Тут В. Карамазаў звяртаецца да лейтматыўнага спосабу стварэння партрэтаў: у характарах кожнага вылучаюцца адна-дзве рысы, якія настойліва падкрэсліваюцца на працягу ўсяго твора. Так, у вобразе расійскага памешчыка — "каршука" і "цмока" — Лупандзіна нічога не сведчыць пра звычайныя чалавечыя праявы, ён надзелены ўсімі магчымымі грахамі — ад ганарлівасці і самалюбавання да дэспатызму. Лупандзін надзвычай жорстка абыходзіцца з сялянамі, сям'я гэтак жа пакутуе ад тырана. Невыпадкова абраны і атрыбут гэтага героя — ён не расстаецца з бізуном, які ў адным з эпізодаў сімвалічна ламае мастак. Увогуле, падобныя псіхалагізаваныя дэталі і характаралагічныя знакі — адметная рыса стылю В. Карамазава: з першых і да апошніх старонак Неўрава, да прыкладу, суправаджае стрэльба, што ўрэшце стане сродкам самазабойства; сялян чытач бачыць у нязменнай позе — на каленях перад панам. Нават у плямах-накідах да запаветнай карціны замест вояў Рагвалода Неўраву бачацца сагнутыя спіны парабкаў.

В. Карамазаў выкарыстоўвае не толькі шматразовы паўтор варыятыўных ці сінанімічных мастацка-вобразных структур, але і аўтакаментары, своеасаблівыя падказкі чытачу (тую ж ролю выконваюць пралог і эпілог рамана). Так, да прыкладу, атмасферу трывогі перад самазабойствам стварае шэраг злавесных знакаў-сімвалаў: з'яўленне кажаноў, знікненне вернага сябра мастака сабакі Каштана, поўня, — значэнне якіх тут жа вытлумачваецца пісьменнікам: "штосьці непакоіла і кажаноў"; "поўня жыцця ці поўня смерці".

Досыць празрыста і часам дыдактычна сцвярджаецца і галоўная ідэя твора — "выціскаць з сябе па кроплі раба". Аўтар не пакідае чытачу магчымасці адвольных асацыяцый, вытлумачваючы канцэпцыю твора яшчэ ў прадмове: "Мне хацелася ўбачыць мастака такім, якім ён быў у нашай вёсцы, — псіхолагам, рэалістам-народнікам, чалавекам высокай культуры, вялікай душы і мужнай шчырасці, творча актыўным і годным перад любою ўладай і сілай, — убачыць мастака ў асяроддзі тагачаснай беларускай прыгнечанасці і пакоры, выявіць яго рэакцыю на небяспеку, якую нясе ў сабе памяркоўнае суіснаванне агіднага дэспатызму і вольнага творчага духу". У найбольш агульным выглядзе цэнтральная праблема рамана зводзіцца да сутыкнення наступных апазіцый: мастак — раб (згаданая антытэза абазначаная ўжо ў назве), свабода — заняволенасць, годнасць — прыніжэнне, пасіянарнасць — індыферэнтнасць, доля і воля. Пры гэтым у рамане даследуецца рабства як з'ява. Пагарда да яго прагля-даецца амаль у кожным маналогу Неўрава, і суб'ект, і аб'ект прыніжэння аднолькава агідныя для мастака. Пазіцыя героя даволі катэгарычная, бо "халопы не людзі. У іх, як у быдла, ярмо на карку. Яны яго ўсё жыццё валакуць і маўчаць. За кус хлеба, за лыжку полўкі. І быдла той, хто быдлам чалавека робіць. Быдла быдлу патрэбнае".

Менавіта такім бачыцца Неўраву беларускі селянін: пакорлівым, ціхім, які жыве не розумам, а страхам. Гатоўнасць тутэйшага народа да рабства вытлумачваецца праз увядзенне гістарычных рэмінісцэнцый, хаця і даволі прасталінейна: у XII стагоддзі на гэтых землях было Друцкае княства, дзе працвітаў гандаль рабамі, кроў якіх і цячэ ў жылах мужыкоў. Адметна, што тыя нешматлікія жыхары вёскі, якія хоць у нейкай ступені надзеленыя годнасцю, — Гіра, Параска, Пракоп і яго сыны, Глафіра, — нетутэйшыя, што неаднаразова падкрэсліваецца аўтарам. Мастак заглыбляецца ў гісторыка-культурныя развагі, супастаўляючы ментальнасць, дакладней — схільнасць да пасіянарнасці, насельнікаў Малой і Белай Русі, і вынікі гэтага параўнання не суцяшаюць. Таму Неўраў, як ні імкнецца, не можа прыняць і зразумець вёску. Спрабуе спасцігнуць душу народа праз яго мову, жыве аскетычна, па тутэйшых законах, усяляк дапамагае сялянам, абараняе іх перад Лупандзіным, шчодра, па маскоўскіх расцэнках, плаціць натуршчыкам, дае ўрокі жывапісу адоранаму хлопчыку, а мужык — той, дзеля каго тут жыве мастак, — застаецца абыякавым да яго творчасці. Выключэнне складаюць толькі жанчыны гэтага краю, вобразы якіх выпісаныя з асаблівай любоўю. Яны ўяўляюцца мастаку (а мова галоўнага героя ў рамане нярэдка зліваецца з мовай наратара) таямніцай — бо яны не рабыні, святыя — бо яны маці. Жанчыны ад прыроды надзеленыя больш тонкім разуменнем мастацтва і годнасцю. Магчыма, таму лепшае, што стварыў Неўраў за апошняе дзесяцігоддзе, — гэта эцюд Парасці, жанчыны, якая дапамагае мастаку па гаспадарцы, і якую ён па-свойму кахае.

Сваю місію Неўраў бачыць у тым, каб узняць з каленяў тутэйшых сялян, у стварэнні карціны, дзе прататыпамі Рагвалода і яго вояў стануць вясковыя мужыкі. Мастак прыпадабняецца да біблейскага Майсея, які здольны прывесці свой народ да волі. У кантэксце развагі пра татальнае рабства соцыуму — і пан, і генерал, на думку пісьменніка, з'яўляюцца парабкамі ў цара — толькі мастак валодае ўнутранай свабодай. І хаця, здавалася б, Неўраў прыходзіць да высновы пра дваістую сутнасць беларуса — воя і парабка, знаходзіць новы дом, завяршае працу над карцінай, урэшце ён свядома, не праз "капрыз нерваў" (пра гэта сведчыць той факт, што мастак раздае маёмасць, спальвае свае работы — падводзіць своеасаблівую рысу) выбірае смерць, што, на першы погляд, выглядае не зусім лагічна. Аднак у пралогу да рамана падаецца аўтаінтэрпрэтацыя трагічнага зыходу: "У нашай сітуацыі фізічная смерць ратуе духоўнае жыццё, і гэта — перамога жыцця над смерцю". Гэтая перамога свабодалюбства і годнасці над пакорай і страхам уласціва толькі Асобе. Як бачым, галоўная прычына самагубства — боязь мастака ператварыцца ў свайго антыпода — парабка. А што народ, які выступае адрасатам мастацкіх палотнаў і крыніцай натхнення жывапісца? Развязка прыводзіць да сумнай высновы: паміж воляй і доляй мужык заўсёды выбірае долю.

> Стварыць пераканаўчы вобраз рэальнай гістарычнай асобы Віктару Карамазаву ўдаецца праз умелае выкарыстанне метаду псіхалагічнай эмпатыі — спасціжэння не знешняга, а ўнутранага, своеасаблівага "ўчування", у тым ліку разумення душы мастака праз плён яго працы — карціны.

# Свая эпоха

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Схільнасць да маралізатарства і дыдактызму можна было б растлумачыць узростам, але аўтару зборніка "Пры святле маланак" не было нават пяцідзесяці гадоў. Для сучаснага чалавека, які не асабліва верыць, што можа нешта змяніць у свеце, тагачасная заклапочанасць вялікімі праблемамі падаецца наіўнай і марнай — таму і складана ўявіць светапогляд былога франтавіка 60-х гадоў, тым больш — шчырага камуніста.

Але і сам паэт усведамляў, што "пісаў занадта гучна", і ў 1964 годзе абгрунтоўваў права на гэта наступным чынам:

*Мы плацілі вялікую плату*
*За шчаслівы наш дзень.*
*Дык чаму ж*
*З-за каня, з-за палена без гневу*
*Удава б'е паклоны царку?*

Пазней, у 1983 годзе, з'явіліся і іншыя думкі:

*Пара праўдзівей і цішэй,*
*Да сэрца нечага бліжэй,*
*А гэта ў сотні раз цяжэй.*
*А ці пачуюць, ці пачуюць?*

Працытуем Таццяну Шамякіну, якая наступным чынам характарызавала светаадчуванне пісьменнікаў-франтавікоў: "Творцы, што ўліліся ў склад Саюза беларускіх савецкіх пісьменнікаў пасля прыходу з фронту, былі сацыяльна ўпэўнены ў сабе, у сваёй праўдзе: яны прызвычаіліся да ініцыятывы, да самастойнага прыняцця рашэнняў у сітуацыях самых неспрыяльных і незвычайных. Ужо хоць бы па гэтай прычыне іх нельга назваць ахвярамі камуністычнага міфа: яны кожны па-свойму, адпаведна свайму жыццёваму вопыту, глядзелі на свет і ўмелі бачыць у ім розныя бакі — інакш бы не сталі пісьменнікамі. Гэта сур'ёзныя, высакародныя людзі, якія ведалі адносна сябе, што яны — пераможцы, што сваю галоўную справу ў жыцці яны зрабілі годна…"

Гэтае веданне, здабытае "вялікай платай", якраз і тлумачыла панчанкаўскую патрабавальнасць: ці вартая новая бытнасць пралітай за яе крыві? Паэт, напрыклад, са здзіўленнем заўважаў:

*Здаецца, вырвалі карэнне,*
*Няма ў мінулае шляхоў.*
*Ды бачым зноўку паўтарэнне*
*Усіх запыленых грахоў...*

У сярэдзіне 70-х Пімен Панчанка яшчэ нібы верыў у надыход камунізму, *"Дзе б жыў, рабіў і быў шчаслівы, / Сумленны кожны чалавек"*, і ў тым ліку з гэтай падставы рэзка абураўся хапугамі і бюракратамі, якія не проста шкодзяць грамадству, а яшчэ і адтэрміноўваюць надыход "чаканага веку".

Наўрад ці варта тут распачынаць разважанні пра грамадзянскую пазіцыю паэта, бо яна ніколі не вызначала літаратурную вартасць творчасці. Трэба, аднак, заўважыць, што яшчэ ў паэме "Маладосць у паходзе", напісанай у 1945 годзе, Пімен Панчанка вельмі самакрытычна згадваў камуністычнае юнацтва: трыумфальнае раскулачванне аднавяскоўцаў і адмаўленне народнай культуры, якую замяніла піянерская "Картошка". Адчуванне памылковасці пэўных працэсаў у савецкай дзяржаве з'явілася ў Панчанкі раней за XX з'езд КПСС ці пачатак перабудовы — яе пісьменнік наогул не ўспрыняў, бо, відаць, яшчэ дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР зразумеў кошт высокай рыторыкі. Але 80-я і 90-я гады сталі для Панчанкі не толькі перыядам відавочнага бязладдзя і гаспадарчага крызісу, але і часам актуалізацыі нацыянальных пытанняў. Тут паэт быў зноў рашучы і катэгарычны — ад "Ільяной і жытнёвай" да радыкальнага "Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці…"

Панчанка-публіцыст звычайна перамагаў Панчанку-мастака — і Пімен Емяльянавіч, як бачым, сам усведамляў, што талент ягоны — не лірычнага кшталту. У яго зусім няшмат мінорных, медытатыўных вершаў, з якімі звыкла асацыіруецца паэзія, і тлумачыцца гэта, відаць, не толькі літаратурнымі тэндэнцыямі, але і асаблівасцямі пісьменніцкага тэмпераменту. Затое публіцыстычная скіраванасць рабіла магчымым стварэнне сапраўды вольных, не скаваных метрамі і памерамі вершаў, а таксама вызначала заўсёдную звернутасць да адрасата: нават калі паэт не вучыць, не выхоўвае, не дакарае, то абавязкова ***камусьці*** распавядае, нагадвае ці тлумачыць. Гэта дакладна паэзія ***не для сябе*** — і таму для сучаснага літаратара, пазбаўленага ілюзіі "з цэлым народам гутарку весці", яна можа падацца і празмерна самаўпэўненай, і безапеляцыйнай.

Вершы Панчанкі звычайна напісаныя на эмоцыі, і часу на пошук эксклюзіўнай метафары ў аўтара, здаецца, не было. Але выдатныя знаходкі ў паэта, безумоўна, ёсць. Пра вясковых кабет, якія на старасці жывуць у гарадскіх кватэрах, Панчанка пісаў так:

*Іх кожная далонь*
*Па працы ўсё сваербіць*
*Па той сялянскай,*
*Залатой і чорнай.*

І ўжо адзін гэты вобраз, магчыма, варты звання Народнага паэта…

Пімен Панчанка пражыў 78 гадоў, і яго творчасць адлюстроўвае гістарычны шлях Беларусі на працягу амаль усяго гэтага часу. Па ёй, напрыклад, можна вывучаць этапы грамадска-палітычнага жыцця ў нашай краіне. Галоўнае ж, што ў вершах ваенных гадоў, у творах, прысвечаных Радзіме і роднай мове, бадай, назбіраецца тая колькасць праніклівых, суладных — у сваёй эмацыйнасці, заклапочанасці ці замілаванасці — радкоў, якая дазваляе паэту лічыцца класікам беларускай літаратуры…

## Пісьменнік і час

# Кніга без аўтографа

**Напісаць востры фельетон ці байку гэтак жа няпроста, як і цікавае апавяданне. У выдавецтве "Смэлтак" пабачыла свет кніга вядомага беларускага сатырыка, гісторыка па адукацыі Міколы Вяршыніна "Вочы ў вочы", якую падрыхтавала да друку ягоная жонка Ніна Тарасаўна.**

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ**

Што ж да стрыжня твораў паэта-сатырыка Міколы Вяршыніна, то ключавым, сабраным у лінзу кніжных вобразаў, з'яўляецца людскі характар. Гэта цэнтральны нерв вяршынінскай байкі, фельетона, мініяцюры, дзе жывуць па-суседску высокае і нізкае, трагічнае і камічнае, годнае ўвекавечання альбо асуджанае на забыццё.

Паэт-сатырык у сваіх творах надзвычай дакладны ў кожным павароце сюжэтнай лініі, ён піша толькі пра тое, што добра ведае, што сам бачыў і перажыў, прымушаючы чытача суперажываць, а іншы раз і сябе ставіць на месца літаратурнага героя.

Зрэшты, творчасць Вяршыніна — гэта сувязь недалёкага мінулага з балючымі і моцнымі вузельчыкамі народнага сумлення. Паэт-сатырык праўдзіва і вобразна, без асаблівага метафарычнага хараства, простай гутарковай мовай, перадае чытачу абставіны таго часу, калі жыў і твары (нарадзіўся пісьменнік 20 мая 1940 года ў горадзе Чэрвені Мінскай вобласці і памёр 15 лістапада 2009-га). Бацькі Міколы загінулі напачатку вайны, нейкі час яго выхоўвала цётка, а потым хлапчук апынуўся ў дзіцячым доме. Мабыць, цяжкае маленства і адбілася на ягоным лёсе і творчасці, загартавала характар будучага пісьменніка. Можа, менавіта таму ў сваіх творах ён высмейвае (часам горка-іранічна) прытворшчыкаў, аферыстаў, дробных чыноўнікаў, бюракратаў, мяшчан, усялякія парушэнні ў грамадстве — казнакрадства, чыноўніцкі дэспатызм, маральна-бытавую разбэшчанасць. *"Даведак колькі ні давай, // З казы не зробіш ты каровы"*, *"…Хто ходзіць перадам назад — // Мазгі не перайначыць!"*. Гэта радкі з новага зборніка "Вочы ў вочы", выдадзенага жонкай сатырыка Нінай Вяршынінай, якая актыўна займаецца захаваннем літаратурнай спадчыны пісьменніка (фінансавую падтрымку аказала ТАА "Валандэ").

Ніна Вяршыніна і яе нешматлікія памочнікі імкнуцца ўвекавечыць светлую памяць паэта: надрукаваць усе вяршынінскія творы, адкрыць у горадзе Чэрвені, дзе нарадзіўся і выхоўваўся паэт, у адной з сярэдніх школ музей, як, дарэчы, і ажыццявіць мару пісьменніка — змесціць на доме, дзе ён жыў і працаваў, мемарыяльную дошку.



Ніна Вяршыніна — захавальніца спадчыны сатырыка Міколы Вяршыніна.

Да слова, Мікалай Вяршынін, як выдатны апавядальнік, валодаў тонкім пачуццём гумару, а як чалавек-творца — дабрынёй і мудрасцю. Амаль усе ягоныя фельетоны, мініяцюры, каламбуры, эпіграмы, надрукаваныя ў кнігах "Без віны вінаватыя", "Дакрыткываўся", "І роздум, і смех, і любоў", "Свой чалавек", "У чужым воку…" і іншых, заснаваныя на народным фальклоры, але, разам з тым, яны цалкам пранізаны скразнякамі XXI стагоддзя, прымушаюць чытача здзіўляцца і абурацца. Вось як ён піша пра скнару: *"Аб будучым заўжды руплiва дбаю: // Ледзь грошы атрымаў — кладу на кніжку.// Дзяўчатам карамелькі я купляю,// Другі, нядбайны, ім купляў бы «Мішкі»"*.

Вось гэткімі дасціпнымі вобразамі, падобнымі да вясёлкі на небе пасля дажджу, напоўнены творы паэта-сатырыка. Праз вершаваныя радкі аўтар праўдзіва перадае тыя ўнутраныя і знешнія з'явы і душэўныя пакуты, якія кранулі яго сэрца і пакінулі глыбокі след.

Чытаючы яго творы, бачыш, які бязглузды, смешны і прымітыўны побыт, у якім жылі раней і жывуць сёння героі яго гумарэсак. Аб'ектамі крытыкі становяцца прыстасаванцы, што перашкаджаюць руху наперад: *"Там справы дрэнь, дзе месцы пазаймаюць // У аддзеле кадраў волаты-Зубры. // А Муху… на пагрузку пасылаюць. //Бывае й так. Да часу, да пары"*.

Мяркую, і ў нашы дні не згубілі актуальнасці радкі паэта: *"І розныя яны выгоды мелі. // І розны да работы быў настрой, // Бо рыбкі толькі водарасці елі, // Кіт ласаваўся чорнаю ікрой"*.

У яго паэтычных творах, як у люстэрку — людская доля, побыт не завуаліраваны, адлюстроўваецца без рэтушоўкі. Мне здаецца, што ніхто яшчэ гэтак тонка не разумеў суседа па лесвічнай пляцоўцы, калегу па працы, як Вяршынін. Ён умеў выслухаць чалавека, даць параду.

…Амаль штогод ён дарыў мне новую кнігу сатыры з дарчым надпісам. На вялікі жаль, кніга "Вочы ў вочы" засталася без аўтографа. Ёсць у ёй наступныя радкі: *"Я не прывык і кланяцца, і гнуцца. // Хай скажуць: — Як ён жыў, так адышоў. // Пасля мяне хоць кнігі застануцца, // І памяць назаўсёды ў чытачоў"*.

Думаецца, "Вочы ў вочы", пад глянцавай вокладкай якой творы, напісаныя ў апошнія гады жыцця, — гэта, вобразна кажучы, рэстаўрацыя жыцця і творчасці паэта-сатырыка — праца, безумоўна, неабходная і для прафесіяналаў у галіне літаратуры, і проста для аматараў прыгожага беларускага пісьменства. Таму хочацца пажадаць Ніне Тарасаўне поспехаў у яе высакароднай справе.



Мікола АНТАНОЎСКІ

***

*На зямлю, не цалаваную марозам,*
*Першы снег цярушыцца з нябёс.*
*Быццам зорачкі анёльскіх слёз*
*Прыхінуцца хочуць*
*да цяпла бярозак*
*На зямлі, не цалаванай*
*шчэ марозам.*

*Першы снег цярушыцца з нябёс —*
*Самасеем вольным ці па нечай волі*
*Асвятліць ён прагне смутак*
*наваколля*
*Ці з'інакшыць хоча нечы лёс?*
*Першы снег цярушыцца з нябёс...*

*Быццам зорачкі анёльскіх слёз,*
*Даланя гарачая на шчасце ловіць,*
*Шэпчуць вусны ўпарта*
*варажбу-замову —*
*Першы снег надзею зноў прынёс,*
*Быццам зорачкі анёльскіх слёз.*

*Прыхінуцца хочуць да цяпла бярозак*
*І душа, і радасць, і настылы дзень,*
*І аблокаў лёгкі, ледзь заўважны цень,*
*І дымок замежны горкіх папяросак.*
*Прыхінуцца хочуць да цяпла бярозак.*

*На зямлю, не цалаваную марозам,*
*На зямлю, радней якой даўно няма,*
*Апускаецца з нябёсаў жыць зіма...*
*Чалавек стаіць задумлена-цвярозы*
*На зямлі, не цалаванай шчэ марозам.*

***

*Крылы прытаміўшы у палёце,*
*Шчабятала ластаўка на дроце.*
*Гэтак сумна-сумна шчабятала,*
*Быццам ёй сінечы летняй мала.*

*Шчабятала ластаўка над хатай,*
*На цяпло і ласку небагатай.*
*Гэтак дзіўна-дзіўна шчабятала,*
*Быццам за няўвагу папракала.*

*Шчабятала ластаўка над клёнам,*
*Над лісцём яго ўжо незялёным.*
*Гэтак скрушна-скрушна шчабятала,*
*Як бы ў незваротнасць адлятала…*

***

*Куды падзелася удача*
*І збеглі верныя сябры?*
*За гэта сам сябе кары:*
*Не так, як трэба,*
*жыў няйначай...*

*Не кожны дзень лье сонца ў вокны,*
*І клён зноў засціць белы свет.*
*Хоць кожны раз, нібы паэт,*
*Цярпліва ён са мною мокне,*
*Калі не хочацца ва ўтульнасць,*
*Калі і сам сабе не рад.*
*А дождж — асенні маскарад, —*
*Нібыта ціхі шэпт матулін,*
*Штось прыгаворвае пра ўдачу*
*І пра надзею на сяброў...*
*І пад усхліп-павеў вятроў*
*Ці гэта дождж, ці я ў ім плачу?*

## Недарэчнасць

*...І змрочныя цені прыходзяць*
*у хаты,*
*Якія віноўна чакаюць расплаты.*
*Да самага рання калышуцца цені*
*Камусьці пакутай, камусьці —*
*збавеннем.*
*Ратуюцца людзі: хто — змрокам,*
*хто — сонцам,*
*Хто — віннаю чаркай, хто —*
*гневам бясконцым.*
*Караюцца людзі: хто — сонцам,*
*хто — змрокам,*
*Не бачаць дакору сляпыя*
*са зрокам,*
*Не скардзяцца лёсу відушчыя душы,*
*Калі іх духоўнай нішчымніцай*
*душаць...*

*І змрочныя цені раскачваюць сцены,*
*Хоць дом — не кісейны, а моцны,*
*каменны,*
*Хоць дом гэты — родны,*
*і родны да болю,*
*Як ветру прастора*
*ў заснежаным полі...*
*На момант, на год*
*ці на вечнасць*
*Расцягнецца гэта для ўсіх*
*недарэчнасць?*


Фота Кастуся Дробава



Юліян ВЫСОЦКІ

## Ода бэзаваму кусту

*Стаяў ён наводдаль*
*ад роднае хаты,*
*Зімою падобны*
*на венік-дзяркач,*
*Вясной станавіўся*
*зялёна-кудлатым*
*І гойдаў шпакоў нашых*
*свіст або плач.*

*Мы ставілі ў хаце галінкі-букеты,*
*Дзяўчыя душы лячылі красой,*
*І тым успамінам далёкім сагрэты,*
*Я сёння адтаю схварэлай душой.*

*Цвіце цяпер бэз, ды на іншай сядзібе,*
*Мая ж зруйнавана наогул датла.*
*І нізкі паклон той маленькай радзіме,*
*Дзе з бэзам і сталасць мая адцвіла.*

***

*Ноч прынесла свае чары,*
*Ззянне ціхіх зор далёкіх…*
*Запалоніў мае мары*
*Мілы вобраз яснавокі.*

*Уздыхае вецер сонны,*
*Заімжыла цемра далі.*
*Дзе знайсці б тых слоў натхнёных,*
*Пра цябе каб расказалі?*

*Парадніўся месяц з зоркай*
*У бязмежнай прорве неба.*
*Думаў я з трывогай горкай,*
*Што мой верш табе не трэба!*

*Штось шапнула ліпка клёну,*
*Распасцёршы рукі-голлі.*
*Шчырых слоў са срэбра звону*
*Не знайду я ўжо ніколі.*

*Адплывае ноч туманам,*
*Зоркі таюць, як сняжынкі…*
*Ідучы на працу рана,*
*Ты ўзмахнеш крылом хусцінкі…*

***

*Толькі мне й засталося,*
*Што прыпомніць калі*
*Тую светлую восень —*
*Ланцужком жураўлі.*

*Тую сцежку-дарогу,*
*Што да мілай вяла,*
*Ў сэрцы музыкі многа,*
*Як кахання святла.*

*Недаспаныя ночы*
*І ясенінскі верш,*
*Дзвюма зорамі — вочы:*
*Іх святла не мінеш.*

*І на водбліск чароўны,*
*Як начны матылёк,*
*Ці то ноч, ці апоўнач,*
*Я спяшаўся здалёк.*

*Заімжылі сняжынкі,*
*Замялі торны шлях —*
*Пратаптаў я сцяжынку*
*Ў сыпкіх шорсткіх снягах.*

*Ды салоўка вясною*
*Заспяваў над вадой —*
*А сцяжыначкай тою*
*Іншы крочыў з табой.*

*Толькі мне й засталося,*
*Што прыпомніць адно:*
*Як мне стукнула восень*
*Той вясною ў акно.*



Людка СІЛЬНОВА

## Паэт у дарозе

*Паэт, я ў дарозе*
*Заўжды, хоць нябачнай…*
*Хлябком пад бярозай*
*Палудную — смачна!*

*Заплечнік мой лёгкі,*
*Бадай што бязважкі,*
*Бо шлях мой кароткі*
*А плён мой няцяжкі:*

*Ўсяго толькі — вера,*
*Ўсяго толькі — вершы…*
*Блакноцік з паперы.*
*Стыло з найпрасцейшых.*

## Назіральнасць

*Што ёсць*
*у назіранні?*
*Адсунутасць*
*убок,*
*Складанае*
*заданне,*
*Амаль вайсковы,*
*доўг…*
*І нешта*
*ад той тайны,*
*Якую мае*
*Бог!*

## Як навальнічная вада…

*Мяне ніхто не разумее.*
*Хаця, здаецца, — разумнею...*
*Нібыта ў бездань зазіраю*
*Штоноч, калі сцяляю пасцелю.*

*Узрост! Імя тваё — Бяда!*
*Жыццё сышло — у сутарэнні,*
*Як навальнічная вада.*
*Свет более, мяне ўсё меней…*

## Летні цёплы дождж

*Дождж*
*цёплы, шэры*
*па шкле*
*цурчаў.*

*Той бок*
*матэрыі*
*паказаў,*

*з якой*
*паўсталі*
*калісьці*
*мы*

*ў крыштальнай*
*залі*
*самой*
*Зімы.*

## Надпіс на адваротным баку фотакарткі

*Людміла. Жанчына. Стаю пад бярозкай.*
*І, можа, старой выглядаю ці грознай.*

*Пэўна — не коцік, не рыбка, не кветка…*
*Затое са мною можна ў разведку!*

## На агляднай пляцоўцы

*У горадзе Рызе*
*Ў лютаранскай царкве*
*Святога Пятра,*
*на агляднай пляцоўцы,*
*Як турысты сышліся*
*Чарнакудрая беларуска*
*і рыжавалосы японец*

*(Валасы — апельсінавай фарбай*
*намазаныя,*
*Як дзіця пагуляла фламастарам).*

*Да таго ж, японец быў —*
*малады*
*І размаўляў па-французску.*
*Летнім ранкам над Рыгаю*
*цуд такі!*
*А я… размаўляла з усімі*
*па-руску.*

*Я запомніла ніякаватасць тую*
*І запомніла таго японца —*
*Ярчэй, чым пеўніка у якасці флюгера,*
*Што бліщчаў над намі*
*ў праменнях сонца.*

*Ды ведаю пэўна, што размаіты*
*Пеўнік-час*
*У гэтым стагоддзі здзяўбе абаіх*
*Нас.*

## Поўня-апельсін

*І вісіць, як апельсін,*
*Поўня, спелая зусім!*
*А навокал — зорачкі:*
*Сплюнутыя костачкі.*

*Костачкі гаркавыя —*
*Як на сподку кававаым,*
*Густа-фіялетавым…*
*Ялта. Неба летняе.*





# Быццам залатыя крупінкі

**Адзіны ў свеце музей народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі знаходзіцца ў сярэдняй школе № 199 г. Мінска. Для настаўнікаў і вучняў гэта вялікі гонар. І разам з тым вялікая адказнасць, бо менавіта ад іх намаганняў залежыць, як будзе захоўвацца і зберагацца спадчына Пімена Емяльянавіча.**

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Дырэктар школы Галіна Філіпёнак займае гэтую пасаду ўсяго тры гады. Трэба сказаць, атрымаўшы спадчыну ў выглядзе літаратурнага музея, увесь гэты час яна імкнулася разам з педагогамі і вучнямі захаваць яе найлепшым чынам.

— Музей параўноўваю з храмам, дзе можна пастаяць, падумаць пра штосьці вельмі асабістае і спачыць душою, — распавяла Галіна Аркадзьеўна. — Стваралі яго некалькі гадоў, экспанаты збіралі з часу адкрыцця школы ў 1998 годзе. Так супала, што нашу ўстанову пабудавалі ў мікраёне Сухарава менавіта на вуліцы Пімена Панчанкі. І гэты факт можна разглядаць як добры знак. Пасля таго, як народны паэт памёр, зразумела, паўстала пытанне: ці можна стварыць у Мінску яго музей? Ініцыятарам яго адкрыцця ў нашай школе выступіла настаўніца беларускай мовы і літаратуры Яніна Іванаўна Плашчынская, якая сябравала з жонкай паэта Зояй Кірылаўнай. Паступова шафы з кватэры паэта, кнігі з яго асабістай бібліятэкі, а сярод іх нямала выданняў з дарчымі надпісамі і прысвячэннямі аўтараў, папаўнялі фонды будучага музея. У 2003 годзе адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. Цяпер літаратурны музей з'яўляецца цэнтрам нацыянальна-патрыятычнага выхавання моладзі.

У Літаратурным музеі Пімена Панчанкі размешчана больш як тысяча экспанатаў. Гэта і творы самога Пімена Емяльянавіча — падарункі ад яго сяброў. Сярод асабістых рэчаў паэта ўвагу наведвальнікаў прыцягваюць адмысловы куфэрак для лекаў, сплецены з саломкі, — вельмі тонкая работа, і рарытэтны званочак, які Пімену Емяльянавічу падаравалі ў горадзе Валдаі Наўгародскай вобласці, дзе ён быў ганаровым госцем. Званочак — незвычайны, валдайскія ўмельцы адлілі яго па тэхналогіі, якая прымянялася з… 1125 года. Ён гучыць падчас розных святаў і, зразумела, на 1 верасня ды на святе апошняга званка.



*Асабістыя рэчы Пімена Панчанкі — сведкі яго жыцця.*

Дарэчы, асабістыя рэчы Пімена Панчанкі размешчаны на рабочым стале менавіта ў тым парадку, які існаваў пры жыцці творцы. Апошняе паступленне ў музей — асабістае піяніна паэта, выраблёнае яшчэ да вайны.

Сярод экспанатаў — шмат падарункаў з розных краін. Вядома, што Пімен Емяльянавіч вельмі любіў падарожнічаць. Прынамсі, з Афрыкі ён прывёз цікавы сувенір — нос рыбы-пілы.

У музеі праводзіцца вялікая навуковая работа, праводзяцца даследаванні творчасці Панчанкі, ладзяцца конкурсы сачыненняў, праходзяць адкрытыя ўрокі, класныя гадзіны і ўрокі мужнасці, а таксама заняткі па інтарэсах. Збіраюцца і юныя экскурсаводы, якім даводзіцца даволі часта весці экскурсіі для вучняў. Гэта выхоўвае ў дзяцей і культуру зносін, і стварае такое неабходнае беларускамоўнае асяроддзе.

— Наш музей працуе штодзённа ў другой палове дня, акрамя выходных, — падкрэсліла дырэктар школы. — Да нас з задавальненнем прыходзяць і бацькі вучняў. Калі ёсць неабходнасць, экскурсіі праводзяць і настаўнікі. Хацелася б зазначыць: у Фрунзенскім раёне, дзе размешчана 9 гімназій і 35 школ, прынята, што вучні ўсіх навучальных установаў наведваюць усе музеі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі раёна. Вось такі цікавы ўзаемаабмен.



*Дырэктар СШ № 199 г. Мінска Галіна Філіпёнак распавядае пра валдаеўскі званочак.*

Сярод ганаровых гасцей музея — вядомыя беларускія паэты і пісьменнікі. Да 95-годдзя з дня нараджэння заслужанага дзеяча беларускай культуры Пімена Панчанкі творчая група, у склад якой увайшлі настаўнікі, вучні і бацькі, распрацавала праграму святкавання Дня нараджэння паэта ў сценах школы. Яна ўключае прэзентацыі, экскурсіі ў літаратурны музей, выстаўкі кніг, крытычных артыкулаў, вучнёўскіх ілюстрацый да твораў народнага паэта і інш. Учора ў актавай зале прайшоў філарманічны канцэрт, прысвечаны творчасці народнага паэта Пімена Панчанкі.

Шмат гадоў сярод нас няма паэта, але яго творы жывуць, яны вечныя. Гэта залатыя крупінкі ў скарбніцы беларускай нацыянальнай літаратуры.

## У падтрымку чытання



# Вышэй за ўсё

**Наталія НОВАШ,**
**пісьменніца-фантаст:**

Мой любімы пісьменнік — Дастаеўскі. Ён мяне моцна ўразіў. Першыя трапілі ў рукі тыя творы Фёдара Міхайлавіча, якія я сёння, можа, і баюся перачытваць, — "Бедные люди" і "Неточка Незванова". Тады, у маладосці, яны мяне захапілі. Пасля былі "Подросток", "Братья Карамазовы", "Идиот" — у апошнім класе школы. Пазней да Дастаеўскага далучыла Міхаіла Булгакава, яго элемент фантастычнага. Знаёмства з творчасцю Булгакава адбылося, калі ў Маскве выйшаў раман "Мастер и Маргарита". Дзякуючы Дастаеўскаму і Булгакаву прызначэнне пісьменніка лічыла вышэйшым за ўсё. Менавіта гэтыя аўтары паўплывалі на маё рашэнне стаць пісьменніцай.

І, зразумела, падабалася фантастыка. Самая вядомая з першых — Івана Яфрэмава "Час Быка", "За миллиард лет до конца света" братоў Стругацкіх (гэту рэч люблю больш за астатнія творы). І пасля ўся перакладная фантастыка, якая да нас прыйшла ў зборніках. І Брэдберы тады на мяне паўплываў, і Азімаў, які сёння ўжо не цікавіць, і Шэклі. І Лем, вядома. Да самых вялікіх фантастычных твораў адношу "Иосиф и его братья" Томаса Мана — лепшае, што было напісана для чалавецтва. Тая вяршыня, да якой павінен імкнуцца кожны.

З апошняга прачытанага — цэлая кніжная палічка твораў нашых сяброў, што ўбачылі свет у серыі "Фантастыка": "Клуб города N" Уладзіміра Кулічэнкі, Сяргея Цэханскага "Искажение", зборнік апавяданняў Яўгена Дразда "Тень над городом" і інш. Не пакідаю паза ўвагай і сучасную паэзію. Параіла б чытачам пазнаёміцца з цікавым аўтарам з Санкт-Пецярбурга Міхаілам Пятровым, які выступае пад псеўданімам Кушчуй Няпома (Кусчуй Непома).

## Глыбокае-2012

# Рарытэты едуць на свята

**Госці Свята беларускага пісьменства насамрэч трапяць у бязмежжа самых розных выданняў. Можна тут пабачыць і сапраўдныя рарытэты. Да прыкладу, на выстаўцы, якую прапануе полацкі Музей беларускага кнігадрукавання.**

**Вера АШУЕВА**

Полацкую рукапісную кнігу на выстаўцы прадстаўляюць копіі "Полацкага Евангелля" XVI ст. і "Жыція Еўфрасінні Полацкай" XVI ст. Дзейнасць Францыска Скарыны і Сімяона Полацкага — выданні Скарыны, фігурныя вершы Сімяона Полацкага.

Яшчэ адзін цікавы экспанат — першы на Беларусі часопіс "MIESIĘCZNIK POŁOCKI", штовыходзіўу1818 — 1820гадах. А таксама часопіс і піярскае выданне "MISSALE ROMANUM" (1826). Гэтая кніга, поўная назва якой "Імшал рымскі, дэкрэтам святога сабора Трыдэнцкага ўстаноўлены, па загадзе галоўнага пантыфіка Пія V выдадзены, воляй Клемента VIII і Урбана VIII перагледжаны. Выданне найноўшае, прыведзенае да норм выдання Венецыянскага, друкаванага ў 1821 годзе, дзе ўсе раздзелы былі старанна расстаўленыя і імшы найноўшыя ў гонар святых дададзеныя", была ў 1971 годзе перададзена з касцёла вёскі Лучай Пастаўскага раёна. На адной са старонак маецца круглая пячатка з выявай постаці святога і кругавым надпісам: "ПЕЧАТЬ МОССАРСКАГО ПРИХОД КОСТЕЛА".

Значную каштоўнасць уяўляюць выданні XIX — пачатку XX стагоддзяў, у тым ліку "Путеводитель по городу Полоцку" (1910), а таксама ўнікальныя паштоўкі з відамі горада пачатку XX стагоддзя "Путеводитель" быў падрыхтаваны Полацкім царкоўным брацтвам і выдадзены ў друкарні Клячко спецыяльна да надзвычай важнай падзеі — перанясення мошчаў Еўфрасінні Полацкай з Кіева ў Полацк. Цікава, што на вокладцы змешчаны надпіс: "Цена 20 к. Въ пользу детскаго сиротскаго пріюта въ г. Полоцке".

Полацкія выданні нашага часу — гэта перш за ўсё цудоўная серыя "Спадчына Полацкай зямлі", распрацаваная Полацкім кніжным выдавецтвам. Да 1150-годдзя горада былі падрыхтаваны даследаванне "Полоцк" з серыі "Древнейшие города Беларуси" выдавецтва "Беларуская навука", шыкоўныя фотаальбомы "Полацк. Гонар вякоў" (выдавецтва "Беларусь"), "Полацк. 1150" ("Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі") і іншыя цікавыя выданні.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства**



Антаніна ШЫНКАРОВА

# Іркуцкія «Ирисы»

Сярод удзельнікаў сёлетняга Міжнароднага "круглага стала" "Пісьменнік. Кніга. Час", прымеркаванага да Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім, мусіць быць і Антаніна Шынкарова — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры журналістыкі і медыяменеджменту факультэта філалогіі і журналістыкі Іркуцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Антаніна Пятроўна цікавіцца гісторыяй кніжнай культуры Сібіры, даследуе лёсы сібірскіх беларусаў, напісала манаграфію "Нарысы гісторыі выдавецкай справы і друку ў Іркуцку (1785 — 1920)". Артыкул, які прапануе "ЛіМ", прысвечаны заснавальніку першага прыватнага кніжнага выдавецтва ў Іркуцку, беларусу з Віцебска — Міхаілу Стожу.

Лёс часам дорыць людзям дзіўныя сюрпрызы, уносячы ў іх жыццё нечаканыя карэктывы. Ураджэнца горада Віцебска дваццацігадовага Міхаіла Стожа ў Сібір прывяла чыгунка, як і шматлікіх жыхароў еўрапейскіх губерняў Расійскай імперыі.

Міхаіл Стож, паводле аўтабіяграфічных нататак у адным з яго выданняў, нарадзіўся 12 студзеня 1880 года ў горадзе Віцебску. Яго дзед, Сцяпан Стож, служыў фельдфебелем у Віцебскім унутраным гарнізоне. Бацька, Еўсцігней (Асігней) Сцяпанавіч, заможны рамеснік, жадаючы бачыць сына на больш высокай сацыяльнай прыступцы, абраў для яго духоўную дзейнасць — аддаў Міхаіла вучыцца ў Віцебскае духоўнае вучылішча, аднак, не скончыўшы курс, той быў выключаны. Больш паспяховым стаў шлях праз сямейныя справы і рамеснае вучылішча. Разам з бацькам у дзяцінстве Міхаіл нямала ездзіў па сваёй губерні, быў і ў суседніх, і ў больш далёкіх краях. А ў юнацтве, як ён сам пісаў пра сябе, прыйшлося бываць і за мяжой. Магчыма, любоў да вандраванняў і вызначыла далейшы лёс Міхаіла Стожа.

Пасля заканчэння рамеснага вучылішча ў 1897 годзе Міхаіл выехаў з Віцебска ў Ашхабад, на Закаспійскую чыгунку, дзе працаваў, займаючы розныя тэхнічныя пасады, а ў 1900 годзе адправіўся ў Сібір, дзе ў Іркуцку, на Забайкальскай чыгунцы, мелася вакансія.

Дарога ў Іркуцк для Міхаіла была няпростай — у цягніку ён моцна захварэў. Хвароба зацягнулася надоўга, і месца на Забайкальскай чыгуначнай дарозе аказалася занятым. Даводзілося шукаць іншую працу. У снежні 1900 года Стож пачынае рэгулярна выдаваць раскладныя лісткі руху цягнікоў, зручныя для пасажыраў, танныя, але яны даюць прыбытак. Так пачынае сваю дзейнасць у Іркуцку першае прыватнае выдавецтва Міхаіла Стожа "Ирисы". Праз некаторы час Стожа прынялі на чыгунку. Працаваў на розных пасадах: быў канторшчыкам, агентам па продажы квіткоў, пісарам, агентам па руху, слесарам, цягніковым агледчыкам, загадчыкам хуткага цягніка, у рэвізорскай службе, але і сваю працу, звязаную з выдавецтвам, не пакінуў.

Першая друкарня ў Іркуцку з'явілася ў 1785 годзе, а да пачатку XX стагоддзя ў горадзе ўжо налічвалася больш як дзясятак друкарняў і літаграфій, і ў агульнай колькасці было выпушчана амаль паўтары тысячы найменняў кніжных выданняў. Але да пачатку XX стагоддзя спецыялізаванага кніжнага выдавецтва як прадпрыемства ў горадзе не было, толькі Стож адважыўся выступіць з фірменнай маркай кніжнага выдавецтва. Для яго гэта было і камерцыйнай справай, і магчымасцю рэалізаваць свае творчыя схільнасці.

Спачатку стожаўскае прадпрыемства называлася "Издательство спутников и путеводителей по Сибири" і яго задачы цалкам тлумачыліся назвай. Чыгунка ў Сібіры была яшчэ навіной, людзі не переставалі здзіўляцца, але сур'ёзнаму пасажыру і падарожніку мала проста ехаць, ён яшчэ хацеў ведаць пра мясціны, якія мільгалі за акном вагона. Прадпрымальны і зацікаўлены чалавек, якім і быў Стож, бачыў тут шырокае поле дзейнасці.

Падчас службовых паездак Стож збіраў звесткі пра дарогу, пра станцыі, характэрныя мясціны Прыбайкалля і Забайкалля. Цікавы матэрыял затым выкарыстоўваўся ў шматлікіх "Спутниках".

Выдаваў Стож і розныя "Путеводители" — па чыгунках, па наваколлях Іркуцка, па курортах і лякарнях краю. У "Спутниках" і "Путеводителях" пасажыр знаходзіў не толькі расклад руху цягнікоў з дадаткам карт і схем, час знаходжання ў дарозе, календары, але і выпіскі з чыгуначных і мытных правіл, усялякія практычныя парады, адрасы-даведнікі па гарадах, рэкламы і аб'явы і нават "лёгкое и полезное чтение" з вершамі і прозай. Прачытаць можна было і займальныя гісторыі, якія адбываліся ў гэтых краях, паданні, апісанні стыхійных бедстваў, кур'ёзныя выпадкі.

Міхаіл Стож з'яўляўся аўтарам, укладальнікам і рэдактарам сваіх выданняў. Ён прыводзіў, на яго погляд, найбольш цікавыя і займальныя легенды і сапраўдныя гістарычныя факты. Вельмі падрабязна распавёў, напрыклад, пра небывалы землятрус на Байкале ў навагоднюю ноч 1861 — 1862 гадоў, калі хіліліся будынкі, "купол церкви обрушился внутрь", трэскалася зямля, і Байкал, выйшаўшы з берагоў, патапіў цэлыя нізінныя стэпы з селішчамі, утвараючы новыя залівы. З вялікім захапленнем прачытваліся і такія гісторыі, як паход загулялага нерчынскага начальніка Нарышкіна з Забайкалля на захоп Іркуцка ў 1775 годзе, усе яго дзівацтвы ў хмелі, якія скончыліся арыштам і адпраўкай на дазнанне ў Пецярбург.

Рыхтуючы да выдання свае "Спутники" і "Путеводители", Стож навуковым пошукам не займаўся, браў звесткі з розных вядомых крыніц, папулярызаваў іх, хоць і не заўсёды ўдала і ўмела.

Выданні ілюстраваныя партрэтамі вядомых людзей, малюнкамі станцый, прылеглых паселішчаў, "тыпамі" сібіракоў. Яны дазвалялі пасажыру не толькі бавіць шлях-дарогу, але і знаёміцца з Сібір'ю.

Кнігі Міхаіла Стожа, нягледзячы на тое, што былі невялікія па фармаце, разыходзіліся вельмі паспяхова.

Жонка выдаўца з задавальненнем знаёміць чытача з кухняй кнігавыдання: "Выдавецтва «Ирисы» пачало выпуск асобных кніжак твораў сібірскіх аўтараў з маіх вершаў. Першая мая кніга выйшла пад назвай «Смерть музы». На працягу некалькіх месяцаў энергічнай працы яна ледзь была прададзеная. Тады і выступіла на сцэну вынаходлівасць Міхаіла Стожа. Ён дадаў да загалоўка «Ужасы войны» і... атрымалася новая назва кнігі: «Смерть музы и ужасы войны». Кніга аказалася вельмі запатрабаванай і цяпер вытрымала 10 выданняў" (Стож Д. Забытая тетрадь. Отрывки из дневника. — Иркутск: Ирисы, 1916. — С. II.).

Пры знаёмстве з выдавецтвам "Ирисы" ствараецца ўражанне, што яшчэ адной прычынай, што прымушала Міхаіла Стожа займацца выдавецкай дзейнасцю, былі вершы яго жонкі. І назва выдавецтва прыдумана жонкай, у памяць пра яе дзявочую мянушку "ириска" па дзявочым прозвішчы Рыс-Пятрова, як паведамляла пра тое сама паэтэса ў дзённіку.

Стож задумаў выданне серыі "Сибирская библиотека", куды, па яго планах, павінны былі ўвайсці кнігі як вядомых сібірскіх аўтараў, так і пачаткоўцаў.

Мабыць, самае значнае па задуме выданне Стожа — біябібліяграфічная праца "Словарь сибирских писателей, поэтов и учёных". На сямідзесяці старонках вельмі дробным шрыфтам Стож коратка або па магчымасці больш поўна распавядае пра дзеячаў сібірскай славеснасці і навукі канца XVIII — пачатку XX стагоддзяў і нават ілюструе тэкст фотаздымкамі некаторых з іх. "Словарь" меў поспех, перавыдаваўся некалькі разоў, прычым з дапаўненнямі — пра гэта можна меркаваць параўноўваючы розныя выданні, якія ёсць як у Іркуцку, у Навуковай бібліятэцы дзяржуніверсітэта, так і ў прыватных зборах. Пры ўсіх недахопах, адзначаемых сучаснікамі, у тым ліку выпадковым адборы імён, непаўнаце і недакладнасці бібліяграфічных даведак, часам хутчэй біяграфічных, "Словарь" быў добра прыняты чытачамі. Гэта можна растлумачыць тым, што ніякай іншай працы такога кшталту ў межах Сібіры не было. Упершыню Стож паспрабаваў аб'яднаць імёны літаратараў і навукоўцаў краю, а ўжо, як гэта атрымалася, — пытанне іншае. Не застаўся "Словарь" незаўважаным і крытыкай.

У далейшых планах выдавецтва меркавалася працягнуць выданне "Словаря". Планаваліся яшчэ тры часткі: мастакі, скульптары; кампазітары, музыкі і артысты; будаўнікі, архітэктары і грамадскія дзеячы. Такім выданням у наш час не было б кошту. Але гэтыя задумы не ажыццявіліся — праца патрабавалася карпатлівая, а час быў складаны, ішла вайна, неўзабаве разгарнуліся падзеі Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый.

Кнігі выдавецтва "Ирисы" мелі і свой твар — іх нават вонкава лёгка было адрозніць — усе аднаго фармату, з элементамі мадэрну ў афармленні. На вокладцы — фірменны знак выдавецтва: узыходзячае сонца, арол трымае картуш з датай заснавання выдавецтва, а на ўсю шырыню арліных крылаў — назва выдавецтва.

Яшчэ адна асаблівасць — усе стожаўскія кнігі набіраліся дробным шрыфтам, часам цяжкім для чытання. Выдавец не клапаціўся пра паліграфічную культуру, але, нягледзячы на гэта, прадукцыя яго разыходзілася вельмі паспяхова. Асаблівыя нараканні можна выказаць па мастацкім афармленні некаторых кніг — часам гэта поўны вінегрэт з фотаздымкаў, партрэтаў, пейзажаў, віньетак, арнаментаў, прафесійных малюнкаў вядомага ў Сібіры мастака К. Памеранцава. Заўсёды ярка, часам на ўсю старонку, давалася рэклама — як і любое выданне таго часу, кнігі Міхаіла Стожа запоўнены ёй, часам на шкоду тэксту і зместу. Што і зразумела: рэклама давала грошы.

Але пры ўсіх недахопах гэтыя выданні былі патрэбныя, запаўнялі існуючы прабел у масавай культуры, неслі пэўныя пазнавальныя функцыі і свайго чытача цалкам задавальнялі.

Міхаіл Стож і пасля рэвалюцыі некаторы час працягваў распачатую справу. Ён пражыў у Іркуцку да 30-х гадоў. З 1918 года, хоць выдаўцом ужо не быў і выдавецтва "Ирис" сышло са сцэны, але дзейнасць сваю не кінуў, выпускаў кнігі як аўтар у дзяржаўных выдавецтвах. Відавочна, Стож прыняў як належнае і новы савецкі лад.

Безумоўна, Міхаіла Стожа наўрад ці можна прылічыць да выдаўцоў-асветнікаў. Варта падагадзіцца, што ён больш падыходзіць да "культуртрегеров": людзей актыўных, прадпрымальных, але якія не валодаюць тым шырокім кругаглядам і той ступенню культуры, адукаванасці, якімі адрозніваюцца сапраўдныя асветнікі. Тым не менш, у грамадскім жыцці краю Міхаіл Стож застаўся прыкметнай постаццю.

## *Чытальная зала*




# Старт адвечнай свабоды

Кніга паэзіі Міхася Южыка "Сузор'е вокнаў" сёлета ўбачыла свет у мінскім выдавецтве "Галіяфы". На яе старонках аўтар выступіў яшчэ і як перакладчык Эдгара Алана По, Івана Буніна і Барыса Пастарнака. Але большасць вершаў — арыгінальныя творы.

"Таропкія радкі" Міхася Южыка прасякнуты той глыбінёй, якая з'яўляецца прыкметай сапраўднай паэзіі — гімну прыгажосці жыцця. Яно бывае даволі жорсткім, бы няўмольны вецер: *"Мяце і мяце порсткі вецер / лісцё і людзей, і час…"* Але калі ён *"змятае жыцця абноскі, / звастрае і зрок, і слых"*. І з'яўляецца магчымасць *"Пачуць Цішыню як пачатак / на рысе жыццёвых шляхоў"* і адчуць наканаванне: *"Паэт ён і ёсць паэт, / пасланнік зімы і лета, / ён носіць накшы свет… А словы яго ляцяць / і селяцца ў душах рэдкіх — / дзе сэрцы яшчэ не спяць / і ў венах бушуюць рэкі"*.

Тэматыка вершаў М. Южыка — разнастайная. Некаторыя з іх навеяны біблейскімі матывамі. Аўтар набліжае да сучаснікаў падзеі жыцця Хрыста, намагаецца перадаць перажыванні і думкі яго паплечнікаў. (*"Што можа выйсці з Назарэта? — / смяяліся так з веку ў век, / Хто можа там явіцца свету, / які нікчэмны чалавек?... Як аказалася — Гасподзь".*)

У зборніку шмат твораў філасофскай тэматыкі, у якіх лірычны герой пакутліва шукае адказ на адвечныя пытанні: разважае над сэнсам жыцця, намагаецца выпучыць сваё сапраўднае аблічча ў чароўных люстэрках на сценах пакоя, якія хаваюць яго адбіткі розных часоў.

Упэўненымі штрыхамі намаляваны гарадскія пейзажы ў розныя поры года ("Забываю свой дворык…", "Бывае, лісцік мільгане…", "Вяз, рэдкі госць на вуліцах…", "Вокны ўспыхваюць. Вечарэе"). З асаблівым настроем паэт чакае зіму, калі: *"Балючых узгадак панурыя спіны / запырскае снег малады"*.

І хаця М. Южык сцвярджае ў адным са сваіх твораў, што *"вершы пішуцца толькі, калі енкі ў душы"*, знаёмства з яго зборнікам "Сузор'е вокнаў" стварае цёплы настрой ад сустрэчы з сапраўднай паэзіяй, якая пры любых умовах — старт адвечнай свабоды.

**Вольга НОРЫНА**

**Улицкая, Л. Е.** Девочки: рассказы / Людмила Улицкая. — Москва: Астрель, 2012. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-38698-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0500-2 (Харвест) (в пер.).

**Улицкая, Л. Е.** Зеленый шатер: роман: (в новой редакции) / Людмила Улицкая; [художник – Андрей Рыбаков]. — Москва: Астрель, 2012. — 637 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-38046-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0588-0 (Харвест) (в пер.).

**Улицкая, Л. Е.** Русское варенье: пьесы / Людмила Улицкая. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержание: Семеро святых из деревни Брюхо; Русское варенье; Мой внук Вениамин. — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-42011-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1123-2 (Харвест).

**Улицкая, Л. Е.** Русское варенье: пьесы / Людмила Улицкая. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-39-258-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1122-5 (Харвест) (в пер.).

**Чижова, Е. С.** Время женщин: романы / Елена Чижова. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 348 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — На переплете: премия «Русский Букер». — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-065697-4 (АСТ). — ISBN 978-5-271-26989-9 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8429-4 (Харвест) (в пер.).

**Шилова, Ю. В.** Карьеристка, или Без слез, без сожаления, без любви; Одинокая волчица, или Я проткну твое сердце шпилькой: [романы] / Юлия Шилова. — Москва: Астрель, 2012. — 317, 318 с. встречной пагинации. — Книга-»перевертыш». — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-271-41187-8 (Астрель) (Харвест).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Алексеева, Л. А.** Расскажу нерассказанное: проза: [рассказы] / Любовь Алексеева. — Минск: Кнігазбор, 2012. — 79 с. — 115 экз. — ISBN 978-985-7007-49-3.

**Антипов, П. А.** Дипломная работа / Павел Антипов. — Минск: И. П. Логвинов, 2011. — 163 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6991-34-2. — ISBN 978-6991-34-X (ошибоч.).

**Валентинов, Ф.** Песнь о светлой юности: стихи, проза / Филипп Валентинов. — Минск: Парадокс, 2012. — 334 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-451-264-8 (в пер.).

**Вирковская, Л. А.** Выполнение обещаний: стихи / Лариса Вирковская; [иллюстрации автора; фото Александра Вирковского]. — Лида: Лидская типография, 2011. — 79 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6437-23-9 (в пер.).

**Елфимов, В. А.** Нищая миллионерша / Вадим Елфимов. — Минск: Харвест, 2012. — 447 с. — (Современный детектив). – Библиотека Союза писателей Беларуси. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-1065-5 (в пер.).

**Ильинский, Н. И.** О любви... и не только: стихи, поэма / Николай Ильинский. — Минск: Четыре четверти, 2012. — 217 с. — Библиотека Минского городского отделения Союза писателей Беларуси. — 300 экз. — ISBN 978-985-7026-42-5.

**Кветковская, В. Ф.** Мир у ног Амазонки: стихи / Вера Кветковская. — Гомель: Полеспечать, 2012. — 78 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7012-09-1.

**Кожедуб, А.** Без ностальгии: повести и рассказы / Алесь Кожедуб. — Минск: Харвест, 2012. — 378 с. — Библиотека Союза писателей Беларуси. —— 1000 экз. — ISBN 978-985-18-1001-3 (в пер.).

**Королев, Н. Д.** Михаил Белуш: документальная повесть / Н. Д. Королев. — Гродно: Гродненская типография, 2012. — 43 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6835-96-7.

**Левина, М.** Копилка для мелочи: рассказы, повесть / Мара Левина; [автор предисловия Раиса Боровикова]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 238 с. — 1100 экз. — SBN 978-985-6994-98-5 (в пер.).

**Лопатин, Г.** Около облака: книга поэзии / Геннадий Лопатин. — Минск: Кнігазбор, 2012. — 218 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7007-50-9.

**Лытов, В. А.** Не витайте в облаках: повесть / Владимир Лытов. — Гродно: Гродненская типография, 2012. — 178 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6835-94-3.

**Лытов, В. А.** Один из шести миллиардов: роман / Владимир Лытов. — Гродно: Гродненская типография, 2012. — 270 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6835-95-0.

**Малиновская, М. Ю.** Крылья напролет: книга поэзии / [Мария Малиновская, Кирилл Ковальджи]. — Минск: Мастацкая літаратура, 2012. — 109 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-02-1339-6.

**Масленицына, И. А.** София Слуцкая: повесть-эссе / Ирина Масленицына, Николай Богодзяж; [вступительная статья Н. А. Голубевой; рисунки Арлена Кашкуревича]. — Минск: Четыре четверти, 2012. — 101 с.— 500 экз. — ISBN 978-985-7026-33-3.

**Немцев, В. С.** Изберите любовь: сборник стихов / В. С. Немцев. — 2-е изд. — Минск: Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»; Steinhagen: Samenkorn e. V., 2010. — 192 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6184-41-6 (Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»). — ISBN 978-3-862-03-008-8 (Samenkorn e. V.) ( в пер.).

**Немцев, В. С.** Любви целительный бальзам: сборник стихов / В. С. Немцев. — Минск: Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»; Steinhagen: Samenkorn e. V., 2010. — 111 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6184-43-0 (Религиозная община евангельских христиан баптистов «Церковь Пробуждение»). — ISBN 978-3-862-03-009-5 (Samenkorn e. V.) (в пер.).

**Пенязь, С. Л.** Я полюбил тишину и полюбил я звезды...: стихотворения / Сергей Пенязь. — Минск: Кнігазбор, 2012. — 199 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7007-46-2 (в пер.).

**Песочное время**: новая женская проза: [повести / составитель, автор вступительной статьи О. А. Ждан]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 269 с. — Содержание: Черемуховые страдания / Л. Богданова, с. 5–44 ; Песочное время / И. Дегтярева, с. 45–84 ; Тест на первую любовь / В. Кадетова, с. 85–136 ; Жизнь плохого человека / М. Прохар, с. 137–270. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6994-96-1 (в пер.).

**Полищук, Н. Е.** Блики бытия: [стихи] / Николай Полищук. — Минск: Ковчег, 2012. — 54 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7006-60-1.

**Потапов, В. П.** Волчара: повести, рассказы / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 75 с. — 99 экз.

**Потапов, В. П.** Где Родина моя?: стихи / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 59 с. — Содержит циклы: Разнообразие; Родник сознания; Признание души. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-81-0.

**Потапов, В. П.** Поэзия души: поэзия / Валерий Потапов. — Минск: Печенко А. Г., 2012. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-70-08-83-4.

**Прокопович, В.** Дорога домой: рассказы / Вера Прокопович. — Брест: Альтернатива, 2011. — 143 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-281-3.

**Семенова, Т. И.** Осенний вальс: стихи / Татьяна Семенова. — Лида: Лидская типография, 2012. — 127 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6437-24-6 (в пер.).

**Туловский, В. В.** Выбор: роман / Валерий Туловский. — Минск: Литературный свет, 2012. — 323 с.— 120 экз. — ISBN 978-985-6943-11-2.

**Фамицкий, А.** Пружина: стихи / Андрей Фамицкий. — Минск: Белпринт, 2012. — 67 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-459-238-1.

### Беларуская літаратура

**Антановіч, С. В.** Вяртанне ў юнацтва: кніга паэзіі і прозы / Славамір Антановіч. — Мінск: Смэлтак, 2011. — 190 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змест: цыклы: Зачараванасць; Закаханасць; Признание; Гжаць – рэчка ціхая: дакументальная аповесць-хроніка. — 500 экз. — ISBN 978-985-6917-94-6 (у пер.).

**Бурлак, В. Творы соннага жанру**: проза / Вера Бурлак. — Мінск: Логвінаў І. П., 2011. — 99 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6991-62-5.

**Бурлак, В. Ю.** Дзеці і здані: вершы, п'іескі / Вера Бурлак. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 81 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6906-64-3.

**Бычкоўскі, А.** Анамалія: фэнтэзі: [навелы, аповесці] / Алесь Бычкоўскі. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 131 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6906-59-9.

**Валасюк, Л.** Вяртанне берасцейскай стралы: (раманы і аповесці, апавяданні і абразкі) / Лявон Валасюк. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2012. — 298 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-524-112-7 (у пер.).

**Вярцінскі, А.** Жыцьмем: вершы і паэмы / Анатоль Вярцінскі; [фотаздымкі – У. Крука і Г. Лабадзенкі]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 134 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7007-48-6.

**Галубовіч, Л. М.** З гэтага свету: вершы пасля вершаў / Леанід Галубовіч. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 106 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7007-51-6.

**Гапеева, В. М.** Метад муаравых крэсак: [вершы] / Вольга Гапеева. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 68 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6906-65-0.

**Глобус, А.** Сказы: проза / Адам Глобус. — Мінск: Харвест, 2012. — 735 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-0922-2 (у пер.).

**Дудзюк, З. І.** Нямеранае багацце: эсэ / Зінаіда Дудзюк. — Брэст: Альтернатива, 2012. — 82 с. — 163 экз. — ISBN 978-985-521-287-5.

**Жыбуль, В. В.** Стапеліі: вершы / Віктар Жыбуль. — Мінск: Галіяфы, 2012. — 210 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6906-61-2.

**Жырандоля**: літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2008.

№ 4 / [Мікола Сянкевіч і інш ]. — 2012. — 321 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 300 экз.

**Зьніч.** Крэсіва: выбранае і ўспаміны: да 50-годдзя (1961–2011) (сам-) выдавецкай дзейнасці і ўступлення ў 8-мы дзясятак зямной сцяжыны / Зьніч (Бембель Алег Андрэевіч). — Слонім: Слонімская друкарня, 2012. — 511 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7027-01-9.

**Касцюкевіч, П. С.** Зборная РБ па негалоўных відах спорту: апавяданні / Павал Касцюкевіч. — Мінск: Логвінаў І. П., 2011. — 134 — 500 экз. — ISBN 978-985-6991-51-9.

**Коўш, Г. В.** Сказы: выбранае / Генадзь Коўш. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 70 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7007-40-0 (в пер.).

**Крэйдзіч, А. М. Роднае, шчымлівае**: кніга прозы / Анатоль Крэйдзіч; [мастак Янка Рамановіч]. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 205, с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6994-85-5 (у пер.).

**Лёсава, Д.** Туга зямная: [вершы] / Дар'я Лёсава; [пад рэдакцыяй Р. Ю. Малахоўскага]. — Мінск: Харвест, 2012. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-0909-3.

**Макаревич, П. Г.** Птица свободы: антология одного стихотворения: [перевод на русский язык по одному стихотворению ста белорусских поэтов] / Петр Макаревич. — Минск: Кнігазбор, 2012. — 119 с. — Содержит переводы авторов: Арсеньева Н., Богданович М., Бровка П., Буйло К., Дубовка В., Жилка В., Колас Я., Купала Я., Моркавка А., Трус П. и др. — 200 экз. — ISBN 978-985-7007-60-8.

**Макарэвіч, В. С.** Неба ў руках: вершы і паэмы / Васіль Макарэвіч. — Мінск: Харвест, 2012. — 447 с. — Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-1002-0 (у пер.).

**Макарэвіч, К.** Соль і неспакой: [вершы] / Кацярына Макарэвіч. — Мінск : Галіяфы, 2012. — 38 с. –– 200 экз. — ISBN 978-985-6906-63-6.

**Малахоўскі, Р. Ю.** У дзённай мітусні: [вершы] / Рагнед Малахоўскі. — Мінск: Харвест, 2012. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-0908-6.

**На Нёманскай хвалі**: літаратурны альманах / Гродзенскае абласное аддзяленне Г А "Саюз пісьменнікаў Беларусі". — Гродна: Гродзенская друкарня, 2009. — Заснаваны ў 2009 г.

№ 3 / [Л. А. Кебіч ]. — 2012. — 187 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз.

**Палачанін, Ф. А.** Даравальная нядзеля: драматургія / Фёдар Палачанін; [прадмова Таццяны Аляксеевай]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 351 с. — 437 экз. — ISBN 978-985-7007-59-0 (у пер.).

**Раманава, Л. Д.** Святая вада: паэзія / Ларыса Раманава. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 135 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7007-54-7.

**Рублеўская, Л. І.** Сэрца мармуровага анёла: аповесці, раман / Людміла Рублеўская. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 348 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1348-8.

**Сучок, А.** Захацелася шчасця: з паэтычнай спадчыны / Алесь Сучок; [укладанне і прадмова Сяргея Чыгрына]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 75 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7007-58-5.

**Фантазія творцы**: зборнік сучаснай беларускай паэзіі / [складальнікі: Т. Ф. Рослік, К. І. Яроцкая]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 351 с. — Змяшчае аўтараў: Данік І. М., Дукса М. М., Жук К. Я., Казапалянская Н. М., Кебіч Л. А. — 2050 экз. — ISBN 978-985-11-0620-8 (у пер.).

**Філон, Н. М.** Кроплі святла: [вершы] / Надзея Філон; [пад рэдакцыяй Р. Ю. Малахоўскага]. — Мінск: Харвест, 2012. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-0911-6.

**Хадарэнка, І.** Свядомаграфія: вершы / Ірына Хадарэнка; [мастак З. Траяновіч]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 82 с. — Змяшчае пераклады аўтараў: Ахматава Г., Бялашэўскі М., Ваячак Р., Гумілёў М., Май Б., Межалайціс Э. Мілаш Ч., Пушкін А., Стронк А., Твардоўскі Я., Цютчаў Ф. — 300 экз. — ISBN 978-985-7007-55-4.

**Шамякін, І. П.** Збор твораў: у 23 т. / Іван Шамякін; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010 — ISBN 978-985-02-1190-3 (у пер.).

Т. 8: Аповесці, 1999–2000. П'есы / В. Караткевіч/ рэдактары тома: Т. С. Голуб, А. М. Макарэвіч; [падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Вольгі Карачун; пасляслоўе Вячаслава Караткевіча]. — 2012. — 655 с. — 1200 экз. — ISBN 978-985-02-1323-5.

**Шостак, А. М.** 4.33 / Адам Шостак; [пад рэдакцыяй Р. Ю. Малахоўскага]. — Мінск: Харвест, 2012. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-18-0910-9.

**Ярэц, М.** Выбраныя творы / Мікола Ярэц; [уступны артыкул Васіля Цвердахлеба]. — Мінск: Четыре четверти, 2012. — ISBN 978-985-7026-44-9.

Ч. 1: Рэальнасці 60-80-х гадоў ХХ веку. — 2012. — 53 с. — 30 экз.

### Польская літаратура

**Хмелевская, И.** Девица с выкрутасами: [роман] / Иоанна Хмелевская; [перевод с польского Н. В. Селивановой]. — Москва: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-41482-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1201-7 (Харвест) (в пер.).

**Хмелевская, И.** Девица с выкрутасами: [роман] / Иоанна Хмелевская; [перевод с польского Н. В. Селивановой]. — Москва: Астрель, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-271-41481-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1200-0 (Харвест) (в пер.).

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Волков, А. М.** Урфин Джюс и его деревянные солдаты: [для внеклассного чтения] / А. Волков; художник Леонид Владимирский. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 206 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-004401-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-00637-1 (Астрель). — ISBN 978-985-16-0836-8 (Харвест) (в пер.).

**Городок в табакерке**: сказки русских писателей: [для младшего школьного возраста; художник А. Клепаков]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 270 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Аксаков С. Т., Гаршин В. М., Горький М., Мамин-Сибиряк Д. Н., Одоевский В. Ф., Погорельский А., Пушкин А. С., Толстой Л. Н., Ушинский К. Д. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-034891-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-13263-6 (Астрель). — ISBN 978-985-13-7116-3 (Харвест) (в пер.).

**Гусева, Л. Н. Сказки Лидии Гусевой**: [для младшего и среднего школьного возраста] / иллюстрации Дмитрия Рыжикова. — Минск: МИНАР, 2012. — 95 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-90268-1-2.

**Гуси-лебеди**: русские народные сказки / [составитель Е. С. Горулева]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя , 2012. — 87 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0617-8.

**Киплинг, Д. Р.** Книга джунглей / Редьярд Киплинг; [перевод Е. М. Чистяковой-Вэр; перевод комментариев Лады Корнеевой]. — Москва: Астрель, 2011. — 202 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-38479-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0995-6 (Харвест) (в пер.).

**Книга загадок**: [для дошкольного и младшего школьного возраста (взрослые читают детям) / автор-составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; художник Т. Емельянова]. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2011. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-27-728-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-8528-4 (Харвест) (в пер.).

**Милн, А. А.** Винни-Пух и все-все-все: [для дошкольного возраста / сказку А. Милна рассказал Борис Заходер; авторы сценария: Борис Заходер, Федор Хитрук; художники: Владимир Зуйков, Эдуард Назаров]. — Москва: Астрель: АСТ, 2011. — 159 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10100 экз. — ISBN 978-5-271-36105-0 (Астрель). — ISBN 978-5-17-074473-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-0104-2 (Харвест) (в пер.).

**Радуга-дуга**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 2525 экз. — ISBN 978-985-17-0419-0 (в пер.).

**Рапунцель**: волшебные сказки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина]; художники Владимир Пустовалов и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 62 с. — (Серия «Золотые сказки»). — Содержит авторов: братья Гримм, Перро Ш. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0451-0 (в пер.).

**Сказки для самых маленьких**: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 2525 экз. — ISBN 978-985-17-04-24-4 (в пер.).

**Сказки народов мира**: [перевод / составитель Заидова Хиджран; иллюстрации Анастасия Балыш]. — Минск: Медисонт, 2012. — 24 с. — Содержит авторов: Заидова Х., Кнап А., Яхя Х. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6982-45-6.

**Сказочная полянка**: русские народные сказки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка сказок Сергея Кузьмина; художники Ирина и Владимир Пустоваловы]. — Смоленск: Русич; Минск: Книжный Дом, 2010. — 247 с. –– 7100 экз. — ISBN 978-5-8138-1022-0 (Русич) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Сказки В. Сутеева: [сказки и рассказы: для чтения родителями детям / рисунки автора]. — Москва: Астрель: АСТ, 2012. — 189 с. — Издано при участии ООО "Харвест" (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-02894-6 (Астрель). — ISBN 978-5-17-007996-4 (АСТ). — ISBN 978-985-16-4894-4 (Харвест) (в пер.).

**300 любимых стихов.** — Москва: Астрель, 2011. — 318 с. — Издано при участии ООО "Харвест" (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-40779-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0907-9 (Харвест) (в пер.).

## Чытальная зала

# Мая добрая гаспадыня

Мяркую, на пытанне: “Хто ў доме гаспадар?”, адказ можа быць толькі адзін. Жанчына. Яна ж маці, жонка, захавальніца хатняга агменю. Яна ведае, як правільна весці гаспадарку.

Складзена шмат гаспадарчых кніг, але ні адна не можа поўнасцю задаволіць. Метады і парады, змешчаныя ў іх, у большасці надуманыя, яны існуюць толькі ў галаве таго, хто піша, і не пацверджаныя практыкай. Сярод падобных кніг знойдзецца няшмат, парады якіх можна выкарыстоўваць у хатняй гаспадарцы.

Сярод іх — **“Першая беларуская гаспадарча-кулінарная энцыклапедыя”**, што пабачыла свет у выдавецтве **“Беларусь”** (пераклад з польскай мовы П. Казлоўскага, В. Нядзвецкай).

Калі гаспадыня стане кіравацца парадамі аўтаркі, жывёла і птушка яе заўсёды будуць добра дагледжаныя, яна зможа найлепшым чынам поўніць сваю камору не толькі самымі вытанчанымі ласункамі, варэннямі і лікёрамі, але і вэнджанымі, салёнымі, квашанымі стравамі.

Пра **Ганну Цюндзявіцкую**, аўтара твора, вядома не так шмат: збірала народныя рэцэпты і правярала іх на практыцы. Абапіралася на ўласны вопыт, вопыт сваіх бацькоў, суседзяў — мясцовых сялян. У наш час Ганна Цюндзявіцкая, несумненна, стала б знаным вучоным у галіне аграноміі, заатэхніі ці медыцыны. Яе веды былі шматгранныя, энцыклапедычныя. Яна выкарыстоўвала рускія, украінскія, польскія крыніцы, побач з мясцовымі назвамі раслін прыводзіла лацінскія. Правяраючы той або іншы варыянт, аналітычна супастаўляла з’явы, праводзіла, па сутнасці, эксперыменты. І таму асобныя раздзелы яе твора чытаюцца, нібы навуковыя трактаты: “Гаспадарчы дзённік і тыднёвік…”, “Аб утрыманні кароў і валоў”, “Аб гадаванні і ўтрыманні авечак і аб карысці з іх”, “Аб гадаванні і ўтрыманні птушкі”, “Аб захоўванні вяндліны і саленні розных відаў мяса і рыбы”, “Аб прыгатаванні, сушцы, саленні, марынаванні ўсялякай гароднiны і садавіны”, “Розныя сакрэты і веды”, “Аб малочных прадуктах”, “Касметыка і духмяныя рэчывы”, “Фарбаванне і вядзенне пражы з шэрсці”…

Кніга Ганны Цюндзявіцкай магла б з’явіцца з указаннем прозвішча аўтаркі. Ды такая была яе воля, каб усе шэсць выданняў “Літоўскай гаспадыні” — і прыжыццёвае, і пасмяротныя — убачылі свет ананімна. Менавіта гэтая ананімнасць надае яшчэ большай каштоўнасці і таямнічнасці энцыклапедыі. Перад намі — дзённік добрай гаспадыні.

**Кацярына БЯДУЛІНА**

**Тургенев, И. С.** Записки охотника. Ася / Иван Тургенев; художники: В. Челак, Е. Бем. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 285 с. — Издано при участии ООО “Харвест” (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-036344-5 (АСТ). — ISBN 978-5-271-13293-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-2716-1 (Харвест) (в пер.).

**Чудо на ладошке**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 223 с. — 2525 экз. — ISBN 978-985-17-0423-7 (в пер.).

**Эрвин, В.** Скуби-Ду и ты: дело о театральном призраке: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Вики Эрвин; [перевод с английского А. Л. Мельник]. — Москва: Астрель, 2011. — 63 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-38595-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1048-8 (Харвест) (в пер.).

**Winx club. Книга о любви**: любовь и магия в сердцах шести фей!: [для среднего и старшего школьного возраста / перевод с итальянского Анны Орловой]. — Москва: Астрель, 2011. — 55 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-271-37046-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0877-5 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Игнатенко, Н. А.** Разговор под звездным небом: [для младшего школьного возраста] / Наталья Игнатенко; [художник Г. Л. Иванова]. — Минск: Пачатковая школа, 2012. — 14 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6988-29-8.

**Криничка**. — Минск: Союз евангельских христиан баптистов в Республике Беларусь, 2009.

Т. 5: рассказы для детей: опубликованы в журнале «Крынічка» / [ответственный редактор и составитель Василий Трубчик]. — 2012. — 205 с. — 3010 экз. — ISBN 978-985-7033-02-7 (в пер.).

**Лясковский, В.** Кто на кого похож: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Виктор Лясковский; [иллюстрации Инги Седовой]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 10 с. — 7300 экз. — ISBN 978-985-17-0467-1.

**Лясковский, В.** Кто что любит: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Виктор Лясковский; [иллюстрации Инги Седовой]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 10 с. — 7300 экз. — ISBN 978-985-17-0468-8.

**Лясковский, В.** Лесная школа: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Виктор Лясковский; [иллюстрации Инги Седовой]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 10 с. — 7300 экз. — ISBN 978-985-17-0470-1.

**Лясковский, В.** Цыпленок учится считать: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Виктор Лясковский; [иллюстрации Инги Седовой]. — Минск: Книжный Дом, 2012. — 10 с. — 7300 экз. — ISBN 978-985-17-0469-5.

**Сапожков, Ю. М. Паук-канатоходец**: стихи: [для младшего школьного возраста] / Юрий Сапожков; [художник Мария Мицкевич]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 31 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6994-99-2.

**Соботович, К.** Маленькие подвижники: рассказы о жизни святых: [для чтения взрослыми детям] / Ксения Соботович, Анна Галковская. — Минск: Свято-Елизаветинский женский монастырь в г. Минске, з 2011. — 77 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6886-73-0 (в пер.).

**Фролов, В. А.** Фантастическое приключение Кости и Кеши / Владимир Фролов; [художник Владимир Пощастьев]. — Минск: Ковчег, 2011. — 59 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-6950-87-5 (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Беларускія казкі.** А. С. Бржазоўскі/. для сярэдняга школьнага ўзросту / — Мінск: Парадокс, 2012. — 399 с. — 3275 экз. — ISBN 978-985-451-273-0 (у пер.).

**Вясёлка**: вершы, апавяданні, казкі, п’есы, песні / [М. А. Маляўка; У. Ліпскі]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 278 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1334-1 (у пер.).

**Кузмініч, І. Р.** Казачка пра гандляра Пятра, Казу і Каляды / Ігар Кузмініч; [ілюстрацыі Алесі Галоты]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 14 с.— 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1345-7.

**Купала, Я.** Роднае слова: вершы, паэмы, п’есы: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту] / Янка Купала; [укладанне Віктара Шніпа]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 253 с. — 18619 экз. — ISBN 978-985-02-1344-0 (у пер.).

**Пакліч у госці сонца**: [зборнік твораў для пазакласнага чытання: для малодшага школьнага ўзросту / складальнікі: Л. Ф. Кузняцова, Н. У. Антонова]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2012. — 247 с. — 19719 экз. — ISBN 978-985-11-0612-3 (у пер.).

**Шахрай, І. А.** Кучаравы пэндзлік: казкі: [для малодшага школьнага ўзросту] / Ілья Шахрай; [мастак Павел Чапялевіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 44 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1131-6.

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры. Літаратурная тэхніка.

### Беларуская літаратура

**Вольскі, А. В.** Літаратурнае чытанне: падручнік для 3-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2012. — ISBN 978-985-559-017-1 (у пер.).

Ч. 1. Мінск — 2012. — 109 с. — 21000 экз. — ISBN 978-985-559-018-8.

**Карповіч, Г.** Кніжна-эпіграматычная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. у кантэксце антычнай традыцыі / Ганна Карповіч; Інстытут славянскай філалогіі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, Польскі інстытут у Мінску. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 358 с. — Частка тэксту на польскай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-7007-62-2.

**Мельнікаў, М.** Дзень, які натхніў: «круглы стол» па творах Мікалая Мельнікава «Ведаць усім і ва ўсім праўдзівым абліччы» / Мікалай Мельнікаў; [рэдактары: А. П. Госцеў, В. Л. Несцяровіч; мастак Яўген Жаўноў; фота А. П. Госцева]; Кафедра філалогіі ліцэя № 1 г. Гародні, Музей «Гісторыя педагогікі Гарадзеншчыны 12–21 стст». — Гародня, 2012. — 62 с. — 300 экз.

**Чыгрын, С. М.** Па слядах Купалы і Коласа: літаратурна-краязнаўчыя артыкулы і вершы / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 95 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7007-57-8.

### ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Высокое**: [история города / Ю. И. Сахарчук, Белемук Л. М., Бищук Л. А., Карпишук А. М., Ковалевич А. Н., Остапович Е. В.; главный редактор: Владимир Шпарло; фото: А. М. Карпишука]. — Брест: РИА «Вечерний Брест», 2012. — 143 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6964-20-9 (в пер.)

**Денисейко, А. И.** Огдемер. Свет полесских звезд: легенда мирового хоккея Уэйн Гретцки и другие / Анатолий Денисейко; Литературное объединение «Ясельда». — Брест: Альтернатива, 2011. — 198 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-521-260-8 (в пер.).

**Джепсон, Т.** Сицилия: путеводитель / Тим Джепсон; [научный редактор Альфредо Пелелла; перевод с английского: Рипинская П. С.; авторы текста Дана Чиввис и Ларри Порджес; фотограф: Тино Сорьяно]. — Москва: Астрель, 2012. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-39913-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1258-1 (Харвест).

**Жодино**. — 2011. — 25 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1000 экз.

### Гісторыя

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Зональный государственный архив в Полоцке**: путеводитель: 1943–2007 / Учреждение Зональный государственный архив в г. Полоцке; [составители: Т. В. Буевич, Р. В. Счастная, И. Д. Третьяк; редколлегия: Л. В. Лазаренок (главный редактор), Р. В. Счастная, И. Д. Третьяк]. — Минск: Медисонт, 2011. — 447 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-6982-34-0 (в пер.).

### Усеагульная гісторыя

**Всемирная история в вопросах и ответах**: 11-й класс / [составители: В. С. Кошелев, Т. Г. Ященко]. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 176 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0049-3.

### Гісторыя Старажытнага свету. Старажытная гісторыя

**Шифф, С.** Клеопатра / Стейси Шифф; [перевод с английского Екатерины Матерновской]. — Москва: Астрель, 2012. — 445 с. — (Современные и классические бестселлеры). — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-271-43-224-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1297-0 (Харвест) (в пер).

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Суворов, В.** День «М»: когда началась Вторая мировая война? / Виктор Суворов; [художник Ю. Д. Федичкин]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-007645-1 (АСТ). — ISBN 978-5-271-42421-2 (Астрель). — ISBN 978-985-13-9064-5 (Харвест) (в пер.).

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Великая Отечественная война советского народа (в контексте Второй мировой войны)**: учебно-методическое пособие для студентов учреждений высшего образования по химико-технологическим специальностям заочной формы обучения / Белорусский государственный технологический университет; [составители: Коледа Инна Владимировна, Острога Валентина Михайловна, Доморад Алексей Анатольевич]. — Минск: БГТУ, 2012. — 91 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-530-164-7.

**Голденков, М.** Утраченная Русь: забытая Литва, неизвестная Московия, запрещенная Беларусь / Михаил Голденков. — Минск: Букмастер, 2011. — 412 с.— ISBN 978-985-549-082-2 (в пер.).

**Первая чеченская. Вторая чеченская** / [составитель Гродненский Николай Николаевич]. — Минск: Букмастер, 2012. — 477 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-181-2 (в пер.).

**1941 год: трагедия, героизм, память**. Сборник материалов международной научной конференции, посвященной 70-й годовщине начала Великой Отечественной войны, Брест, 20–22 июня 2011 г. / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина, Брестский областной исполнительный комитет, Центр изучения внешней политики и безопасности Республики Беларусь; [редколлегия: М. Э. Чесновский (гл. ред.), В. В. Зданович]. — Брест: БрГУ, 2012. — 125 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на немецком языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-473-818-5.

### Гісторыя Беларусі

**Адам Григорьевич Кисель: жизнь и деятельность. —** / сборник материалов / [составители: В. Н. Киселев, В. О. Свистун]. — Минск: Ильин В. П., 2012. — 495 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 300 экз. — ISBN 978-985-6365-37-2 (в пер.).

**Асоба і час**: беларускі біяграфічны альманах. — Мінск: Лімарыус, 2009.

Вып. 4 / [укладальнік – Аляксандр Фядута; пад навуковай рэдакцыяй Т. Я. Аўтуховіч і З. В. Шыбекі]. — 2011. — 408 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 299 экз.

**Герасимович, К. С.** История Беларуси: 9-й класс: ответы на экзаменационные вопросы / К. С. Герасимович. — 2-е изд., переработанное. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 63 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-294-5.

**Лукашевич, А. М.** Памятники и памятные места 1812 года в Беларуси / А. М. Лукашевич. — Минск: Харвест, 2012. — Библиография: с. 212–232 (267 назв.). — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-0997-0 (в пер.).

**На абпаленых крылах**: кніга ўспамінаў непаўналетніх вязняў фашызму / Г А «Беларуская асацыяцыя непаўналетніх вязняў фашызму», Брэсцкая абласная арганізацыя; [укладальнікі: Л. Г. Філатаў, Л. П. Раманенка, І. В. Бараноўскі]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 239 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 250 экз. — ISBN 978-985-7007-61-5.

**Новосельский, В. В.** История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии (1236–1569), или 333 года борьбы за возвышение и выживание: темные десятилетия (1263–1316) / В. В. Новосельский. — Минск: Элайда, 2012. — 222 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7019-09-0.

**Панов, С. В.** Материалы по истории Беларуси: 9-й класс: 42 темы для изучения, задания для самоконтроля, иллюстрации, логические схемы, терминологический словарь, хронологическая таблица, словарь персоналий, карты / С. В. Панов; [под научной редакцией Н. С. Сташкевича, Г. Я. Голенченко]. — 9-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2012. — 319 с. — ISBN 978-985-533-197-2.

**Централизованное тестирование. История Беларуси**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 45с. — (Школьникам, абитуриентам, учащимся). 00 экз. — ISBN 978-985-19-0092-9.

## топ-10

## “Кнігарня пісьменніка”, г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Алесь Бадак, Раіса Баравікова, Алесь Наварыч. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.
2. Владимир Воложинский. Минск в легендах, мифах и преданиях. — Минск: ФУАинформ, 2012.

*Откуда взялись те или иные названия столичных улиц, районов, площадей, кто и как построил купол цирка, откуда взялось название гостиницы “Орбита”, какая из городских скульптур В.Жбанова может помочь, чтобы день был удачным, — обо всём понемногу писали разные авторы в перио-дических изданиях “Минский курьер”, “Женский журнал”, “СБ. Беларусь сегодня”, “Ва-банк” и др. Квинтэссенцию их публикаций предлагает автор под одной обложкой, со ссылками на первоисточник, разумеется.*

3. Цішка Гартны. Выбраныя творы. — Мінск: Беларуская навука, 2012.
4. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2012.
5. Першая беларуская гаспадарча-кулінарная энцыклапедыя: Літоўская гаспадыня. — Мінск: Беларусь, 2012.
6. Андрей Лукашевич. Памятники и памятные места 1812 года в Беларуси. — Минск: Харвест, 2012.
7. Уладзімір Мазго. Лепшыя сябры. — Мінск: Народная асвета, 2012.
8. Людміла Рублеўская. Сэрца мармуровага анёла. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012.
9. Аляксандр Сержпутоўскі. Чароўны човен: казкі і апавяданні. — Мінск: Вышэйшая школа, 2012.
10. Алесь Якімовіч. Каб мама ўсміхалася. — Мінск: Народная асвета, 2012.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. 300 любимых стихов. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
2. Анна Борисова (Борис Акунин). Там... — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
3. Анна Борисова (Борис Акунин). Креативщик. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
4. Дэн Браун. Утраченный символ. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
5. Михаил Булгаков. Морфий. Записки юного врача. — Москва: Эксмо-пресс, 2012.
6. Михаил Веллер. Отцы наши милостивцы. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
7. Полина Дашкова. Пакт. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
8. Дарья Донцова. Дьявол носит лапти. — Москва: Эксмо, 2012.
9. Татьяна Полякова. Неутолимая жажда. — Москва: Эксмо, 2012.
10. Татьяна Устинова. С небес на землю. Неразрезанные страницы. — Москва: Эксмо, 2012.

Юбілеі

# Гаўрош Брэсцкай крэпасці

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Алесь Махнач — імя ў беларускай літаратуры вядомае. Пісьменнік нарадзіўся ў 1922 годзе і належыць да пакалення, якое большай часткай засталося на вайне. Яе вогненныя віхуры ахуталі жыццёвыя шляхі выпускніка Калінкавіцкага ваеннага пяхотнага вучылішча, лейтэнанта Махнача з першых выбухаў смертаносных бомбаў: 22 чэрвеня павінна было стаць пятым днём службы пакуль яшчэ 18-гадовага (!) камандзіра ўзвода гарнізона Брэсцкай крэпасці. А яшчэ праз пяць дзён ён цяжка паранены апынуўся ў палоне, прайшоўшы экзістэнцыйныя выпрабаванні некалькімі канцлагерамі, пасля якіх з вясны пераможнага 1945-га каля двух гадоў патраціў на аднаўленне здароўя.

Аднак душа маладога хлопца не ачарсцвела, яна цягнулася да высокага мастацтва. Не адразу — пасля доўгіх працоўных бібліятэкарскіх гадоў (1947—1956), настойліва авалодванне ведамі ў Мінскім бібліятэчным тэхнікуме (1950—1954) і Літаратурным інстытуце імя М. Горкага (1954—1960) — А. Махнач прыйшоў да асабістых поспехаў на літаратурнай ніве.

Адной з самых важных у творчасці Алеся Махнача стала драматургія для дзяцей, што, тым не менш, з цягам часу пакрысе забываецца, і нават не кожны філолаг здолее прывесці адпаведныя прыклады. Між іншым сярод дзіцячых п'ес Махнача, якія, што праўда, характарызуюцца няроўным мастацкім узроўнем, ёсць і вартыя любога часу творы.

Не дзіўна, што тэматычна-жанравыя прыярытэты пісьменніка-франтавіка цесна ўвязваліся з падзеямі перажытай вайны. Наколькі значнай для творцы была гэта тэма, сведчыць яго пісьменніцкая ўвага да ваенных падзей, выяўленая ў прозе самых розных жанраў. Гэтай схільнасці яго пяро не пазбягала і пры стварэнні п'ес, адрасаваных дзецям. Галоўнымі з іх, бадай, сталі драмы "Шпачок" (пастаўлена ў 1964-м) і "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці" (1974).

Прычым названыя творы ствараліся не адзін год, а прайшлі некалькі этапаў удасканалення, што сведчыць пра асаблівыя адносіны аўтара да сваіх п'ес і герояў. Так, першыя дзеі ці не самага вядомага дзіцячага твора Алеся Махнача гераічнай драмы "Шпачок" з'явіліся спярша ў выглядзе камедыйнай сцэнкі пад аднайменнай назвай у часопісе "Бярозка" (1958, №4). У ёй падлетак-партызан сам прыходзіць у дом ворага і, абдурыўшы вартавога і жонку палкоўніка, выкрадае дакументы. Ужо ў гэтай аднаактоўцы (якая ў далейшым шліфавалася) можна гаварыць пра характарнасць герояў. Хаця і з тыповымі для раскрыцця тэмы памылкамі, калі ворагі рэпрэзентуюцца ці то тупаватымі, як гэты вартавы Ганс, ці то труслівымі, як Герта, якую Шпачок "замініраваў" вазонам. Тым не менш такая карыкатурнасць бачыцца дапушчальнай у камедыі, якая мела поспех у чытача і перавыдавалася ў такім выглядзе яшчэ колькі разоў (1959, 1961, 1967, апошнім разам — нягледзячы на тое, што стала часткай больш маштабнага твора зусім іншага жанру).

Сур'ёзнасць тэмы дзяцей на вайне, аднак, патрабавала іншых мастацкіх падыходаў, рэалізацыю якіх аўтар не адкладаў. Ужо ў наступным годзе Шпачок, але пад імем Васілёк, становіцца галоўным героем драмы "Бацькаў наказ" ("Маладосць", №2), у якой апавядаецца пра партызанскую дыверсію на чыгунцы. Працягам падзей становіцца драма "Мяне забілі фашысты..." (1962) пра яшчэ адзін подзвіг партызан з удзелам таго ж героя.

Пералічаныя творы былі арганічна звязаны ў адзін і паўсталі шырокім палатном народнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Канчатковая рэдакцыя гераічнай драмы "Шпачок" (1982) характарызуецца высока-мастацкім гучаннем, антываенным пафасам, урэшце добра створанай псіхалагічнай атмасферай. Глыбокая, пададзеная са шчымлівым надрывам драматычнасць падзей у нейкай ступені нівеліруецца злоўжываннем прыгодніцкіх і непраўдападобнымі элементамі, напрыклад, забойствам двух нямецкіх вайскоўцаў героем-падлеткам. Аднак аўтар удала прадэманстраваў, як бесчалавечная жорсткасць у жыцці суседнічае з праяўленнямі гуманізму, бязмежнага па сваёй сіле і несмяротнага па сваёй сутнасці, бо без яго людзі страцілі б людскасць.



Алесь Махнач.




Сцяпан Лаўшук драму "Шпачок" справядліва называе "адной з самых характэрных п'ес беларускай дзіцячай драматургіі, якая прысвечана тэме Вялікай Айчыннай вайны", адзначаючы пры гэтым, што "напісана яна з добрым разуменнем дзіцячай псіхалогіі". З першых старонак перад чытачом паўстаюць выразныя характары. Зразумела, асаблівую душэўнасць атрымала постаць пратаганіста — Васілька, які фактычна стаў увасабленнем падлетка — барацьбіта супраць захопнікаў.

Алесь Махнач не мог абысці мастацкай увагай падзеі, у якіх з першых момантаў вайны давялося самому прыняць удзел, — абароны Брэсцкай крэпасці. Гераічная драма "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці", падобная па мастацкім гучанні да п'есы "Шпачок", таксама не адразу паўстала ў канчатковай рэдакцыі аўтара. Больш за тое, тэма выспявала ў нарысах і нататках пісьменніка. Маючы назву "Маленькія салдаты", твор убачыў свет яшчэ ў 1968 годзе Аналіз рэдакцый п'есы паказаў, што, захоўваючы сюжэтную канву, аўтар працаваў над мастацкасцю твора — у аспекце ўзмацнення гуманістычнага пафасу і шліфоўкі стылю.

Шматгадовыя дапрацоўкі твораў гавораць пра высокую патрабальнасць аўтара да сябе. Праўда, у Махнача здараліся і слабыя ў мастацкіх адносінах дзіцячыя п'есы. Аднаактоўка "Мы будзем жыць" (1964), штучная ад пачатку да развязкі, у выніку якой два хлапчукі, дзед, маці і дачка дастаткова лёгка даюць бой фашысцкай карнай часці.

Сказаў Махнач сваё слова і ў "малой" драматургічнай форме, якая набірала папулярнасць у 1950-я гады. Гэта быў свайго роду сацыяльны заказ (няхай і ў добрым сэнсе гэтага паняцця, як у дадзеным выпадку), ён не заўсёды стасаваўся з натхненнем аўтараў. Аднаактовыя п'есы А. Махнача таксама атрымаліся няроўнымі. Напрыклад, у "Пецевай сіле" (1959) перавыхаванне адмоўнага героя даецца зусім лёгка: дастаткова пагодкам з іншай школы прапанаваць сябраваць на глебе добрай вучобы, а то і проста пасараміць — і хлопец кардынальна змяняе свае адносіны да навучання. Яшчэ ў адной п'есе Махнача "Ля вогнішча" (1961) вырашэнне праблемы працоўнага выхавання мае спрошчаную плакатнасць, сентэнцыйнасць: маўляў, трэба працаваць, трэба старацца. Характары ў падобных творах (і не толькі гэтага аўтара) калі і зразумелыя, то іх дзеянні, не маючы патрэбнай аднаактоўкам вастрыні, пікантнасці, не выклікаюць асаблівага інтарэсу. Заўважана, што драматургі нібыта прытрымліваліся адной схемы: той, хто стараецца і працуе, атрымае ўрэшце ўзнагароду, а той, хто філоніць, выязджае за кошт іншых, будзе выяўлены і пакараны.

Аднак п'еса "Прабач, пляменнічак" (1961) з'яўляецца выключэннем з таго шэрагу. У ёй аўтар дэманструе, што сумленне, сціпласць нельга страчваць ні пры якіх абставінах. Юрка аказаўся маральна вышэй за сваю цётку Зіну Паўлаўну. Ёй жа, каб гэта зразумець, патрэбна было супадзенне: менавіта яе сына, свайго стрыечнага брата, выратаваў Юрка на рэчцы.

Прызма сумлення для вырашэння праблем сяброўства і калектывізму з'яўляецца лакмусавай паперкай. Прычым такія п'есы адрозніваюцца па вастрыні канфлікту, належнай ступені якой тагачасным драматургам аказалася дасягнуць цяжка. Часцей тут назіраецца простае канстатаванне, што толькі ў калектыве чалавек можа цалкам рэалізавацца. Калектыў выступае як выхаваўчы асяродак. Прычым часам дастаткова толькі натацый таварышаў, пасля чаго адмоўны герой становіцца іншым, сур'ёзна задумваецца над сваімі недахопамі. Але ці натуральны такі ход падзей — пытанне рытарычнае. Не пазбегнуў прыведзеных мастацкіх хібаў і Алесь Махнач — у п'есах "Няхай прыходзяць" (1962) "Пецева сіла". Аднак, трэба адзначыць, што крытыка індывідуалізму не даведзена да вульгарызатарскага "единица — ноль" (У. Маякоўскі), а роля асобы не нівеліруецца ў калектыве.

Шырокую праблематыку дазваляе падняць тэма турызму і паходаў школьнікаў, модная на той час. У іх кантэксце героі праходзяць выпрабаванні на працавітасць, кемлівасць, сумленнасць. У А. Махнача варта адзначыць творы "Юныя сябры пагранічнікаў" (1964) і "Аднойчы ў паходзе" (1956).

"Юныя сябры пагранічнікаў" прапагандуюць ідэю калектывізму: пакрыўджаныя Юрка і Жэня хацелі ашукаць сваіх таварышаў, але апошнія выкрылі падман. "Мы будзем, як усе", — дэкларуюць Юрка і Жэня. І гэта не проста павага да калектыву — гэта, бадай, ужо заклік да безаблічвання на карысць згуртаванасці.

Адасобленасць яшчэ ў адной названай п'есе выстаўляе галоўнага героя Пецю ў негатыўным святле. Відавочна, указаныя творы мелі на мэце пасеяць усведамленне выпрацоўкі сяброўскіх стасункаў, узаемавыручкі, сілы волі, шчырасці. Але пададзеная псіхалагічная методыка можа прывесці да вынікаў адваротных: выхаванец можа яшчэ больш замкнуцца, з большым эфектам для дасягнення мэты было б разуменне ягоных праблем калектывам, а не прысарамачванне ці — яшчэ горш — высмейванне.

Уплыў культу асобы і тэорыі бесканфліктнасці не прайшоў бясследна для дзіцячай аднаактовай драматургіі, што крытыкай было адразу адзначана. І хаця ў дзіцячую літаратуру названая з'ява пранікла не ў такой ступені, як у дарослую, яе элементы знаходзяцца і тут, што прыводзіць да поўнага збяднення характараў, дэвальвацыі іх арыгінальнасці і каштоўнасці. Тэорыя бесканфліктнасці адбілася на сэнсавай напоўненасці п'есы А. Махнача "Дзесьці на Алтаі" (1956). У ёй прысутнічаюць толькі намёкі на канфлікт, а нейкіх палярных супрацьстаянняў характараў ці пераадолення персанажамі жыццёва важных перашкод, праблем не назіраецца. Фабула простая да прымітыўнасці: малалетні Віця просіцца ў саўгас, каб стаць механікам. Персанаж і так выступае станоўчым, аднак аўтар паказвае, што можна старацца быць яшчэ лепшым.

Крыху дзіўна, нечакана бачыць у кантэксце дзіцячай драматургіі Махнача, які практыкаваў п'есы рэалістычнага кірунку, казку. Адзіная казачная п'еса — "Свавольныя зайчаняты" — была створана ў 1962 годзе і яшчэ некалькі разоў перавыдавалася. Напісаная з прымяненнем некаторых матываў народных казак, яна ім саступае ў разгортванні канфлікту — хіба недапушчальна для драматургічнага твора. Хоць характары п'есы нельга прызнаць няўдалымі. Тым не менш развязка адбываецца не паміж галоўнымі мастацкімі антаганістамі (заечай сям'ёй з аднаго боку і Ваўком ды Лісой — з другога), а дзякуючы ўмяшальніцтву ў канфлікт Мядзведзя, — і гэты ў нейкай меры штучны ход нівеліруе ўсю вастрыню падзей, зніжаючы мастацкасць твора.

"Малыя" п'есы Алеся Махнача публікаваліся па 3 — 5 разоў, а гэта нямала. Тым не менш, гледзячы з адлегласці часу, можна зрабіць выснову, што яны не сталі прыкметным фактам літаратурнага працэсу. Постаць Махнача як дзіцячага драматурга заслугоўвае ўвагі перадусім дзякуючы гераічным драмам "Шпачок" і "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці". Калізіі гэтых драматычных твораў будуць цікавіць і праз дзясяткі гадоў, а героі са зразумелымі, акрэсленымі характарамі ніколі не стануць адчужанымі чытачам і гледачам, бо іх дзеянне, выклікаючы эмпатыю, працуе на чалавечнасць, агульную для ўсіх часоў і народаў.

*Есть проблема*

# Написанное остаётся

## Откровенный разговор о литературе и литераторах

Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЕНКО, председатель Витебского областного отделения Союза писателей Беларуси

Какую область жизни ни взять, смысл, масштаб всему задаёт совершенство. В красоте и гармонии, музыке и архитектуре, выживаемости и жизнеспособности, технологиях и стратегиях… Но всё, абсолютно всё начинается с Его Величества Слова. И чем совершеннее труд словесный, тем, как подтверждает жизнь, он живее и долговечнее. Поэтому, какие бы разговоры на определённых уровнях мы ни слышали сегодня по поводу падающих рейтингов печатного слова, какие бы лукавые уверения в том, что душа нашего народа не принимает ничего серьёзного, жаждет только примитивной *развлекаловки*, какие бы ни приводились убеждения в том, что читать, кроме детективов и жёлтой прессы никто ничего не желает, и какие бы новые электронные формы сиюминутного актуального чтива нам ни предлагались — ничто не в состоянии отвлечь человека мыслящего от вдумчивого чтения хорошей книги, которая у нас есть. Была. И смею надеяться, будет.

Сегодня, как никогда, литература должна быть наполненной образным убеждающим словом. Мне часто звонят и пишут читатели с вопросами, где купить ту или иную книгу писателей-современников. "Магазины полны детективами или дорогими глянцевыми подарочными альбомами, в которых больше — картинки, а *читать* — нечего. А постмодерн — это ведущее в никуда чтиво. Им забиты все книжные лавки. Есть большой выбор классиков. Но это мы уже прочли. А кто лучше современников отразит нашу жизнь, ответит на злободневные вопросы?" — говорят наши читатели.

Может быть, нужно дополнительно издавать наиболее востребованные книги, особенно духовные? Купить их, действительно, негде. Но недостаток хороших книг нынче проблема не только книжной торговли… Срочно нуждается в активизации область духовного воспитания, к коей относится и книгоиздание, и книгораспространение, и — в первую очередь — создание духовной литературы.

Писательская организация Витебской области выросла за последние пять лет с 12 до 41 человека. За это время издано 175 книг. Почти все — за свой счёт или с помощью спонсоров. Не раз мы побеждали на международных и республиканских литературных конкурсах. Наибольшее внимание активно работающей частью писателей уделяется вопросам развития и пропаганды отечественной литературы, налаживания международных связей. Так, прошли творческие встречи с писателями соседней Латвии — в Даугавпилсе, Смоленске, Санкт-Петербурге, Брянске и т. д. Всего проведено 2 800 встреч патриотической и духовной направленности с читателями в библиотеках, университетах, средних школах, колледжах, воинских частях, трудовых коллективах, подарены сотни книг.

Высокой нравственности, духовности, кои провозглашать и взращивать обязана подлинная художественная литература, недопустимо снижать планку до уровня потребительских масс, особенно тех, чей вкус сформирован не классикой, а всё возрастающим зудом потребления. Элементарные технологии сетевых воздействий: ложь, агрессия, призывы к протестам — легко превращают молодёжь в управляемые массы. Увы, но часто культура подменяется индустрией развлечений.

Проведённый в области мониторинг востребованности книг писателей Витебщины в библиотеках за 2011 год показал в основном хорошие результаты. Однако, по итогам проведённых аналогичных анализов и по другим регионам, возник ряд вопросов.

Почему один писатель встречается с читателями регулярно, не жалея для этого ни личного времени, ни сил, ни, наконец, здоровья, а другой — 2—3 раза, а то и вовсе — ни одного?

Почему книги писателей, живущих в Минске, представлены во всех библиотеках страны, а книг известных писателей Беларуси — витебчан, брестчан, гомельчан нет нигде, кроме библиотек своих регионов?

Отслеживая свои книги в интернете, я нашла их в библиотеках Санкт-Петербурга и Москвы, Киева и Брянска, Екатеринбурга и Свердловска, Риги и Даугавпилса, Омска и Орла, Бурятии и Якутии, но зато их нет в Гомеле и Гродно, Бресте и Могилёве…

Ещё один важный аспект: представители литературного цеха Беларуси сегодня нуждаются в систематическом повышении квалификации, и для этого необходимо создание на государственном уровне национального Литературного института, или его филиала, к примеру, на базе БГУ. Литинститут обязательно должен функционировать с обучением и переподготовкой, курсами, семинарами и мастер-классами. Надо приглашать для проведения мастер-классов ведущих мастеров слова из России, Украины, без снобизма обращаться к талантливым писателям из регионов. Я выросла в Брянской областной писательской организации, где с давних времён и поныне работают постоянно действующие мастер-классы для прозаиков и поэтов, детских писателей и драматургов…

В области мы проводим мастер-классы с молодыми литераторами, настоящие балы поэзии. А при детской библиотеке имени С. Маршака под руководством детской писательницы Маины Боборико активно работает — один из многих (такие есть ещё и в Шарковщине, Полоцке, Ветрино) — клуб юных поэтов, и самиздатом на базе этой библиотеки мы уже выпускаем маленькие сборники их произведений! А в Верхнедвинском районе писатель Василий Рудой, бывший капитан-подводник первого ранга, открыл на озере Освея творческий патриотический юношеский клуб "Гардемарины"… У нас живут и творят очень сильные, искренние, самобытные писатели… И в Минске есть талантливые литераторы, выпускники Московского государственного литературного института им. М. Горького, получившие знания на семинарах ведущих мастеров.

Что касается проводимого в области и по стране мониторинга по востребованности наших книг читателями, его результаты важны и для комплектования библиотек. Если писатель, которого практически не читают, настойчиво обивает пороги администраций, требуя выкупить его книги, ему можно просто показать на результаты проведённого анализа. А читают нас так, как мы пишем: от сердца, искренне, стремясь открыть истину, всеми силами совершенствуя своё мастерство, или — сочиняя для коммерческой цели… Чем больше души вкладываешь в строки, как говорят, если ты "кровью пишешь", то читателя искать не надо. Он найдёт тебя сам.

Меня радует цифра 24 772: столько раз из публичных библиотек были взяты книги писателей Витебщины. А ещё столько же было прочитано в библиотеках вузов и школ, колледжей и техникумов, воинских частей, трудовых коллективов и частных библиотек, то есть более 50 тысяч!!!

Кстати, об оплате труда писателя. Пока мы не научимся уважать собственный труд и самих себя, мы не можем претендовать не только на совершенство, а даже более или менее достойное место писателя в мире, писателя, на которого нынче возлагаются такие глобальные задачи и надежды. Смотрите, как мы все с невольным почтением относимся к самодостаточному во всех отношениях человеку. Но уж коли платить за труд, то и требования к нему должны быть высочайшего уровня. Что греха таить, значительная часть издаваемой литературы — увы, не только оставляет желать лучшего, а и вызывает непреодолимое желание её аннулировать, дабы страну не позорить. Платить надо, подчёркиваю, при соблюдении условия, что книги не должны идти неконтролируемым потоком на прилавки книжных магазинов и в библиотеки. Интеллектуальная продукция должна быть поистине носителем, сеятелем, воспитателем высочайшей духовности. И всё это должно совершаться строго дозировано, системно, цивилизованно.

*З пошты "ЛіМа"*

# Дзяржаўных — дзве, а родная — адна

Віктар КУНЦЭВІЧ

Так ужо гістарычна склалася, што большая частка насельніцтва нашай краіны карыстаецца ў побыце рускай мовай, таму мне асабіста бачыцца дарэчным існаванне дзвюх дзяржаўных моў. Аднак улічваючы, што матчына мова пакрысе растварaецца ў плыні "вялікай і магутнай" рускай мовы, толькі сляпы можа не бачыць, а глухі — не чуць, што выспеў час рабіць захады па яе неадкладнаму ратаванню, бо колькі б ні хадзілі пісьменнікі ў народ — гэтага мала.

Я, як грамадзянін краіны, ідучы па вуліцах роднага Магілёва, хачу бачыць на шыльдах не "магазин", а "крама", не "цветы", а "кветкі"… Таксама на вялікіх рэкламных шчытах павінна красавацца не "предлагаем стройматериалы", а "прапануем будматэрыялы". Усё б гэта выгадна рэкламавала і зберагала беларускую мову і разам з ёй нашу этнічную адметнасць.

А што гэта вельмі важна і духоўна неабходна я зразумеў даўно, калі яшчэ ў 1977 годзе вяртаўся са службы ў арміі, якую праходзіў на тэрыторыі Венгрыі.

Наш самалёт прызямліўся познім вечарам — дабрацца дадому не выпадала. Аднак на сваё шчасце сустрэў земляка, які ўладкаваў мяне на начлег у студэнцкі інтэрнат. Там, прачнуўшыся раніцай, я доўга слухаў радыё: гукі роднай мовы наталялі душу, і яна поўнілася радасцю, што я — беларус, што ёсць цудоўная, прыгожая краіна Беларусь, і што наперадзе ў мяне ўсё жыццё разам з ёю.

Крыўдна, што сённяшнім часам газеты Магілёўшчыны перайшлі на рускую мову. Нават у "раёнах", якія былі ручайкамі беларускасці, цяпер рэдка знойдзеш беларускамоўную публікацыю. На гэтым фоне прыемна ўразіла газета "Веснік Магілёва", на першай паласе якой, побач з назвай, пад рубрыкай "Беларускі ручнік" друкуюцца класікі беларускай літаратуры. Гэта не што іншае як кропля беларускасці. Кропля з тых кропель, якія і камень точаць.

Што тычыцца беларускамоўнай кніжкі, лічу, што нам, пісьменнікам, усім неабыякавым да роднага слова супрацоўнікам кніжнага гандлю і чытачам трэба браць прыклад з гандляроў харчова-прамысловымі таварамі. Зойдзеш у краму і бачыш заклік "Купляйце беларускае". А чаму так не можа быць у кніжных лаўках: "Чытайце беларускае" і на першым плане — стэнд з кнігамі айчынных пісьменнікаў. Дарэчы, якасць нашых кніг не горшая за якасць замежных. Сцвярджаю гэта як чытач з вялікім стажам. Ёсць у нашых паэтаў шмат вершаў, якія маглі б стаць цудоўнымі песнямі. Аднак эстрадныя "зоркі", прымаючы ўдзел у розных конкурсах, нават тады, калі патрабуецца спяваць песню на роднай мове, спяваюць на рускай. Можа, яны не ведаюць, што дзяржаўных моў можа быць некалькі, а родная — адна? Няўжо ім сорамна спяваць на матчынай мове? Пытаюся я сам у сябе. І прыходжу да высновы, што гэта, пэўна, так. І мне становіцца сорамна.

*Пад вокладкай*

Юзэфа ВОЎК




**Лагерь смерти Освенцим: живые свидетельства Беларуси / сост. А. В. Борисова, К. И. Козак, Г. Л. Стучинская. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 400 с.**

Гісторыя грамадскага руху былых вязняў канцлагераў, і ў прыватнасці Асвенцыма, няпростая. "Магчыма, таму, што наша памяць пра мінулае, пра трагедыю народа змоўкла на фоне важных падзей сучаснасці, — разважае ў прадмове да выдання адзін са складальнікаў кнігі, старшыня Беларускай асацыяцыі былых вязняў германскіх канцлагераў і ўдзельнікаў антыфашысцкага супраціву ў гады Вялікай Айчыннай вайны Аляксандра Барысава. — Ды і мы баяліся і саромеліся казаць пра сваё негераічнае мінулае". Але цяпер кожны, хто цікавіцца невядомымі старонкамі гісторыі Вялікай Айчыннай, зможа даведацца пра ўсё з вуснаў былых вязняў лагера смерці Асвенцым.




**Кто живёт в Беларуси / А. Вл. Гурко [и др.]; Национальная академия наук Беларуси, Институт искусствоведения, этнографии и фольклора имени К. Крапивы. — Минск: Беларуская навука, 2012. — 799 с.**

Хоць Беларусь і з'яўляецца па сутнасці аднанацыянальнай дзяржавай, на тэрыторыі нашай краіны жывуць прадстаўнікі іншых народаў — рускія, украінцы, палякі, яўрэі, татары, літоўцы, немцы, карэйцы, цыгане…Гэтае выданне распавядае пра сацыяльную, матэрыяльную, духоўную культуру прадстаўнікоў гэтых народаў, аўтары звяртаюць увагу таксама на гісторыю канфесій і сучасную рэлігійную сітуацыю ў Беларусі.




**Бубен, У. Марцін і кацяня. / Уладзіслаў Бубен. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 16 с.**

Пра самых маленькіх чытачоў — да трох гадоў — парупіліся псіхолаг Уладзіслаў Бубен і мастачка Марыля Кавальцэвіч. Гісторыя, якую яны расказалі, вучыць дабрыні і спагадзе. Героі яе — гарадскі хлопчык, яго мама і кошка Люся з маленькімі кацянятамі. Кацяняты маюць розны характар і звычкі. Шэрая кошачка, напрыклад, лічыць сябе вельмі дарослай. Што здараецца, калі не слухацца маму? Пра гэта расказана ў кнізе "Марцін і кацяня". Плошча малюнкаў у выданні куды большая за аб'ём тэксту. Іх вясёлыя колеры прыйдуцца дзецям даспадобы.




**Г. Гарсиа Маркес. Опасные приключения Мигеля Литтина в Чили / Габриэль Гарсиа Маркес; пер. с исп. М. Десятовой. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 186 с.**

Гэты раман-рэпартаж стаўся вынікам інтэрв'ю, якое доўжылася тыдзень. Васямнаццаць гадзін магнітафоннага запісу, амаль шэсцьсот старонак першапачатковага тэксту. Аўтарская манера Маркеса плюс захапляльная гісторыя здымак фільма, расказаная рэжысёрам, які быў беззваротна высланы з Чылі, разам спрацавалі так, што ў ЗША кніга адразу стала бестселерам, а ў Чылі яе першы тыраж быў знішчаны па асабістым загадзе Аўгуста Пінахета. А ўсё таму, што рэжысёр Мігель Ліцін вярнуўся ў краіну з фальшывымі дакументамі, змяніўшы знешнасць, каб зняць дакументальны фільм…

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

## Два апавяданні




# У старой леснічоўцы

Андрэй Кірылавіч Жаўнерчык, у якога нядаўна ўкралі веласіпед, пешшу ішоў у вёску Пянькі, дзе працаваў дырэктарам школы. Хаця які ён дырэктар. Гэта па штатным раскладзе — дырэктар, а на справе няма там над кім дырэктарстваваць, як кажуць, сам і начальнік, і падначалены. Ды і вучняў толькі сямёра. "Неперспектыўную" вёску даўно пакінула моладзь, засталося некалькі нямоглых пенсіянераў і тры ўдавы з дзецьмі.

Жаўнерчык закончыў універсітэт з чырвоным дыпломам і мог разлічваць на працу ў больш людным месцы. Але абставіны склаліся так, што давялося спыніцца на Пяньках. Справа ў тым, што гэтыя Пянькі ўсяго за тры кіламетры ад яго роднай вёскі Журавы, дзе ў адзіноце пражывае маці. Бацька ўжо два гады як пакінуў гэты свет — трапіў у аўтамабільную аварыю. Пасля таго трагічнага выпадку маці неяк адразу здала, часта хварэе, не можа ўжо ўправіцца па гаспадарцы. Але ехаць з дому наадрэз адмовілася:

— Нікуды я, сынок, не паеду з роднай хаты. Тут буду дажываць свой век.

Не пакідаць жа маці адну без дапамогі, без догляду. Таму і згадзіўся Андрэй Кірылавіч працаваць у Пяньках.

…Дарога пятляла лесам. Абапал яе высіліся магутныя дубы, бярозы з кранутай жаўцізной лістотай, а ўнізе пераплецены ажынай крушыннік ды маладыя рабінкі з чырвонымі гронкамі ягад, што блішчэлі пад золкім дажджом. Каб не намачыць ногі, Андрэй Кірылавіч стараўся абыходзіць лужыны, хапаўся рукой за галіны і тонкія ствалы дрэўцаў. У адным месцы пакаўзнуўся і не ўтрымаўся на нагах — плюхнуўся ў лужыну. Паспрабаваў хуценька падняцца — і адчуў рэзкі боль у назе. "Гэтага яшчэ не хапала, — падумаў са злосцю. — Мала, што забрудзіў касцюм і новую куртку, дык яшчэ і нагу падвярнуў". Чакаць, што хто-небудзь будзе ехаць і падбярэ яго — слабая надзея. Па гэтай дарозе цяпер рэдка хто ездзіць. Раз на тыдзень сельпоўская аўталаўка прывозіць у Пянькі хлеб, але ці будзе яна сёння… Прыгадаў, што непадалёку стаіць старая закінутая леснічоўка. Ляснік даўно перасяліўся ў вёску, дзе пабудаваў новы дом. Перавозіць старую будыніну не збіраўся — што з таго падгнілага бярвення зробіш. Летам леснічоўка пуставала. Толькі зімой сюды зрэдку заглядвалі паляўнічыя, распальвалі ў печы агонь, грэліся, перакусвалі. Трэба неяк туды дабірацца.

Паблізу дарогі ляжаў стары лоўж. Жаўнерчык сяк-так даскакаў да яго на адной назе, выцягнуў ладны сук і, абапіраючыся на ламачыну, пакульгаў да леснічоўкі, каб прасушыць вопратку і перачакаць непагадзь.

Пакуль дабіраўся да той хаціны, прамок да ніткі. Добра, што каля печы ляжалі прыгатаваныя некім бярозавыя круглячкі, ды і запалкі былі навідавоку. Жаўнерчык садраў з палена крыху бяросты і развёў цяпельца. Калі дровы добра разгарэліся, ён зняў з сябе верхнюю вопратку, развесіў яе перад печчу, а сам уладкаваўся на лаўцы, адарваў ад сарочкі ладную шмату і цесна перавязаў нагу каля ступні. Боль трохі пачаў суцішаць. Небарака зноў падступіў да печы, каб павярнуць намоклую вопратку другім бокам — з аднаго яна ўжо крыху падсохла. І ў гэты час скрыпнулі дзверы, з двара хтосьці ўвайшоў. Андрэй Кірылавіч павярнуў галаву: на парозе стаяў стары з кашом у руках, адкуль заманліва выглядалі карычневыя шапкі баравікоў. З плашча, з бліскучастага брыля паношанай фуражкі капала вада.

— А я ж то бачу: дым з коміна ідзе, — паставіўшы на падлогу кош, весела загаварыў стары. — Думаю, хто тут гаспадарыць?..

— Ды вось. Давялося збочыць з дарогі: намок ды і нагу падвярнуў, — патлумачыў Жаўнерчык.

— Яно ж так. Бяда натрапіць нечакана. Але я думаю, што хутка пройдзе боль. Гэта ж не пералом які…

Стары скінуў з худых плячэй плашч, зняў з галавы фуражку і павесіў на ўбіты ў сцяну цвік:

— Вы пасядзіце, а я, пакуль у печы гарыць, чаю сагрэю, бруснічнікам завару.

Ён паспешліва падаўся ў бакоўку, адгароджаную пачарнелымі ад часу дошкамі.

Андрэю Кірылавічу нацягнуў на сябе крыху падсохлую вопратку і сеў на лаву, паглядаючы, як увішна спраўляецца стары каля печы.

Чай пілі за збітым з негабляваных дошак сталом. Стары прапаноўваў пячэнне, але Андрэй Кірылавіч адмовіўся, спаслаўся на тое, што нядаўна снедаў. А вось чай, запараны бруснічнікам, выпіў з задавальненнем. Неяк адразу падбадзёрыўся, запытаўся ў старога:

— А вы адкуль будзеце?

— З горада, — правёўшы далоняй па рэдкай сівой бародцы, адказаў той, і, ледзь прыкметна ўсміхнуўшыся, дадаў: — А тут вось мой дом адпачынку.

— Як гэта так? — не зразумеў Жаўнерчык.

— Доўга расказваць, — цяжка ўздыхнуў стары. — Праўда, часу ў нас хапае — дождж яшчэ не суняўся.

І Сцяпан Пятровіч — так звалі старога — здалёк пачаў свой расказ:

— У горадзе я жыву з маладых гадоў, хоць нарадзіўся ў вёсцы. Працаваў на мэблевай фабрыцы — спачатку падсобным рабочым, а потым і да майстра даслужыўся. Не хачу хваліцца, але скажу, што працаваў я добра — і прэміі атрымліваў, і падзякі ад дырэкцыі фабрыкі, у газеце пра мяне пісалі. Там жа, на фабрыцы, і жонку сабе знайшоў. Маша ў бухгалтэрыі працавала. Дзяўчына — што трэба: і працавітая, і ветлівая. Праз нейкі час і сынок у нас нарадзіўся, Артурам назвалі. Чамусьці Машы падабалася гэта імя. Так жылі ў згодзе, працавалі, адпачываць ездзілі ў вёску, пакуль мае бацькі жывыя былі. Любілі мы з Машай і на рэчцы з вудамі пасядзець, і ў лес у грыбы схадзіць. Адным словам, жыццё ішло ладам.

Дачакаліся таго часу, калі і Артур наш вырас, закончыў школу, а потым і інстытут. Радаваліся, што інжынерам стаў, пайшоў, як кажуць, на свой хлеб. Потым і вяселле яму справілі, дапамаглі кватэру займець. Усё было як у людзей. Нявестка, праўда, не прыглянулася Машы: вельмі ўжо наравістая. Ды што нам да таго, сышліся — няхай здаровыя жывуць.

І вось два гады таму напаткала нас бяда: Маша захварэла, не тут кажучы, рак прыкліночыўся. Куды мы толькі ні ездзілі — і да ўрачоў, і да знахароў — нічога не дапамагло. Згарэла мая Маша, як свечка. Застаўся я адзін, хоць вый ад гора ў апусцелай кватэры. Ні табе загаварыць з кім, ні параіцца.

Неяк вечарам заходзіць да мяне Артур з жонкай. І не толькі праведаць, а з прапановай:

— Хопіць табе, бацька, у адзіноце жыць. Перабірайся да нас. Табе ж догляд патрэбен. А кватэру тваю прададзім. Машыну купім, ды яшчэ сёе-тое з абстаноўкі. Будзеш жыць як у Бога за пазухай.

Прызнацца, мне не хацелася пакідаць сваю кватэру, але пасля доўгіх угавораў я згадзіўся. Цяпер во раскайваюся, ды позна: назад не вернешся.

Сцяпан Пятровіч запальвае цыгарку, глыбока зацягваецца і няспешна працягвае свой расказ:

— Спачатку ўсё гладка было. І пакойчык мне асобны адвялі, і да стала клікалі. Машыну купілі, дарагую, замежную. Праўда, я ў яе садзіўся толькі адзін раз, калі ў лес у грыбы ехалі. Я ў даўгу не заставаўся — пенсію амаль да рубля нявестцы аддаваў. Зноў жа ў краму хадзіць ці там смецце з хаты вынесці — мой клопат.

Але ўсё гэта цягнулася не доўга. Нявестка ўсё часцей пачала на мяне буркатаць: то разуцца ў парозе забыўся, то не тое купіў, што яна казала. Калі ж якія госці прыходзілі да іх, то мне нельга было і носа высунуць са свайго пакойчыка. Адным словам, нявестка часта давала знаць, што я лішні чалавек у хаце. Аднойчы чую, як яна суседцы скардзіцца: "Заснуць праз усю ноч не магла: то кашляе, то храпе, што аж сцены трасуцца".

— Ну а сын што? — запытаўся Андрэй Кірылавіч.

— Ды і ён па яе падказцы жыве. Усё часцей пачаў расхвальваць парадкі ў інтэрнаце для састарэлых: і медыцынскі нагляд там паўсядзённы, і кормяць добра, па-навуковаму. Прама не гаворыць, але намякае, што і мне пара туды перабірацца.

А сёлетняй вясной надумалі нейкі еўрарамонт у кватэры рабіць. Мне ж параілі да каго-небудзь з сяброў на гэты час перабрацца. А да якіх сяброў? Так я і апынуўся ў гэтай закінутай леснічоўцы. Яно, можа, і лепш: ні я нікому не перашкаджаю, ні мне ніхто. Зрэдку наведваюся ў горад пенсію атрымаць ды прадуктаў якіх прыкупіць. Так вось і жыву, дыхаю свежым лясным паветрам, грыбы збіраю. Сёлета на іх ураджайны год. Насушу баравікоў — можа, на нейкі час улагоджу нявестку. А потым… Зімой, відаць, давядзецца ў той інтэрнат перабірацца.

Сцяпан Пятровіч змаўкае. Здалося, што яго маршчыністы твар неяк пацямнеў. Хаваючы слязу, ён павярнуўся да акна:

— Вось і дождж перастаў ліць…

…Накульгваючы, Андрэй Кірылавіч дабраўся да Пянькоў. Яго не пакідала думка: "Як гэта так? Абдурылі роднага чалавека, а цяпер вось з хаты выжываюць. Носіць жа зямля такіх людзей!"

# Сустрэча ў дарозе

Прадпрымальнік Аляксей Іванавіч Смолін — дзябёлы шыракаплечы мужчына — ехаў адведаць сваю маці, якая пражывала ў аддаленай ад гарадка вёсцы. Яго суседам па купэ быў нізкарослы дзядок з бегаючымі вострымі вачыма на схудненым твары. Ён зайшоў у вагон перад самым адыходам цягніка, калі Смолін ужо сядзеў ля століка і гартаў куплены ў вакзальным кіёску часопіс. Гучна прывітаўшыся, стары закінуў на верхнюю лаўку ёмісты хатуль, сеў на сваё месца, правёў рукой па спатнелым твары, адрэкамендаваўся:

— Мяне завуць Сцяпан Паўлавіч. А як вас?

Нехаця адарваўшыся ад часопіса, Смолін назваў сваё імя.

— Вось і пазнаёміліся, — весела ўсміхаючыся, прамовіў стары. — Далёка едзеце?

— Да раніцы давядзецца трэсціся ў гэтым вагоне, — няўцямна адказаў Смолін.

— То я раней дабяруся да хаты…

Якую хвіліну стары маўчыць, чэша агрубелымі пальцамі зрэджаную пасівелую чупрыну, уздыхае. Убачыўшы, што Смолін адарваўся ад часопіса, ён зноў падаў голас:

— Гэта ж я да ўнучкі ў горад прыязджаў… Сёе-тое з прадуктаў прывёз. Жыве ж адна. За кватэру аддае паўзарплаты. А трэба і карміцца, і з убораў нешта купіць. Маладая ж.

— А чаго яна адна? Дзе бацькі? — запытаў Смолін.

— Бацькі ў вёсцы. Некалі ім да яе ездзіць — на ферме кожны дзень працуюць.

Стары кідае на Аляксея Іванавіча задумлівы позірк, працягвае:

— Канечне, і ёй знайшлася б работа ў вёсцы, але ж дзеўка, як кажуць, на выданне, а тых жаніхоў у вёсцы не больш як баравікоў у зімовым лесе. Ёсць, праўда, двое халасцякоў, але ж п'янтосы, нідзе на працы не ўтрымаюцца. Якія ж гэта жаніхі…

У купэ зайшла правадніца з пасцельнымі рэчамі. Смолін, не схільны да дарожных размоў з выпадковым чалавекам, хутка разаслаў пасцель.

— Будзем адпачываць. Дарога не блізкая…

— Ды яно так, — згадзіўся стары, але сам класціся не спяшаўся — сядзеў на лаўцы, час ад часу выглядваў у акно, хоць там з-за цемры нічога не разгледзіш.

Цягнік на кароткі час прыпыніўся. У купэ зайшоў яшчэ адзін пасажыр — высокі мужчына ў доўгім шэрым плашчы, на галаве — міліцэйская фуражка з чырвоным акольшкам.

— Якая гэта станцыя? — спытаў у яго Сцяпан Пятровіч.

— Калінаўка.

Стары падхапіўся з лаўкі.

— Як жа гэта я праварогіў? Думаў жа выйсці, паглядзець…

— А на што там глядзець? — не зразумеў новы пасажыр. — Станцыя як станцыя.

— Для мяне яна памятная. Працаваў тут пасля вайны вартаўніком на пакгаўзе. Праўда, нядоўга. Але ж многае засталося ў памяці.

Адчуўшы, што новы пасажыр схільны яго слухаць, Сцяпан Пятровіч пачаў свой аповед:

— Цяжкі быў час. Бандыты яшчэ шнырылі па лясах, ноччу розныя зладзюгі выпаўзалі на раздабытак. Зазяваў пасажыр на якую хвіліну — яны хутка прыбяруць да рук яго рэчы. Могуць і загубіць чалавека…

І сёння памятаецца адзін выпадак. Зімой было гэта. Мароз трашчаў — не дай ты Бог. Стаю гэта я на варце, перабіраю нагамі, з надзеяй чакаю хуткай змены. І раптам чую пранізлівы жаночы плач, пагрозлівы голас мужчыны. Выскокваю з-за вугла з вінтоўкай у руках. Ноч была месячная. Бачу, непадалёку двое зладзюг напалі на жанчыну — знялі з яе кажух, прымушаюць валёнкі скінуць: "Здымай хутчэй, а то з нагамі адарвем!"

— Што рабіць? Вінтоўка ў мяне не заражаная. Але я ўзнімаю яе і на ўсю моц крычу: "Стой! Страляць буду!"

Рабаўнікі, відаць, не чакалі гэтага — задалі такога драпака, нават кажух схапіць не паспелі.

Падбягаю бліжэй, а яна — маладая дзяўчына — ніяк апамятацца не можа, трасецца, як у ліхаманцы.

— Хутчэй апранай кажух, — кажу я, — а то зусім замерзнеш.

Праз нейкі час дзяўчына крыху супакоілася, перастала плакаць. Аказалася, студэнтка тэхнікума, прыязджала ў вёску да бацькоў на зімовыя канікулы, а цяпер у горад вярталася. Ды вось зладзюгі напалі… Каб я не напужаў іх, то гэтыя нягоднікі яе раздзетую і босую на марозе кінулі б…

Дачакаўшыся змены, я дапамог Галі — так звалі дзяўчыну — узяць білет, пасадзіў у вагон…

Смолін, які не спаў і чуў гэты аповед, аж падхапіўся з пасцелі. Сэрца закалацілася. Гэта ж з яго маці быў той выпадак. Не адзін раз яна расказвала пра гэта, з вялікай удзячнасцю згадвала пра свайго выратавальніка.

Сцяпан Пятровіч прыглушаным голасам прамовіў:

— Даруйце. Відаць, я сваімі згадкамі парушыў ваш сон…

— Ды не. Проста не спіцца, — адказаў Смолін. Ён у думках дакараў сябе, што так няветліва размаўляў з гэтым чалавекам. Цяпер неяк няёмка прызнавацца, што ён сын той самай Галі. Каб хоць як развеяць гэтую няёмкасць, ён выцягнуў з-пад лаўкі саквояж, дастаў з яго бутэльку каньяку, закусь:

— Давайце вып'ем па кілішку. Можа, і сон прыйдзе.

Сцяпан Пятровіч дапытліва паглядзеў на пасажыра ў міліцэйскай фуражцы, які, па ўсім відаць, быў рады такой прапанове, перавёў погляд на Смоліна, ціха прамовіў:

— Па праўдзе кажучы, я ўжо выпіў сваю норму. Хіба за кампанію губы памачыць…

Усе трое падселі бліжэй да століка.

# «Цяжкае дзяцінства» Таццяны Гомзы,
## або Хвала ўзросту, які... не лечыцца!

Якое насамрэч было дзяцінства ў дызайнера Таццяны Гомзы, можна толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё — творчае. Бо акурат з такога дзяцінства магла прыйсці ў мастацкі свет адораная неверагоднай фантазіяй і жывым інтэлектам, крэатыўная і дасціпная асоба.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

“Вы ўпарта не жадаеце сталець? Вас ужо на ўсю моц тэрарызуе крызіс сярэдняга ўзросту, а пераходны ўзрост так і не скончыўся? Купляючы цацку свайму дзіцяці, вы не можаце ўтрымацца і набываеце цацку і сабе? Проста ў вас — цяжкае дзяцінства! І гэта не лечыцца... Застаецца толькі... Заставацца САБОЙ! Без усялякіх кампрамісаў і паўмераў!!!” — такі аптымістычны зварот адрасавала Таццяна Гомза гледачам сваёй выстаўкі, што ладзілася ў сталічнай мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”. А заадно паабяцала шчырае разуменне ад сябе і сяброўскую падтрымку ў даверлівых сэрцах сваіх “смешных і дзіўных «пачварак»”.

Каб годна прадставіць на выставачным подыуме чараду гэтых незвычайных і кранальных істот, іх таленавітая стваральніца правяла татальную пашпартызацыю. Так што ўдзельнікі персанальнага праекта Т. Гомзы “Цяжкае дзяцінства” — яе аўтарскія цацкі, пераважна з серыі “Бэбі-бум” — паўсталі перад наведвальнікамі галерэі, маючы пры сабе ве-е-ельмі сур’ёзныя дакументы: пашпарты гадаванцаў, біяграфічныя даведкі, суправаджальныя каментары з вікіпедыі ды фотавыявы, ператвораныя з дапамогай камп’ютарнай графікі ў геаметрычныя ўзоры адмысловага калейдаскопа.

Памятаеце прызнанне паэткі пра тое, з чаго растуць, не ведаючы сораму, сапраўдныя вершы? Тут — аналагічны выпадак! Дзіву даешся, з якога “смецця” нараджаюцца дызайнерскія шэдэўры Таццяны Гомзы. Разглядаеш гэтыя неадназначныя постмадэрновыя персанажы — наіўныя, мудрыя, іранічныя, абаяльныя — і захапляешся эстэтычным пачуццём, вынаходлівасцю, канструктыўным ладам думак, майстэрствам і нястомнасцю аўтара. Размаітыя фрагменты ўжо непрыдатных для карыстання электрапрыбораў, бытавой тэхнікі, металічныя дэталі старога сантэхнічнага абсталявання, цыліндры, платы і дыскі, правады, гайкі, шрубкі ды вінцікі, краншстэйны, скобы, спружынкі, сталёвыя стрыжні, мяккія дроцікі, тэкстыль, футра, дрэва, пластык... Усё гэта віртуозна ўтылізуецца, дакладней — праз арыгінальную зборку, дэкупаж, размалёўку трансфармуецца ў вобраз, які “правакуе” гледача на гульню-дыялог.



*“Кот Разеткін”.*

Крохкі “Страус-марыянетка”; Змей Гарыныч з трыма галовамі на гнуткіх шыях; падобная да зялёнага вусеня “ДваццацьАднаСаракаСоракНажэйНожка”; яркі дэкаратыўны “Бычок” на дошцы. “Шэранькі ваўчок”, на спіне ў якога прапісаны куплеты папулярнай народнай калыханкі. Разумнае сабачаня Соня, што жыве ў шматкватэрным доме, трапляе ў неверагодныя прыгоды і мае не толькі пашпарт гадаванца, але і “вынятку” з біяграфічнай кніжкі. Кот Разеткін “з пароды чатырохколавых дротавашорстых, вясёлай смайлавай масці”, чый пашпарт, апроч гэтых звестак, змяшчае і “фотакартку”, і дактыласкапію чатырох лапак, і прыкметы характару, і асаблівасці сілкавання “шляхам падключэння да электрасеткі праз хвостштэпсель”... Між іншым, пашпарт гадаванца — не жарты: ён засведчаны аўтарскай пячаткай “Gomza Arts”! А яшчэ ў ім ёсць адзнака пра ўдзел у ранейшых выстаўках: “Марцовыя каты”, “Тэхна-арт. Жалеза”.

Зразумела, кот Разеткін удзельнічаў у тых вядомых калектыўных праектах разам з Таццянай Гомзай. А яна за сваё творчае жыццё спрычынілася ўжо да пятнаццаці выставак, якія ладзіліся на розных мінскіх пляцоўках, у тым ліку ў галерэі “Універсітэт культуры” (“ART-бульба”, “Baby-boom!”, “Трансфармацыя. ДПМ-2010”, “Ёлачны кірмаш” ды іншыя). І яшчэ зразумела, што яе аўтарскія цацкі — зусім не атрыбуты дзіцячай гульні, хоць прываблiваюць увагу малечы. У дызайнерскай творчасці Гомзы гэтыя артаб’екты робяцца своеадметнай вобразнай формай гульні мастака з наваколлем, спосабам інтэрактыўных стасункаў з гледачом.



*“Разумнае сабачаня Соня”.*



*“Рыбны дзень”.*

Таццяна Гомза нарадзілася ў 1974 годзе ў Мінску. Скончыла легендарную “Глебаўку” (аддзяленне жывапісу), факультэт народнай культуры БДПУ імя М. Танка. Выкладала камп’ютарную графіку ў Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў, з 2011 года — выкладчык графічнага дызайну і камп’ютарнай графікі кафедры гуманітарных навук Інстытута бесперапыннай адукацыі БДУ. Карыстаецца змешанай аўтарскай тэхнікай з элементамі трэшарту, камп’ютарнай графікі, розных відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ды інш. Стварае арт-аб’екты, аксесуары для інтэр’ераў, свяцільнікі, дэкаруе мэблю. Славіцца сваімі аўтарскімі цацкамі.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота аўтара

Сезон у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі ўрачыста адкрыецца 9 верасня — прэм’ерай новай рэдакцыі оперы Д. Смольскага “Сівая легенда”. Але аншлаг чакаецца тут і раней за гэту падзею. На ўтульнай пляцоўцы Камернай залы імя Л. П. Александроўскай 5 верасня адбудзецца паказ аднаактовай оперы Г. Даніцэці “Рыта, або Пірацкі трохкутнік”. Прэм’ера новай версіі бліскучага камедыйнага твора прайшла напрыканцы мінулага сезона толькі адзін раз, так што многія проста не паспелі яе паглядзець. Аднак у ліку тых, каму гэта ўдалося, ёсць нямала ахвотных яшчэ раз атрымаць асалоду ад класічнага італьянскага бельканта, спалучанага з дасціпнай сучаснай пастаноўкай. Дырыжор-пастаноўшчык і аўтар аркестравага пераладжэння для камернага складу І. Касцяхін, рэжысёр Н. Кузьмянкова, мастак К. Булгакава.

Рэчыцкага мастака Анатоля Шчогалева называюць самым запатрабаваным шаржыстам, чые работы ёсць у калекцыях артыстаў эстрады, спартсменаў, палітыкаў, і не толькі беларускіх. Выстаўка “Тры КОТа-Ж” у Музеі гісторыі горада Гомеля, прымеркаваная да 30-годдзя Анатоля Шчогалева і 10-годдзя яго творчай дзейнасці, прадстаўляе як графічныя і жывапісныя работы гэтага маладога аўтара, так і творы яго сяброў-землякоў: мастачкі Алены Астахавай ды крэатыўнага фатографа Аляксея Грамыкі.

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі запрашае на выстаўку “Шляхам майстэрства. Мастакі — юбіляры 2012 года”. Ёсць магчымасць убачыць рэдкасную айчынную калекцыю жывапісу, скульптуры і плаката: каля сотні твораў 47 аўтараў, з дня нараджэння якіх адзначаецца сёлета 70, 75, 80 і г. д. — да 140 гадоў. Творцы надта розныя па ўзроўні таленту і вядомасці (што, зразумела, не адно і тое ж).



*Іван Міско “Партрэт касманаўта У. В. Кавалёнка” (бронза).*

Хто нарадзіўся ў Беларусі, хто знайшоў тут другую радзіму, хто, наадварот, працягваў свой творчы шлях у замежжы. Кагосьці даўно няма на гэтым свеце, а нехта штогод здзіўляе наведвальнікаў выставак сваімі новымі работамі. Сустрэча з творамі М. Аксельрода, А. Анікейчыка, Э. Астаф’ева, А. Бараноўскага, Г. Бржазоўскага, Я. Ждана, А. Замай, У. Крукоўскага, А. Малішэўскага, І. Міско, М. Рагалевіча, Я. Раздзялоўскай, М. Савіцкага, М. Сляпяна, Л. Талбузіна, У. Уродніча, М. Федарэнкі, Г. Ціхановіча, А. Шаўчэнкі ды іншых экспанентаў абяцае і адкрыцці “ў забытым старым”, і новыя эмоцыі. А на восень НММ плануе выстаўку беларускіх графікаў і мастакоў дэкаратыўна-прыкладной творчасці — сёлетніх юбіляраў.

# Школа шасці курсаў

Заўтра ў Мінску адкрываецца першая дзіцячая арт-школа “Forex Club”. Гэта сацыяльны дабрачынны праект, які рэалізуецца да канца 2012 года пад эгідай міжнароднага сацыяльна-эканамічнага фонду “Ідэя” і скіраваны на тое, каб дапамагчы дзецям, пазбаўленым бацькоўскага клопату, раскрыць свой творчы патэнцыял, знайсці новых сяброў, прайшоўшы курс актыўнай сацыялізацыі. Праграма школы складаецца з шасці творчых курсаў, разлічаных на групу навучэнцаў да 15 чалавек: жывапіс, калаж, фларыстыка, дызайн, літаратура, акцёрскае майстэрства. Выкладчыкі — вядомыя ў Беларусі асобы, у тым ліку аўтар праграмы і куратар праекта, сацыяльны педагог, дырэктар дабрачыннага тэатра лялек “Дом сонца” Галіна Савельева. Сярод навучэнцаў — выхаванцы чатырох мінскіх дзіцячых дамоў, побач з якімі, у мэтах найбольш эфектыўнай сацыялізацыі, будуць займацца і дзеці з паўнавартасных сем’яў. Першыя заняткі арт-школы пройдуць 25 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

# Ёсць арт-кафэ на Ірынінскай

Гасцёўня пры Гарадскім цэнтры культуры, якая аб’ядна́ла гомельскую інтэлігенцыю амаль восем гадоў таму, мае ёмістую назву: “Арт-кафэ на Ірынінскай”. Стваральніца — Святлана Міхалькова. Сціплая, абаяльная, ініцыятыўная і працавітая. Яна — актрыса кіно, знялася ў чатырнаццаці савецкіх стужках.

Асноўная мэта такой гасцёўні — шырокая прапаганда таленту і дзейнасці мясцовых кампазітараў, бардаў, паэтаў, празаікаў, мастакоў, калекцыянераў... Пры “Арт-кафэ на Ірынінскай” таксама плённа працуе клуб “Крылаты панядзелак”: тут знаёмяць гамяльчан з маладымі літаратарамі, рэгулярна выступаюць і спрактыкаваныя творцы. Кіруе клубам паэт Дзіма Нілаў.

Як прызналася Святлана Міхалькова, стваральніца “Арт-кафэ на Ірынінскай” яе натхніў кіраўнік народнага клуба аўтарскай песні Вячаслаў Клімовіч. Дарэчы, гомельскія барды — жаданыя госці на вечарынах творчага кафэ. Яны таксама радуюць гамяльчан сваімі выступленнямі на розных гарадскіх мерапрыемствах.

На Год кнігі калектыў культурна-масавага аддзела Гарадскога цэнтра культуры запланаваў нямала цікавага. Чакаюцца імпрэзы да дня горада, змястоўныя вечарыны для творцаў-юбіляраў, прэзентацыі новых выданняў маладых літаратараў... Гамяльчане не засумуюць!

Галіна РОШЧАНКА




# Гармонія і лёс

Для Маргарыты Сяргееўны тыдзень пачаўся з віншаванняў: 20 жніўня ёй споўнілася дзевяноста. Вядомы паэт назваў жнівень “месяцам цэзараў”. Астролагі кажуць: тыя, хто нарадзіўся ў гэты час, пад сузор’ем Ільва, апякуюцца Сонцам. Таму, маўляў, і лёс да такіх людзей шчодры: букет адмысловых талентаў даецца ім звыш, прырода надзяляе іх незалежным духам і моцным бескампрамісным характарам, лідарскай “харызмай”, бязмежнай патрабавальнасцю да сябе, дабрынёй і вялікадушнасцю... І той жа лёс пастаянна выпрабоўвае іх на трывушчасць — праз будзённыя расчараванні, суровыя іспыты на віражах жыцця... Але навошта чытаць гараскопы, калі непаўторная індывідуальнасць, высакародны дух, складаны і сумленны жыццёвы шлях Маргарыты Сяргееўны Мінянковай сведчаць самі за сябе?

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Мне пашчасціла вучыцца ў яе на памежжы 1960 — 1970-х гадоў, у незвычайнай установе, якая сёння завецца Рэспубліканскай гімназіяй-каледжам пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Мінянкова вяла калектыўныя і індывідуальныя заняткі па сальфеджыа і гармоніі на тэарэтычным аддзяленні. На яе глядзелі з унутраным трапятаннем і захапленнем: гэтаму эрудзіраванаму, самаадданаму і патрабавальнаму педагогу не было роўных! Яна і выглядала надзвычай адметна: дасканала прыгожы, часам асветлены ўсмешкай, часам суровы твар; паўкружжа касы-“кароны”, якая вянчае строгае арыстакратычнае аблічча; высокая велічная постаць; класічная элегантнасць у адзенні. На ўроках у “тэарэтыкаў” гучалі акапэльныя спевы і фартэпіянныя акорды, іранічныя настаўніцкія каментарыі і шчодрая ўхвала; вяліся сур’ёзныя дыялогі пра творчасць. Вучні атрымлівалі веды такога аб’ёму, такога ўзроўню складанасці, такой вартасці, што гэтага запасу хапала і на гады студэнцтва ў кансерваторыі. Дагэтуль гадаванцы “школы Мінянковай” выклікаюць асаблівую павагу ў асяроддзі прафесійных музыкантаў.


Сярод выпускнікоў тэарэтычнага аддзялення (1959 г.).

Маргарыта Сяргееўна часта паўтарала: “Я — ваша музычная маці”. Перажывала за кожнага. Клапацілася: “Ешце сала, толькі без хлеба. Гэта карысна і ад гэтага не таўсцеюць. Ешце семкі: гэта здароўе. Дзяўчаты, барані божа, калі хтосьці з вас пачне курыць: даведаюся — не дарую, размаўляць з вамі не буду!” А вось і галоўная прафесійная парада: “Гармонія — гэта гімнастыка для розуму. Абавязкова займайцеся ёю кожны дзень: ну хоць паўгадзіны, ну хоць 15 хвілін — але штодня!” Каму як, а мне на доўгія гады спадабалася вырашаць задачы па гармоніі: у гэтым унікальным занятку ўдалося спалучаць захапленне матэматыкай, логікай, эстэтыкай гуку і чыстай творчасцю. А наша выкладчыца, між іншым, паводле спосабу вырашэння тых задач вызначала характары вучняў...

З таго часу яна ўзгадавала і яшчэ не адно пакаленне “музычных дзяцей”, і свайго роднага ўнука. Колькі ўдзячных людзей зычыць ёй добрага здароўя, працягу творчага даўгалецця, жыццёвай гармоніі! Дарэчы, услухайцеся ў гукі, угледзьцеся ў літары яе імя — Маргарыта Сяргееўна Мінянкова: у ім зашыфраванае слова “гармонія”, у ім чуецца музыка.

**Наталля ВАСІЛЁНАК**

Нарадзілася Маргарыта Мінянкова ў 1922 годзе на хутары Спорнае Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Яе бацька — Сяргей Нікандравіч быў галоўным ветэрынарным лекарам раёна, а маці Эвеліна Іванаўна — настаўніцай. Музыцы Маргарыта пачала навучацца з 11 гадоў прыватным чынам у піяніста В. Більдзюкевіча. Пасля праслухоўвання ў выкладчыкаў Бабруйскай музычнай школы і выпускніка Маскоўскай кансерваторыі М. Шыфрына яна паступае на падрыхтоўчы курс Беларускага дзяржаўнага музычнага тэхнікума (інструктарскае аддзяленне, якое рыхтавала клубных работнікаў). Пасля зімовай сесіі II курса экстэрнам пераводзіцца на падрыхтоўчы курс Белдзяржкансерваторыі ў клас кампазіцыі М. Аладава.

На I курсе кансерваторыі яна ганаруецца Сталінскай стыпендыяй. Неўзабаве на справаздачным канцэрце кампазітарскага факультэта сярод твораў выпускнікоў М. Вайнберга, Л. Абеліёвіча, У. Алоўнікава выконваюцца дзве фартэпіянныя прэлюдыі Маргарыты Мінянковай, пасля чаго ёй прызначаецца дадатковая стыпендыя ад Саюза кампазітараў БССР.

Апошні экзамен за I курс праходзіў у той час, калі да Мінска падступала вайна. Мінянкова апынулася ў плыні бежанцаў, якія пакідалі горад з надзеяй на эвакуацыю. Аднак давялося накіравацца ў вёску Гарэлец, дзе на той час жыла і працавала маці Мінянковай. Увесну 1942 года Маргарыта і яе брат Юрый сталі сувязнымі партызанскага атрада, а ў кастрычніку яна разам з братам і маці ўступіла ў партызанскі атрад імя Суворава 2-й Мінскай брыгады, дзе была медсястрой. У 1943 годзе па загадзе штаба партызанскага руху Беларусі з найбольш актыўных баявых атрадаў была створана рэйдавая брыгада імя Панамарэнкі, якая атрымала заданне рухацца далей на захад. Падчас аднаго з найжорсткіх баёў маці Маргарыты Мінянковай атрымала цяжкае раненне, у сувязі з чым яны апынуліся за лініяй фронту: спачатку медсанбат, затым эвакашпіталь у Баранавічах, Бабруйску і Новакузнецку. У кастрычніку 1944 года разам вяртаюцца ў Мінск ды неўзабаве, не знайшоўшы там працу, едуць у Мар’іну Горку, дзе маці ўладкоўваецца выкладчыкам сельгастэхнікума, а Маргарыта — сакратаром школы жывёлаводы.


Заслужаны работнік культуры БССР Маргарыта Мінянкова.

У першы пасляваенны год Маргарыта Мінянкова аднаўляецца на II курс кансерваторыі. Голад і адсутнасць жылля вымусілі яе ўзяць прыватных вучняў, прычым з двума з іх яна займалася толькі за дазвол скарыстацца фартэпіяна адну гадзіну на дзень. Адначасова працавала канцэртмайстрам у Мінскім педагагічным інстытуце, а таксама ў музычнай школе. Загружанасць працай не перашкодзіла ёй выдатна вучыцца і зноў атрымаць Сталінскую стыпендыю. Аднак для кампазітарскай творчасці часу не заставалася, і Мінянкова вырашыла спецыялізавацца як тэарэтык. Беларускую дзяржаўную кансерваторыю яна скончыла ў 1950 годзе з адзнакай.


З вучнямі новага пакалення (1994 г.).

З 1946 па 1984 год Маргарыта Сяргееўна працавала ў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры Белдзяржкансерваторыі педагогам музычна-тэарэтычных дысцыплін (сальфеджыа, гармонія) і ў гэты ж час на працягу 8 гадоў выкладала ў Мінскім музычным вучылішчы. У 1955 — 1970 гады яна была выкладчыкам, старшым выкладчыкам, выконвала абавязкі дацэнта кафедры тэорыі музыкі БДК: вяла гармонію і сальфеджыа на аддзяленні музыказнаўства і выканальніцкіх аддзяленнях, методыку выкладання музычна-тэарэтычных дысцыплін у музыказнаўцаў, аналіз музычных твораў на выканальніцкіх аддзяленнях.

Яна рэгулярна ўдзельнічала з дакладамі і адкрытымі ўрокамі ў навукова-тэарэтычных і практычных канферэнцыях — рэспубліканскіх і ўсесаюзных. За паспяховае выступленне на з’ездзе тэарэтыкаў Беларусі, Малдовы і Украіны была адзначана падзякай Міністэрства культуры СССР. У 1965 — 1971 гадах Маргарыта Мінянкова абіралася дэпутатам Ленінскага райсавета сталіцы. У 1994 годзе ёй была прызначана персанальная пенсія рэспубліканскага значэння за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь.

Яе творчая натура не ведае адпачынку. Маргарыта Сяргееўна пісала сцэнары радыёперадач, у 1950 гады была вядучай праграмы “Радыёклуб школьніка”. Напісала шэраг навукова-метадычных работ: “Да пытання пра гарманізацыю мелодыі ў курсе гармоніі: метадычная запіска для выкладчыкаў і студэнтаў-завочнікаў” (1966), “Развіццё аналітычных навыкаў у працэсе працы над музычнай дыктоўкай” (1998, 2-е дапоўненае выданне — 2002), “Гарманічнае сальфеджыа” (2001), “Метадычныя рэкамендацыі па курсе гармоніі: для выкладчыкаў музычных вучылішчаў і ліцэяў” (2009). Чакаюць выдання рукапісы “Зборніка дыктовак на аснове беларускай народнай музыкі і музыкі беларускіх кампазітараў”, “Зборніка задач па гармоніі”.

А плён педагагічнай дзейнасці Маргарыты Мінянковай уражвае: у яе класе атрымалі аснову прафесіі 16 кампазітараў, 5 прафесараў, 7 музыказнаўцаў — дактароў навук, 15 кандыдатаў навук, 6 народных артыстаў, 7 заслужаных дзеячаў мастацтваў. Яе выхаванцы закончылі кансерваторыі Беларусі, Расіі. Сярод яе вучняў — Д. Смольскі, С. Картэс, В. Капыцько, У. Дарохін, І. Лучанок, А. Атрашкевіч, В. Кандрасюк (вядомыя кампазітарскія імёны!), больш як 80 музыказнаўцаў. Многія выкладаюць, развіваючы педагагічныя прынцыпы Мінянковай у сваёй працы. Тэарэтычную падрыхтоўку ў класе Маргарыты Сяргееўны атрымалі і вядомыя выпускнікі выканальніцкіх аддзяленняў.

Заслужаны работнік культуры БССР Маргарыта Сяргееўна Мінянкова ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі “Партызан Вялікай Айчыннай вайны” I ступені, “За перамогу над Германіяй”, іншымі медалямі, шматлікімі ганаровымі граматамі, падзякамі ад розных арганізацый БССР і СССР.

## Нашы юбіляры



**МІНЯНКОВА Маргарыта Сяргееўна** — заслужаны работнік культуры Беларусі.



**ШАЦКІ Валерый Уладзіслававіч** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.



**ЧЫЖОВА Наталля Аляксандраўна** — канцэртмайстар, выкладчык Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

# Чытайце — і перамагайце!

Дзень беларускага пісьменства, што пройдзе ў Глыбокім, прымушае звярнуць пільную ўвагу на кніжніцы гэтага рэгіёна. Пра асаблівасці развіцця мясцовай бібліятэчнай сістэмы расказвае яе дырэктар Валянціна Спасібёнак.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота аўтара

— Бібліятэчная справа на Глыбоччыне бярэ свой пачатак як мінімум з XVI стагоддзя. У свой час святар А. Вераксін пісаў гісторыю мясцовага Беразвецкага манастыра, які існаваў да 1939 года. Дакументы, знойдзеныя даследчыкам, сведчылі, што пры манастыры ўжо ў 1519 годзе была бібліятэка. Вялікая колькасць кніг мелася і ў манастыры кармелітаў босых. Віхуры стагоддзяў знішчылі гэтыя кнігазборы. У XIX — першай палове XX стагоддзя шмат кніг захоўвалася ў дзяржаўных установах і ў прыватных бібліятэках Глыбоччыны.

Развіццё дзяржаўных бібліятэк на Глыбоччыне пачынаецца з лістапада 1945 года, калі была заснавана гарадская бібліятэка. А праз чатыры гады пачалі адкрывацца хаты-чытальні ў сельскай мясцовасці. У 1977 годзе 65 бібліятэк раёна аб'ядналіся ў цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму. Глыбоцкая гарадская бібліятэка набыла статус цэнтральнай раённай.

Значны падзеяй у гісторыі Глыбоцкай бібліятэкі стаў яе пераезд у 2008 годзе ў рэканструяваны будынак. Пад агульным дахам пачалі працаваць дарослая і дзіцячая бібліятэкі. Такое аб'яднанне дазволіла атрымаць статус Бібліятэкі сямейнага чытання. Раней бібліятэка займала 100 кв. метраў, цяпер яе плошча павялічылася амаль у 12 разоў. Заўважу, што на той момант па забеспячэнні камп'ютарнай тэхнікай і па ўмовах працы мы знаходзіліся на першым месцы ў вобласці сярод раённых бібліятэк.

Недахопу ў новай літаратуры мы не адчуваем. У мінулым годзе фонды папоўніліся на 20357 экземпляраў, сёлета — на 5205 тысяч друкаваных і электронных выданняў, але асноўнае папаўненне яшчэ наперадзе. А вось колькасць карыстальнікаў бібліятэк, на жаль, скарачаецца.

**— Якія асаблівасці мясцовай бібліятэчнай сістэмы?**

— Абслугоўванне насельніцтва раёна ажыццяўляюць 35 бібліятэк. Сярод іх — цэнтральная раённая, гарпасялковая, 2 дзіцячыя, 27 сельскіх бібліятэк, 3 бібліятэкі-клубы, бібліятэка-музей этнаграфіі і клуб-бібліятэка. 14 устаноў з'яўляюцца бібліятэкамі аграгарадкоў. У мінулым годзе паслугамі карысталіся 24 тысячы жыхароў раёна. Кожны з іх у сярэднім прачытаў за год дзесяці 19 экзэмпляраў розных выданняў. Пры бібліятэках дзейнічаюць 24 клубы па інтарэсах, якія аб'ядноўваюць самыя шырокія колы наведвальнікаў. Два клубы — падлеткавыя. Яны арганізаваны пры Публічных цэнтрах прававой інфармацыі. Чатыры з іх наведваюць дарослыя (у тым ліку літаратурна-музычную гасцёўню "Сустрэча для душы", якая працуе пры цэнтральнай раённай бібліятэцы і мае статус "народнай"), астатнія — дзіцячыя (ахопліваюць экалагічны, патрыятычны, эстэтычны і іншыя кірункі).

У новым статусе з 2005 года працуе Азярэцкая бібліятэка-музей этнаграфіі. У музеі знаходзіцца больш як 200 экспанатаў, якія адлюстроўваюць жыццё і побыт сялян Азярэччыны. Ля вытокаў яго стварэння стаяла бібліятэкар Тацццяна Мышкоўская. Шмат год працуе клуб "Спадчына", яго удзельнікі ладзяць экспедыцыі, падчас якіх запісваюць легенды і паданні, праводзяць фальклорныя святы. Музей — дастаткова папулярны экскурсійны пункт для замежнікаў.

Але гэтая бібліятэка не адзіная ўстанова, якая працуе ў вызначаным кірунку. Так, у Стрынадкаўскай сельскай бібліятэцы створаны куток ільнаводства, у Прошкаўскай — эка-інфармацыйны цэнтр, у Ломашаўскай — цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Сёлета ўсе сельскія бібліятэкі рэалізуюць праекты "7 цудаў маёй старонкі" і "7 асобаў майго краю". Сабралі матэрыялы пра вёскі, якія зніклі. Вельмі запатрабавана ў нашых карыстальнікаў уласная паўнатэкставая электронная база дадзеных "Глыбоччына: ад мінулага да сучаснага".

**— Хто складае аўдыторыю глыбоцкіх бібліятэк? Што чытаюць?**

— Бібліятэкі наведваюць людзі рознага ўзросту. У сельскай мясцовасці больш чытаюць дзеці, у горадзе — дарослыя. У кожнай катэгорыі свае інтарэсы: школьнікі выбіраюць праграмныя творы, навінкі (кшталту раманаў таго ж Акуніна), навукова-папулярныя творы. Дарослыя чытаюць больш "лёгкую" літаратуру: дэтэктывы, любоўныя раманы. Дарэчы, попыт на такую літаратуру змяншаецца. Карыстальнікі пачалі звяртацца да больш сур'ёзных твораў. Пенсіянеры цікавяцца народнай медыцынай, кнігамі па вядзенні хатняй гаспадаркі. У апошні час значна павялічыўся попыт на літаратуру духоўнага зместу. Магчыма, тут ёсць часцінка і нашай працы: наладзілі цеснае супрацоўніцтва з выдавецтвам Беларускага Экзархата. Штоквартальна яго супрацоўнікі наведваюць нас і даюць магчымасць пазнаёміцца са сваёй прадукцыяй. Радуе, што гэтай літаратурай зацікавілася моладзь.

**— Як бібліятэка прапагандуе айчынную літаратуру?**

— У пачатку бягучага года распрацавалі мэтавую праграму "Беларуская кніга — погляд праз стагоддзі", кожны месяц прысвячаецца пэўнай тэме ці жанру: ліпень — творам класікаў, жнівень — незаслужана забытым кнігам. Сваім чытачам прапануем перачытаць выданні Янкі Сіпакова, Алеся Жука, Івана Капыловіча, Віктара Казько. Плён працы відавочны. Напрыклад, за першае паўгоддзе мінулага года карыстальнікі прачыталі 35 тысяч кніг беларускіх аўтараў. За першае паўгоддзе бягучага года — ужо 41 тысячу.

Дарэчы, падзялюся з чытачамі газеты цікавым назіраннем: з сучасных пісьменнікаў найбольшым попытам карыстаюцца тыя, хто прыязджае да нас асабіста. У гэтым годзе гасцямі былі Мікалай Чаргінец, Анатоль Зэкаў, Уладзімір Мароз, Галіна і Сяргей Трафімавы, Галіна Мароз. Прыезд пісьменнікаў стымулюе цікавасць чытачоў да іх твораў. З цеплынёй сустрэлі наведвальнікі раённай бібліятэкі выступленні пісьменнікаў Юрыя Татарынава і Віктара Праўдзіна. Што да апошняга, чытачы з нецярпеннем чакаюць працягу яго рамана "Нелюбімыя гінуць". Не знікае цікавасць да творчасці і мясцовых літаратараў: Галіны Сутула, Алеся Жыгунова, Віталя Гарановіча, Ганны Зінкевіч і іншых.

**— Галоўнай падзеяй у жыцці Глыбоччыны мусіць стаць Дзень беларускага пісьменства…**

— Так, сапраўды, гэта значная падзея і для нашай ЦБС. Рыхтавацца пачалі яшчэ ў пачатку года. Сярод бібліятэк раёна аб'явілі конкурсы на лепшую работу па папулярызацыі беларускай кнігі і на самага актыўнага яе чытача. Дарэчы, вынікі апошняга падвядзём у канцы гэтага месяца, пераможцам перададзім запрашэнні на свята і сустрэчы з вядомымі літаратарамі. Таксама распрацаваны выстаўкі, ладзім мерапрыемствы, выпускаем рэкламную прадукцыю. Падчас правядзення свята ў фае Бібліятэкі сямейнага чытання будзе працаваць краязнаўчая выстаўка "Гісторыя і сучаснасць роднага краю", на якой прадставяць свае матэрыялы ўсе бібліятэкі ЦБС. Застаецца толькі чытаць і перамагаць!




# Што такое посткросінг?

З самага ранняга дзяцінства людзі чымсьці абменьваюцца: цацкамі ў дзіцячым садку, фанцікамі або налепкамі ў школе, маркамі, паштоўкамі, грашовымі купюрамі, якія выйшлі з ужытку, і іншымі, часам зусім неверагоднымі рэчамі. У мінулым такі абмен звычайна адбываўся паміж сябрамі, знаёмымі ды калегамі ў межах аднаго горада, у рэдкім выпадку — краіны. Сёння такі абмен магчымы на сусветным узроўні. У апошнія гады найбольшую папулярнасць у свеце набылі грамадскія рухі па абмене кнігамі і паштоўкамі.

Марына ПЕТРАШКЕВІЧ

У 2005 годзе партугальскі студэнт Паула Магалхаес са сваімі сябрамі прыдумаў праект посткросінг. Мэта праекта — абмен паштоўкамі з незнаёмымі людзьмі з розных куткоў планеты. Каб стаць удзельнікам гэтага руху, трэба зарэгістравацца на афіцыйным сайце посткросінга (дарэчы, іх два: англамоўны postcrossing.com і яго аналаг на рускай мове postcross.ru) і адправіць паштоўку па любым з прапанаваных сайтам адрасе. У хуткім часе ў сваёй паштовай скрыні вы таксама знойдзеце паштоўку, але ўжо зусім ад іншага чалавека. Бо ў прынцыпе працы сайта знаходзіцца сістэма непрамога абмену, гэта значыць, адпраўляючы паштоўкі адным карыстальнікам, удзельнік атрымлівае іх ад іншых.

Да посткросінгу далучылася і Мінская дзіцячая бібліятэка № 8. Мы дамовіліся з дзіцячай бібліятэкай Санкт-Пецярбурга наконт правядзення сумеснай акцыі "Адпраў паштоўку — перашлі людзям дабро і любоў". У межах гэтай акцыі мы хацелі пазнаёміць дзяцей з розных краін. Посткросінг спрыяе міжнароднаму сяброўству і талерантнасці. Адпраўляючы паштоўку, вы расказваеце пра сваю краіну, народ, культуру, гісторыю.

Акцыя "Адпраў паштоўку — перашлі людзям дабро і любоў" праходзіла ў два этапы. У бібліятэку мы запрасілі школьнікаў 4—5 класаў, дзе паказалі ім відэапрэзентацыю, распавялі гісторыю паштоўкі, яе распаўсюджанне. Дзеці даведаліся, што такое філакартыя, якія паштоўкі найбольш каштоўныя для калекцыянераў. Паштоўку выкарыстоўвалі і ў якасці падарунка. Пасля прагляду відэапрэзентацыі мы пазнаёмілі дзяцей з сусветным рухам абмену паштоўкамі, патлумачылі, хто і навошта яго прыдумаў, як карыстацца яго афіцыйнымі сайтамі. Пасля чаго прапанавалі школьнікам далучыцца да аб'яднання.

Ва ўсіх удзельнікаў акцыі былі паштоўкі з мінскімі краявідамі, якія яны падпісалі для дзяцей з Санкт-Пецярбурга. На паштоўках дзеці напісалі крыху пра сябе, свае захапленні, чым яны займаюцца ў вольную хвіліну, пра кнігі, якія чытаюць. Падчас мерапрыемства высветлілася, што ўсе дзеці падпісвалі паштоўкі ўпершыню. Усе яны актыўна карыстаюцца інтэрнэтам, амаль што ў кожнага ёсць свой электронны адрас, але ніхто з іх ніколі не карыстаўся паслугамі звычайнай пошты, што надавала нашаму мерапрыемству нейкую загадкавасць.

Для зваротнай сувязі на паштоўках дзеці напісалі свой хатні адрас. Усе паштоўкі адправілі ў канверце ў Санкт-Пецярбург. Прыблізна ў той жа самы час падобныя мерапрыемствы праходзілі і ў Паўночнай сталіцы Расіі.

Дзесьці праз месяц, калі атрымалі паштоўкі з Пецярбурга, адбылася другая сустрэча, падчас якой дзеці прагледзелі відэапрэзентацыю пра горад на Няве, яго гісторыю, культуру, пабачылі фотаздымкі сучаснага мегаполіса, а таксама фота сваіх аднагодкаў, якія падпісвалі для іх паштоўкі. Пасля аповеду пра горад удзельнікі акцыі ўпершыню атрымалі звычайныя папяровыя паштоўкі. Адпаведныя мерапрыемствы прайшлі і ў Санкт-Пецярбургу. Усяго ў міжнароднай акцыі "Адпраў паштоўку — перашлі людзям дабро і любоў" прынялі ўдзел амаль 80 школьнікаў.

Цяпер удзельнікі акцыі, калі пажадаюць, змогуць перапісвацца паміж сабой, ужо без нашага ўдзелу, канечне ж, пасябруюць.

# Ад Тычыны да Купавы:
# З гісторыі экслібрыса Пятра Глебкі

Віктар СВЯКЛА,
навуковы супрацоўнік
ЦНБ імя Якуба Коласа
НАН Беларусі




Экслібрыс работы М. Купавы.

**Больш як чвэрць стагоддзя мінула з таго часу, як асабісты кнігазбор Пятра Глебкі перайшоў на захаванне ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Не адно пакаленне чытачоў карысталася выданнямі з гэтай каштоўнай калекцыі. Напэўна, многія звярнулі ўвагу на знак, змешчаны на кожнай з кніг (усяго іх больш як тры з паловай тысячы), што некалі належалі пісьменніку. Аўтар гэтага экслібрыса — мастак Мікола Купава.**

Знак, выкананы ў тэхніцы цынкаграфіі, спалучае цэлы шэраг вобразаў з выразным беларускім гучаннем. Карціна ў прамавугольнай рамцы — раскідзісты дуб, зжатая збажына ў снапах у полі (пейзаж гэты ў памяці аўтара застаўся з часоў наведвання ўрочышча Бервянец на радзіме Якуба Коласа). Па адзін бок ад рамкі — выдавецкі знак Скарыны (месяц-маладзік і сонца з чалавечымі тварамі), па іншы — герб Мінска з выявай Ушэсця Маці Божай. Рамка ўпісана ў акружнасць, якую спавівае вянок з каласоў і лугавых кветак. Бусел, шырока раскінуўшы крылы, аглядае з вышыні гэтую Беларусь у мініяцюры. А крыху ніжэй — разгорнутая кніга.

— Кніга сімвалізуе мудрасць, бусел — палёт. Да таго ж хацелася спалучыць і скарынаўскую тэматыку (ёй у творчасці Глебкі адведзена істотнае месца), і коласаўскую, а таксама падкрэсліць сувязь паэта з Мінскам, — так тлумачыць ідэю, выяўленую ў экслібрысе, яго аўтар.

Адразу думаецца: Глебку, напэўна, былі вельмі даспадобы такі экслібрыс. На самай жа справе Пятро Фёдаравіч нават не бачыў гэтага знака. Купава стварыў яго каля 1980 года, праз дзесяцігоддзе пасля смерці пісьменніка. Удава паэта Ніна Іларыёнаўна тады была вельмі зацікаўлена ў тым, каб кнігазбор яе мужа набыў экслібрыс. Пасля смерці Пятра Фёдаравіча ў канцы 1969 года ёй засталася не толькі яго бібліятэка, але і завяшчанне, згодна з якім Ніна Іларыёнаўна мусіла перадаць кнігі ў бібліятэку Акадэміі навук. Тады ўдава пісьменніка і стала задумвацца пра знак-ахоўнік, які б забяспечваў цэласнасць калекцыі. Зрабіла заказ на выкананне Купаве, азнаёмілася з прапанаваным ім эскізам — і ўхваліла яго. У бібліятэку АН БССР асноўная частка выданняў з глебкаўскай калекцыі трапіла ў 1986 годзе, ужо маючы на адваротным баку вокладкі экслібрыс работы Купавы.

Сам жа Пятро Глебка, хоць і вельмі клапаціўся пра свой кнігазбор, але пра ўладальніцкі кніжны знак, відаць, не надта дбаў. Аднак гэта не азначае, што экслібрысаў Глебкі пры жыцці паэта не існавала. Самыя вядомыя майстры лічылі за гонар прапанаваць пісьменніку кніжны знак уласнай работы.

Не быў выключэннем і патрыярх беларускага экслібрыса Анатоль Тычына. У 1960 годзе ён выканаў (як і Купава, у тэхніцы цынкаграфіі) свой экслібрыс Глебкі. Аднаго погляду дастаткова, каб зразумець: прызначаны ён для беларускага пісьменніка. У аснове кампазіцыі — кнігі, папяровы скрутак, пісьмовыя прылады ў вазачцы з нацыянальным арнаментам. Гуслі таксама традыцыйная метафара (вялікіх паэтаў у Беларусі здаўна прынята называць песнярамі). Залітая сонечнымі промнямі ралля — знак таго, што ў родную зямлю ўрастае каранямі творчасць Глебкі.

Класічны твор Тычыны вядомы, бадай, кожнаму айчыннаму аматару кніжнага знака. Ён неаднаразова экспанаваўся на разнастайных выстаўках у Беларусі і за яе межамі, звесткі пра яго ўключаны ў многія выданні. Яго выяву можна ўбачыць і ў кнізе "Беларускі кніжны знак" (1975), складзенай А. Тычынам і В. Шматавым (гэта лепшае выданне, прысвечанае беларускаму экслібрысу), і ў ілюстраваным дадатку да артыкула "Экслібрыс" у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі".

А вось на кнігі з глебкаўскага кнігазбору ён так і не трапіў. Хоць такую магчымасць, верагодна, меў. Вось тэкст кароткай запіскі аўтара да Ніны Іларыёнаўны, датаванай 25 студзеня 1975 года: "Паважаная Ніна Іларыёнаўна! Пасылаю вам два абяцаныя адбіткі з кніжнага знака. Думаю, што адно клішэ можна зрабіць у натуральную велічыню, а другое зменшыць на адну трэць. З павагай А. Тычына". Непасрэдна пра размяшчэнне экслібрыса работы Тычыны на кнігах з калекцыі Глебкі тут не гаворыцца, аднак сам факт з'яўлення такой запіскі праз 15 год пасля яго стварэння, якраз у той час, калі Ніну Іларыёнаўну вельмі хвалявала пытанне пра кніжны знак для выданняў з калекцыі мужа, наводзіць на такую думку. І ўсё ж пашанцавала экслібрысу аўтарства Купавы.

Побач з гэтай запіскай у асабістым архіве Пятра Глебкі з фондаў ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца і іншая, адрасаваная самому паэту: "П. Ф., пасылаю ex-libris, выкананы на лінолеуме (дзяўчына, якая кідае ў раку вянок). Хацелася беларускай лірыкі — ці атрымалася? Водгук за вамі". З такімі словамі да пісьменніка ў 1967 годзе звярнуўся вядомы жывапісец і графік, аўтар вялікай колькасці кніжных знакаў, выкананых, як і экслібрыс Глебкі, пераважна ў тэхніцы лінагравюры, Яўген Красоўскі. Якім быў адказ Пятра Фёдаравіча (і ці быў ён увогуле) — невядома. А ў яго архіве засталіся адбіткі кніжнага знака работы Красоўскага, якія зводзяцца да двух варыянтаў, адрозных у дэталях. На першым з іх месяц, размешчаны высока над галавой дзяўчыны, асвятляе прастору вакол яе. На другім месяц спусціўся ніжэй, ён нібы ўплецены ў дзявочую касу, ды яго святло не прабівае цемру купальскай ночы. Ёсць адрозненні і ў выгіне ракі, і ў постаці самой дзяўчыны.

Менавіта ў другім варыянце гэты экслібрыс змешчаны на старонках выдання "Евгений Красовский" (1969) з серыі "Экслибрисы белорусских художников". А значыць, паводле версіі ўкладальнікаў (членаў Баранавіцкага клуба кнігі), ён уваходзіць у дзясятку лепшых кніжных знакаў, створаных мастаком. Па колькасці ж удзелаў у выстаўках экслібрыс Глебкі адстае ад большасці сваіх суседзяў па гэтым выданні. Самая вядомая і маштабная з выставак, дзе ён экспанаваўся, — Другая выстаўка беларускага кніжнага знака, што прайшла ў Мінску ў 1968 годзе. А ў 1971-м гэты кніжны знак маглі бачыць наведвальнікі экспазіцыі "Літаратурныя матывы ў экслібрысе", арганізаванай у бібліятэцы АН БССР.

Калі твор Яўгена Красоўскага Глебку, безумоўна, быў вядомы, то экслібрыс аўтарства яго цёзкі Ціхановіча паэт, верагодней за ўсё, ніколі не бачыў. Адзін з найбольш вядомых майстроў беларускага экслібрыса працаваў над гэтым кніжным знакам (тэхніка яго выканання — афорт) у год смерці Пятра Фёдаравіча, а адбітак з дарчым надпісам паслаў Ніне Іларыёнаўне толькі ў 1972 годзе.




Экслібрыс работы Я. Ціхановіча.




Экслібрыс работы М. Тарасікава.

У выданні "Сто экслибрисов Евгения Тихановича" (1972) ён апісаны так: партрэт уладальніка знака, які чытае газету "Советская Белоруссия" з партрэтам Уладзіміра Леніна. Даводзілася чуць меркаванне, што гэты твор істотна саступае сваім папярэднікам з пункту гледжання сэнсавага напаўнення: не адлюстроўвае ні інтарэсаў Глебкі, ні яго духоўных памкненняў, ні складу кнігазбору. Але менавіта ў гэтым кніжным знаку (пісьменнік на ім трымае ў руках газету, якая выйшла пасля яго смерці) сёння прачытваецца ідэя, якую можна выразіць словамі "Глебка жыў, Глебка жыве, Глебка будзе жыць!" Гэта была задума аўтара ці так атрымалася выпадкова? Адказу няма, бо ніякіх каментарыяў да свайго твору Ціхановіч, у адрозненне ад Красоўскага, не пакінуў.

Жывапісец і графік Мікалай Тарасікаў да ліку майстроў экслібрыса пры жыцці не адносіўся. Аматары кніжнага знака ведалі толькі некалькі яго работ у гэтым жанры. Калі ж у 1965 годзе мастака не стала, у яго хатнім архіве знайшлося мноства эскізаў экслібрысаў для вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва, выкананых тушшу і прызначаных для далейшага пераводу на лінолеум. Членамі Баранавіцкага клуба кнігі была падрыхтавана да друку падборка з дзесяці найбольш завершаных кніжных знакаў. Яна выйшла ў 1970-м невялікім тыражом у 150 асобнікаў і выклікала вялікі попыт калекцыянераў з усяго СССР.

Увайшоў у гэтае выданне і экслібрыс Пятра Глебкі. Тарасікаў, у адрозненне ад пералічаных аўтараў, у асобе Пятра Фёдаравіча бачыў перш за ўсё не пісьменніка, а навукоўца, акадэміка. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, калі ўлічыць, што ў 1950-я гады Тарасікаў быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР, які ўзначальваў Глебка. На створаным мастаком кніжным знаку — будынак прэзідыума Акадэміі навук Беларусі і разгорнутая кніга над ім. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца эскізы гэтага экслібрыса. З іх бачна, што Тарасікаў спрабаваў зрабіць кампазіцыю больш разнастайнай. Побач з калонамі будынка з'яўлялася фігура савы, на стужцы, укладзенай у кнігу, — нацыянальны беларускі арнамент. І ўсё ж мастак адмовіўся і ад таго, і ад іншага, спыніўся на максімальна лаканічным варыянце.

Дакладная дата ўзнікнення экслібрыса работы Тарасікава невядомая. Хутчэй за ўсё, мастак працаваў над ім у канцы 1950-х гадоў. Калі так, то, прынамсі ў храналагічным шэрагу кніжных знакаў Пятра Глебкі, гэты мусіць стаяць першым. І толькі пасля яго — працы іншых майстроў: ад Тычыны да Купавы.

## Светлагорскі ЧыТаймер

Светлагорская раённая дзіцячая бібліятэка арганізавала чэмпіянат па чытанні, у якім прымаюць удзел вучні трэціх і пятых класаў — чытачы раённай дзіцячай бібліятэкі і дзіцячай бібліятэкі Маладзёжнага мікрараёна.

Спаборніцтва па чытанні стартавала 1 чэрвеня і будзе доўжыцца да 31 жніўня. Галоўнай яго ўмовай і крытэрыем вызначэння пераможцаў служыць колькасць прачытаных за гэты час кніг. Папярэднія вынікі кожны ўдзельнік можа штомесяц бачыць на так званых "ЧыТаймерах", усталяваных у фае бібліятэк. Пераможцы будуць названы аргкамітэтам у верасні напярэдадні Дня бібліятэк. Узнагароды яны ўтрымаюць на свяце Чытання ў раённай дзіцячай бібліятэцы. Пра тое, як праходзіць гэты незвычайны чэмпіянат, можна даведацца на Дзіцячай старонцы сайта Светлагорскай раённай бібліятэчнай сістэмы.

**Людміла ГРАДУЛЕНКА**

## Хто прыдумаў музычны імпрэсіянізм?

У зале нотных і аўдыёдакументаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць выстаўка "Фарбы гукаў", прысвечаная творчасці Клода Дэбюсі. Французскі кампазітар, ён увайшоў у гісторыю як заснавальнік музычнага імпрэсіянізму. На выстаўцы прадстаўлены даведачныя выданні, кнігі і артыкулы, прысвечаныя К. Дэбюсі, а таксама нотныя выданні твораў кампазітара. Сярод іх балеты "Гульні" і "Скрыня з цацкамі", творы для фартэпіяна, у тым ліку "Востраў" і "Бергамаская сюіта", арабескі і інш. Частка твораў прадстаўлена на аўдыёдакументах у выкананні айчынных і замежных музыкантаў.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

# На вышыні птушынага палёту

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Уладзіслава Някрасава,
Любові Венслававіч

На 22-м паверсе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, у галерэі "Панарама", у межах III Мінскай міжнароднай біенале сучаснага жывапісу "Colorfest" адбылася выстаўка твораў вядомых літоўскіх майстроў з горада Панявежыса Томаса Рудокаса і Дзіяны Рудокене. Яны стварылі сям'ю яшчэ ў студэнцкія гады, маюць дачку, якая таксама збіраецца стаць мастачкай, актыўна ўдзельнічаюць у міжнародных выстаўках і пленэрах, а яшчэ вельмі розныя паводле выяўленчай стылістыкі асобы.

## ЧАС ДЛЯ МАСТАЦТВА

Томас расказвае: "Два гады таму давялося быць у Мінску, праязджалі міма бібліятэкі і пашкадавалі — няма часу зазірнуць у разрэкламаваны будынак НББ. А тут такая цудоўная прапанова — выставіць свае творы. Згадзіліся адразу".

Мінчан і гасцей сталіцы пазнаёміць з Томасам і Дзіянай вырашыў старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб, куратар праекта "Colorfest": "Ведаю гэтых людзей і іх творчасць дзякуючы ўдзелу не ў адным праекце. Не ў Літве і не ў Беларусі — мы пазнаёміліся ў Расіі падчас міжнароднага пленэру ў Бранскай вобласці. Калі мастак прыязджае з выстаўкай — ён прыадкрывае душу. Іх творчасць не падобная да іншых. Томас выкарыстоўвае элементы народнага мастацтва, выдатна разумее, што такое ілюстрацыя. Яго творы можна назваць ілюстрацыяй да нейкай казкі — не канкрэтнай, а ўвогуле. Беларускі і літоўскі фальклор вельмі блізкія — мы доўгі час былі ў адной дзяржаве. Да таго ж яны вельмі шчырыя, адкрытыя людзі — без палітычных і ідэалагічных забабонаў. Таму з імі заўсёды прыемна працаваць. Яны такія ж шчырыя і ў творчасці".

Томас Рудокас — таленавіты мастак, педагог, кіраўнік. Узначальвае Панявежскае аддзяленне Саюза мастакоў Літвы. У галерэі Саюза мастакоў курыраваў шэраг праектаў. Спрабуе сябе ў розных тэхніках, эксперыментуе з розным матэрыялам. Найбольш актыўна — у тэхніцы роспісу па шоўку. Насельнікі яго палотнаў — казачныя птушкі і звяры, людзі, дамы, дрэвы — нагадваюць пра стылістыку літоўскага народнага мастацтва, ствараюць своеасаблівы казачны свет. Томас выкладае малюнак школьнікам. Падсумоўваючы агульную колькасць часу, адведзенага праграмай на гэты прадмет, заўважае: урэшце рэшт на далучэнне да мастацтва — 36 гадзін. Многа гэта ці мала? Часам да яго трапляюць вучні, якіх у пачатковай школе не навучылі нават правільна завастрыць аловак. "Пытаю ў іх, ці даводзілася замест урокаў малюнка рашаць кантрольныя і падганяць праграму па іншых прадметах. Адказваюць, што часта". Ці зможа выратаваць сітуацыю адзін чалавек, які прападае на рабоце з ранку да вечара? Але Томас не адступае.

Яго крэда — выказванне Мацiса: "Я хачу, каб мая карціна была зручным крэслам для падарожніка, у якога стаміліся ногі". "Калі шмат негатыўных з'яў, хочацца, каб ад нашых работ ішоў пазітыў, — кажа Томас. — Звяртаюся да міфалогіі, казак. Сусвет работ — мой унутраны свет, і калі людзям падабаецца, гэта радуе". На рахунку Томаса Рудокаса арганізацыя ўжо дзесяці пленэраў па жывапісе, на якія ён і надалей збіраецца запрашаць беларускіх мастакоў.

Дзіяна Рудокене "Сонечны дзень".

## КАТЫ І ПТУШКІ

Да творчасці Дзіяны часта прымяняюць азначэнне "салонны жывапіс". Тэматыка яе работ — прырода, партрэты, свецкія размовы. Пра сябе яна расказвае: "Люблю глядзець на неба. Летам у вёсцы ў бабулі любіла назіраць за аблокамі і ўгадваць у іх розныя фігуры. Мне і дагэтуль падабаецца. На жаль, часу няма. Але для таго і існуюць пленэры. Сама я чалавек асфальту. Летам, калі ёсць магчымасць, еду на пленэр і з кубачкам кавы раніцай вылучаю хвілінку, каб паляжаць на траве. Дзякуй богу, у нас яшчэ можна паляжаць на траве. На Захадзе гэта ўжо немагчыма".

На адным з яе палотнаў — на стале вялікая клетка і птушка побач. "Аднойчы падчас выстаўкі мужчына сказаў: «Па тваёй рабоце можна расказаць пра цябе саму. Ты птушка, якая хоча вярнуцца ў сваю клетку»". На другім — існасць кахання. (Твор называецца "Ледзь-ледзь".) Жанчына трымае гронку рабіны, і навокал чырвоныя кроплі. "А кроў гэта ці сок, — кажа Дзіяна, — няхай разважае глядач".

Наступная работа — "Сонечны дзень". Калі спытаць Дзіяну, пра што яна, мастачка адкажа: "Кот глядзіць на неба і пытае ў кошкі: «Хочаш, я дастану табе сонейка?»" І яна верыць, што кот на гэта здольны. Сябры смяюцца, што я малюю катоў «з усімі валасамі»". На пытанне, чаму героямі многіх работ сталі каты, яна адказвае: "У мяне ёсць розныя тэматычныя цыклы. Але побач з гераінямі заўсёды кот — як сімвал мужчыны. Каты ходзяць, куды захочуць. Калі жанчына яго прылашчыць, ён вернецца, а калі будзе няветлівай — пойдзе да іншай".

## ТВОРЧАСЦЬ ЯК ФІЛАСОФІЯ

Мастак выяўляе ў творах сваю існасць. І вельмі хвалюючы момант — успрыняцце яго работ гледачамі. На адкрыцці выстаўкі мастацтвазнаўца, арт-дырэктар аўтарскай некамерцыйнай галерэі "Брама" Ларыса Фінкельштэйн адзначыла: "НББ мае сваe даўнія традыцыі выставачнай дзейнасці. Нават з тых часоў, калі не было нічога, апрача драўляных сцен канферэнц-залы. Вопыты доўжыліся, пакуль Саюз мастакоў не ўзяў гэта ў свае рукі — і сустрэчы сталі насіць міжнародны характар.

Першае, што кідаецца ў вочы пры знаёмстве з творамі Томаса і Дзіяны, — гэта вялікая розніца паміж блізкімі людзьмі. Шмат пра што аднолькава думаюць — і такія розныя. Кожны сам па сабе самадастатковы і вельмі незалежны мастак. Гэта самадастатковасць мае цудоўныя праявы. Творы Томаса пазнаеш у любой экспазіцыі. Яго пазнавальнасць — у шэрагу прычын. Няма лабавога арнаменту, але вельмі далікатна і стылізавана штосьці ад народнага літоўскага мастацтва, па-мастацку перажытае. Па-другое, вельмі ўдала спалучае архітэктуру і нейкія дробныя сюжэцікі, якія складаюць тканіну побыту, канву ўспамінаў. Гэта ўсё — вельмі цэласнае ўяўленне пра мінулае, сучаснае і сваё месца ў сусвеце. Што да Дзіяны — гэта мастак, гераіні якога — свецкія львіцы. Амаль сюррэалістычны падыход. Але не без гумару. Яны гуляюць з табой, гэта своеасаблівы тэатр, у іх унутры ёсць пэўная субстанцыя, якую хочацца разгадваць, і гэта немагчыма зрабіць адразу. Мінімалісцкі падыход да фону — яго амаль няма. Такія партрэты сёння мала хто піша. Калі не ведаеш, адкуль яна, беспамылкова скажаш — гэта еўрапейскі мастак, бо гаворыць такой рафінаванай мовай".

Дзіяна і Томас былі задаволеныя ўдзелам у праекце. Вельмі спадабалася прастора выстаўкі — асветленая. "Ёсць аднолькавая для нас мова мастацтваў, якая не патрабуе перакладу і дорыць новыя эмоцыі і натхненне".



Дзіяна Рудокене.

# Амерыканскія кніжніцы: pro et contra

Марына ЯЎСЕЙЧЫК

Студэнцкія кніжніцы, якія працуюць да позняй ночы, міжнародны абмен кнігамі праз установы такога тыпу — гэта не чарговыя цуды, а ўсяго толькі амерыканская рэальнасць. Пра яе чытачам "ЛіМа" расказвае студэнт Сяргей Лісічонак з Беларусі, які вучыцца ў Мінеапалісе, найбуйнейшым горадзе штата Мінесота.

## З РАНКУ ДА НОЧЫ

Амерыканская ўніверсітэцкая бібліятэка Мінеапаліса працуе з 7 ранку да 12 ночы. Яна займае некалькі шматпавярховых будынкаў. У залах шмат сталоў, крэслаў, фатэляў, на якія зручна не толькі класці кнігі, але ставіць ноутбук і кубак з кавай.

"Сядзі — працуй суткамі! Справа на аматара, але, як аказалася, даволі шмат студэнтаў так і рабілі: з бібліятэкі — на заняткі, потым зноўку ў бібліятэку, пасля нарэшце можна і дахаты: пераначаваць, каб раніцай вярнуцца да кніжак. Асабліва часта такое здараецца, як гэта і можна адразу прадказаць, напрыканцы навучальнага семестра, — расказвае Сяргей. — Студэнты могуць замаўляць любыя кнігі, нават тыя, якіх кніжніца не мае. На працягу двух тыдняў яе супрацоўнікі павінны даставіць патрэбную кнігу, пазычыўшы яе ў іншых бібліятэках".

Так, бібліятэчная сетка ўніверсітэтаў арганізавана такім чынам, каб апараты-на абменьваць кнігамі ў залежнасці ад запытаў чытачоў. Мой суразмоўца замаўляў у Паўночную Мінесоту неабходную літаратуру з Каліфорніі, Агая, Нью-Ёрка, часцей за ўсё — з Чыкага. Але бывалі і інтэрнацыянальныя абмены: яму дастаўлялі кнігі нават з бібліятэкі Мюнхенскага ўніверсітэта. Толькі двойчы кнігі даставіць не змаглі. Першы раз гэта была брашура адной з недзяржаўных арганізацый краіны. А другую кнігу толькі-толькі выпусцілі ў Маскве. На жаль, пра такія магчымасці беларускім студэнтам і навукоўцам застаецца пакуль толькі марыць.

## ЗАМЕСТ ПАДШЫВАК — МІКРАФІЛЬМЫ

"Гарадская бібліятэка Мінеапаліса ўразіла сваёй тэхнічнай распрацаванасцю і дызайнам. Дэкорам яна не саступае нашай Нацыянальцы, але па аспектах арганізацыі працы нават пераўзыходзіць яе, — дзеліцца ўражаннямі Сяргей. — Арганізацыя пошуку і замовы патрэбнай літаратуры, яе захаванне, працэс выпіскі яе дахаты і вяртання кнігі так добра сплашаваны, што бібліятэку абслугоўвае лічаная колькасць персаналу".

З аповеду Сяргея зразумела, што амерыканскія бібліятэкі больш функцыянальныя за айчынныя. Напрыклад, у зале перыёдыкі няма падшывак з нумарамі газет за мінулыя дзесяцігоддзі. Калі спатрэбяцца старыя нумары, то чытач можа скарыстацца мікрафільмамі, дзякуючы якім можна прагледзець старонкі газет на маніторы камп'ютара. Таму няма неабходнасці цягаць падшыўкі, ды і захоўваць інфармацыю значна прасцей.

Акрамя гэтага Сяргей распавёў, што ў бібліятэцы ў пэўныя дні праводзяць бясплатныя трэнінгі па працы з камп'ютарамі, асобнымі праграмамі, таксама вучаць асновам бізнесу, правільнаму інвеставанню, нават пошуку грантаў на атрыманне вышэйшай адукацыі. Такіх паслуг у нашых бібліятэках пакуль няма. Затое выстаўкі архіўных і тэматычных фота, праведзенне мерапрыемстваў, прысвечаных асобным падзеям з жыцця горада, з'яўляюцца пастаяннай культурнай праграмай не толькі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, але і абласных, раённых бібліятэк, таму ў гэтым мы не адстаём ад той жа Амерыкі.

Што да ўнутранага афармлення, дык "дызайн бібліятэкі ўяўляецца аўтарскім і непаўторным. У залах вісяць арыгінальныя карціны, напрыклад, у зале з архівамі — выява Мінеапаліса XIX стагоддзя. Але ўвогуле ўнутранае афармленне бібліятэкі вельмі сціплае", — заўважыў Сяргей. Вызваляецца, у бібліятэцы Мінеапаліса, у адрозненне ад нашай, кожны з паверхаў уяўляе сабою суцэльную прастору, у якой ужо ёсць адмысловыя стэлажы па дакладных навуках, мастацтве, даведнікі, аўдыёкнігі і г.д. Асобна хіба толькі залы для дзяцей і падлеткаў.

## ПАПЕРА ЦІ PDF?

Гандаль кнігамі ў інтэрнэце — лёгкі працэс: уводзіш у пошук назву кнігі, глядзіш кошт, тэрміны дастаўкі, выбіраеш і чакаеш. Так значна прасцей адшукаць кнігі, чым у кнігарні. Таму ў студэнтаў самы запатрабаваны фармат кнігі — электронны. Запампаваў у тэлефон альбо ноутбук і чытай, дзе заўгодна.

За час свайго студэнцтва ў ЗША Сяргей амаль развучыўся бадзяцца паміж стэлажоў або зарывацца ў стосы бібліяграфічных картак. "Пару клікаў мышкаю па сайце крамы або бібліятэкі — і ты ўжо бачыш кнігу, якая цябе цікавіць. Бачыш, ці вольная яна цяпер, калі не, то пасля яе вяртання ў бібліятэку можна адразу ж пакінуць замову на патрэбнае выданне. Пры замове на электроную пошту атрымліваеш паведамленне, калі кніга вызваліцца і будзе чакаць мяне на паліцы. Яшчэ пару клікаў — і ты атрымліваеш лісты з назвамі выданняў, якія падобныя да таго, што шукаў. Таксама можна прагледзець колькасць старонак ці нават пачытаць кнігу он-лайн замест таго, каб ехаць у бібліятэку па папяровы варыянт", — распавёў мне Сяргей. Электронныя кнігі становяцца вяршыняй прагрэсу ў кнігавыданні яшчэ і таму, што PDF-версію можна набыць за значна ніжэйшы кошт, чым папяровы варыянт. Згаджуся з Сяргеем і наконт таго, што электронную версію кнігі непараўнальна зручней узяць у вандроўку.

495-годдзю беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання прысвячаўся паказ спектакля Гомельскага абласнога драматычнага тэатра “Спакушэнне Францыска Скарыны”. Прэм’ера сталася прыкметнай з’явай у культурным жыцці рэгіёна. І не толькі таму, што п’есу напісаў гамяльчанін Іван Прылуцкі (псеўданім Івана Штэйнера. — **Рэд.**). Сам твор — адметны: у нечым эксперыментальны, наватарскі, неадназначны. Пра Скарыну напісана нямала, у тым ліку і ў драматургіі, аднак новая п’еса ўражвае незвычайнасцю архітэктонікі, вобразнасці, кантэксту, мовы. Глядач, які праз літаратурна-мастацкія творы звыкся з класічным вобразам Ф. Скарыны, з гістарычным антуражам яго эпохі, ведае традыцыйна-культурны кантэкст, можа быць нават збянтэжаны новай мастацкай інтэрпрэтацыяй гістарычнай асобы.


*Сцэна са спектакля “Спакушэнне Францыска Скарыны”.*

# Навука як спакуса

**Таццяна АЎДОНІНА**

П’есу І. Прылуцкага даволі цяжка аднесці да пэўнага жанру: тут спалучаюцца навукова-сур’ёзныя і гумарыстычна-забаўляльныя пачаткі, характэрныя для светапогляду аўтара. Яскрава выяўленая дыдактычнасць тэксту дае падставу разглядаць яе як тэатралізаваную лекцыю (сучасныя адукацыйныя тэхналогіі вымагаюць усё больш пашыранага выкарыстання інавацыйных формаў і метадаў правядзення заняткаў: відэашэраг і відовішчнасць — вось чаго патрабуе сёння студэнт!). Можна ўспрымаць п’есу як спробу стварыць зусім новы жанр, дзе арганічна спалучаныя элементы разнастайных літаратурных і канцэртна-тэатральных жанраў. Назавём гэта драмай-мікс.

Зваротам да такой формы ўжо амаль нікога не здзівіш. Але хто б мог падумаць, што кананічную асобу Францыска Скарыны можна перанесці ў сферу інтэртэкстуальнасці, пасціша, гратэску?!

Аднак тэкст п’есы гэта дазваляе: яе аўтар вылучыў дамінантную сутнасць кожнага вобраза, пазначыў мізансцэны, нават прапанаваў для пастаноўшчыкаў светла-, гука- і відэашэраг, музычнае суправаджэнне… А потым раптам заявіў, што рэжысёру зусім не трэба імкнуцца да поўнай адпаведнасці эпосе ў знешнім выглядзе герояў, іх адзенні, фрызурах, як і ў сцэнаграфіі; дазволіў імправізацыю, бо наяўнасць анахранізмаў у мове, у артэфактах і ў закліках будзе спрыяць больш дакладнай рэалізацыі задумы твора.

Для пастаноўкі адпаведнага спектакля патрэбны быў рэжысёр-канцэптуаліст, які арганічна валодае дасканалым вобразна-мантажным уяўленнем. І ён знайшоўся: Багдан Арлоўскі — чалавек тонкай творчай арганізацыі, які за дзесяць гадоў працы ў Гомельскім драмтэатры паставіў больш як дваццаць спектакляў. Рэжысёр і ўвасобіў у сваёй пастаноўцы, адчуў аўтарскі стыль твора, чаму спрыяе музычнае і мастацкае афармленне спектакля.

Рэжысёр стаў і суаўтарам сцэнічнай версіі твора, бо ўвёў некаторыя фонавыя персанажы, змяніў зачын. Так, у п’есе І. Прылуцкага экспазіцыйны ход — справаздача кампаніі “Skaryna & K°” і сход “прэтэндэнтаў на ролю кампаньёнаў”; а ў спектаклі Б. Арлоўскі замяніў уяўную справаздачу на больш інтэлектуальную прынаду, блізкую вучоным і навучэнцам: галоўны герой зусім не Скарына, а дысертант, які піша пра Скарыну і ніяк не можа вылучыць галоўнае ў жыцці асветніка XVI стагоддзя, а таму нейкі таямнічы сінкліт цудоўным чынам пераносіць маладога вучонага ў эпоху сівой даўніны. І ў гэтым бачыцца авантурна-фантастычны і навукова-філасофскі ход творчага мыслення рэжысёра. А самае галоўнае — Б. Арлоўскі здолеў аб’яднаць, арганічна спалучыць, здавалася б, неспалучальнае: лекцыйна-пазнаваўчы матэрыял і тэатральнасць.

…Урачыста і ўзнёсла запаўняе залу арганная музыка; гасне святло. Глядач гатовы трапіць у свет гістарычнай драмы, убачыць напудраныя парыкі, малінавыя берэты, пышныя крыналіны… Але ж не! Гучаць пазыўныя “Microsoft Word” — камп’ютар уключаны, друкаванне пачалося. Мы ў XXI стагоддзі, на кафедры мовы філалагічнага факультэта ўніверсітэта. Ён — дысертант, яна — ягоная студэнтка: Бялянка з усімі ўласцівымі вобразу стэрэатыпамі. Такога зачыну няма ў п’есе, гэта бачанне спектакля рэжысёрам і — яго права. Аднак ад гэткай трактоўкі авантурная ідэя п’есы не пацярпела: аўтарскае засталося, толькі яно пераведзена ў сцэнічную лексіку. З іншых рэжысёрскіх зменаў адзначу, што Бялянка пасля інтрадукцыі не сыходзіць назусім, а выконвае складаную задачу: менавіта ў яе вусны ўкладаюцца істотныя думкі аўтара і сэнсавая фінальная рэпліка. Бялянка ў выкананні маладой актрысы Вольгі Дацэнкі зусім непадобная да гераіні шматлікіх анекдотаў пра бландзінак, а цікавая асоба з уласным светабачаннем.

Сыход Бялянкі ў п’есе спрыяў сітуацыі нетрадыцыйнай для сучаснага тэатра: дзейнымі асобамі заставаліся толькі героі-мужчыны. Дарэчы, персанажы Звяздар і Блазан, паводле задумы драматурга, — гэткі мадэрнізаваны антычны хор, ці квазі-хор, які адлюстроўвае лад мыслення і настрой аўтара. Рэжысёр паглыбіў гэты калектыўны вобраз, ураўнаважыўшы яго паводле прынцыпу інь і ян: зрабіў Звяздара не мужчынам, як у тэксце п’есы, а жанчынай, абаяльнай, але прытым даволі жорсткай. Гэтыя вобразы-маркёры “прасякваюць” усю тканку як п’есы, так і спектакля: яны сумяшчаюць эпохі, бо цесна звязаныя з разгортваннем дзеі, уплываюць на яе развіццё, перадаюць рэмаркі аўтара, дыскутуюць; гэта голас аўтараў — драматурга і рэжысёра. У спектаклі ёсць і пазасцэнічны персанаж — “Голас за кадрам”, які агучвае важную інфармацыю, вымаўляе сентэнцыі, аўтарскія ўдакладненні.

У выніку рэжысёрскіх зменаў экспазіцыя спектакля набыла выразна камедыйны характар, што дазваляе думаць: перад намі камедыя, як і абвешчана ў афішы. Аднак далейшае дзеянне, шчасліва абмінуўшы магчымасць — *ператварыцца* ў тэатральны капуснік (наяўнасць анекдотаў, канферанс, старадаўнія песні), запрашае да сур’ёзнай размовы з гісторыяй, даследавання і асэнсавання подзвігу, здзейсненага амаль пяцьсот гадоў таму.

Чаму Ф. Скарына, маючы выдатную магчымасць стаць багатым і знакамітым, абірае шлях не толькі непрыбытковы, але нават і небяспечны для жыцця? Чаму ён не абірае бацькаву, а цярэбіць уласную дарогу, напоўненую нягодамі, стратамі, пакутамі, непаразуменнямі, і прыпадабляецца да біблейскага Іова, кнігу пра якога ён пераклаў 10 верасня 1517 года? Пошук адказаў на гэтыя пытанні і ёсць лейтматыў п’есы ды спектакля, а распрацоўка тэмы пачынаецца “віртуальнай” (бо на той час Лукі Скарыны ўжо не было сярод жывых) сустрэчай Францыска з бацькам. У гэтай сцэне задаецца і “маральны рытм” спектакля: што павінен выбраць малады Францыск — гандаль ці асветніцтва? Купец Лука Скарына, якога арганічна ўвасобіў Віталь Беднашэя, адразу ж выяўляе свой цвёрды, нават жорсткі характар і асуджае галоту існавання вучоных, ведаючы, што “навука нікога багатым не рабіла”. Але добра адукаваны ў замежных універсітэтах на бацькавы грошы непакорлівы сын паміж “*шляхам заможнага купца ці складаной і няўдзячнай дарогай служэння Радзіме і народу*” абірае сцяжыну навукі.

Рэжысёр змяніў аўтарскую назву п’есы “Мудрости зачало и конецъ…” (словы, узятыя з прадмовы першадрукара, падкрэсліваюць філасофска-светапоглядную аснову подзвігу Скарыны). Назва спектакля — “Спакушэнне Францыска Скарыны” — акцэнтуе ўвагу на маральна-этычных якасцях героя ў хвіліны найскладанейшай экзістэнцыі, калі неабходна зрабіць выбар, што паўплывае не толькі на асабістую долю, але і, магчыма, на ход сусветнай гісторыі.

У спектаклі асноўная ўвага засяроджана на чатырох “прамоўтарах” Скарыны — сведках яго падзвіжніцкай дзейнасці. Парацэльс, Лютар, Эразм з Ратэрдама і Вольны мастак увасабляюць чатыры галіны навукі, у якіх праславіўся наш вялікі суайчыннік, сімвалізуюць чатыры аблічы яго асобы.

Адметна, што галоўныя ролі рэжысёр даверыў маладым акцёрам, а іншыя — сталым і дасведчаным. Парацэльс у дасканалым выкананні Юрыя Фейгіна спакушае Скарыну прывідным бляскам золата, ён нечым нагадвае Мефістофеля. Пераканаўча палемізуе першадрукар з Лютарам, вобраз якога таленавіта ўвасобіў Аляксандр Лаўрыновіч. І тым яскравей бачыцца подзвіг Скарыны, які перамагае дэмагога Лютара імкненнем у сваёй рэлігійна-грамадскай дзейнасці аб’яднаць хрысціян усіх канфесій у адзіную царкву Хрыстову.

А вось Эразм Ратэрдамскі (артыст Сяргей Каратkevіч) і Вольны мастак (Рыгор Жураўлёў) не так спакушаюць Скарыну, як ухваляюць яго выбар. Эразм падкрэслівае, што Скарына найперш філосаф, які ў сваіх “Прадмовах”, каментуючы біблейскія тэксты, разважае пра сутнасць і жыццёвае прызначэнне чалавека, канстатуе Скарынавы заслугі перад Айчынай і Еўропай. Адмаўляецца ад усялякіх гешэфтаў і Вольны мастак, які падкрэслівае геніяльнасць Скарыны як выдатнага мастака-сімваліста.

У спектаклі шмат неадназначна вострых момантаў, у прыватнасці, развагі пра лекі, праблемы адукацыі ў розныя часы. Ёсць іранічная паралель паміж сродкамі навучання ў г. зв. Смаргонскай акадэміі і ў сучасных адукацыйных установах. У гэтым эпізодзе рэжысёр нібы разбурае “чацвёртую сцяну” — прачыняе тэатральнае “акно” ў глядзельную залу (калі персанажы не паміж сабою размаўляюць, а звяртаюцца непасрэдна да гледачоў, быццам завабліваючы іх у свой рэй).

Мы не ўбачым таго, што звычайна называецца развязкай. Пасля кульмінацыі, пасля ўражлівых сцэн у Падуанскім універсітэце ідзе эпілог, дзе Блазан і Звяздар падводзяць вынік інтэлектуальнаму “кастынгу” выказваннямі гасцей, што выступалі на прэзентацыі дасягненняў Францыска Скарыны, падсумоўваюць усё сказанае пра яго, разважаюць пра значнасць яго дзейнасці.

Цікавая, напоўненая сімволікай работа мастака-пастаноўшчыка Уладзіміра Ціханава захапляе сваёй лагічнай завершанасцю, стылізацыю чорна-белай класікі, дае паветра для мізансцэніравання, для сцэнічнага існавання акцёраў. Мастацкі вобраз спектакля У. Ціханаў вырашыў праз стылізацыю “разбуранай антычнасці”. Частка сцэнічнага круга ўвасабляе XVI стагоддзе: іянічныя калоны варварскім чынам “зрэзаныя” гіпербалоідам інжынера Гарына і “заваленыя” абрынутымі антычнымі ідэаламі — гэта вобраз сярэднявечнага ўніверсітэта на руінах старажытнагрэчаскай цывілізацыі. Другая частка рухомай сцэны — сярэднявечная крама, карчма. Але пры кожным павароце падзей у сцэнічным дзеянні цвёрда трымаецца “штакетнік” з беламармуровых “бігбордаў”, якія з аднаго боку ўяўляюць сабою дзверы аўдыторый сучаснага ўніверсітэта, а з адваротнага — планшэты з выявамі папулярных у часы Скарыны сімвалаў навукі і мастацтва: матэматыкі, медыцыны, астралогіі, хіміі, жывапісу, музыкі — усё, чым займаўся і сам асветнік.

Мастацкі час і прастора ў гэтым творы маюць значны сэнс: падзеі маніпулююць часам, паказваючы Скарыну не толькі ў “цяпер”, але і ў іншым часавым вымярэнні. Гэта віртуальны, фантастычны час, і вобраз Скарыны тут — не Скарына! Калі ў вядомых літаратурных творах ці ў фільмах фантастычнае адбываецца ў сне ці ў тыя хвіліны, калі герой страчвае прытомнасць, дык ні ў п’есе І. Прылуцкага, ні ў спектаклі няма нічога падобнага. Малады дысертант і не засынае, і не страчвае прытомнасць, і не выкрадаюць яго іншапланецяне, і не правальваецца ён раптам у іншую рэальнасць. Проста гэта чалавек сучасны — рэальна віртуальны.

Роля галоўнага героя ў гэтым творы — тэатральная гульня. Задача маладога дысертанта, які апынуўся ў пэўнай эпосе і вызначаным месцы, — працягнуць працу па напісанні творчай біяграфіі і далейшай распрацоўцы іміджу Скарыны, вывучэнні яго спадчыны. Персанажу даводзіцца іграць ролю непрафесійнага акцёра, які мусіць іграць прафесійна. На працягу дзеяння герой спектакля страчвае пачуццё часавай дыстанцыі: то Скарына — прышэлец у XVI стагоддзі, то сам Скарына. Такая складаная і не вельмі ўцямная задача і прымушае яго выглядаць, у адпаведнасці з рэжысёрскай задумай, нейкім крыху нязграбным, няўпэўненым, а ў іншых момантах выступаць адметнай асобай. Гэта вельмі складана для сцэнічнага ўвасаблення, але задачу рэжысёра малады артыст Дзмітрый Байкоў выканаў пераканаўча.

Адзначу добрыя прафесійныя работы акцёраў Ганны Кавальковай у ролі Звяздара і Уладзіміра Цітова ў ролі Блазна.

Сама п’еса паказвае, як у саюзе з навукай драматургія ўзмацняе сваю інтэртэкстуальную аснову, фарміруе новыя параметры чалавечай свядомасці. А зместавае напаўненне спектакля выходзіць за межы тэксту ў сферу прадстаўлення, тэатра ў тэатры, што ў цэлым характэрна для канцэптуалізму, для якога не існуе “чыстых” непераходных відаў мастацтва. Рэжысёр увесь час пераводзіць гледача з адной рэальнасці ў іншую і наадварот. Такая гульня робіцца эквівалентам інтэлектуальнага і сацыяльнага разняволення, творчай рэалізацыі асобы.

Фінал п’есы запрашае да далейшага дыялога з гісторыяй, да новага асэнсавання і даследавання.

# Лапік ручніка як штуршок да творчасці

Глыбоцкі дом рамёстваў — адзін з першых у Беларусі і першы ў Віцебскай вобласці — расчыніў свае дзверы ў 1990 годзе. Стараўся ж ён не на пустым месцы: тут ужо чатыры гады працаваў клуб майстроў. Нераўнадушныя людзі, а сярод іх былы начальнік глыбоцкага аддзела культуры Марыя Паляк і дырэктар метадычнага цэнтра Ала Юргель, зрабілі ўсё магчымае для таго, каб майстэрства гэтых людзей і народныя традыцыі былі захаваныя і перададзеныя наступным пакаленням.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Раённыя ўлады пайшлі насустрач і вылучылі майстрам двухпавярховы асабняк у цэнтры горада, у якім быў зроблены грунтоўны рамонт. Нямала намаганняў для таго, каб гэты будынак набыў непаўторны выгляд, прыклаў майстар-каваль Аляксандр Дубіна.

— Аляксандра Сяргеевіча, на жаль, няма ўжо ў жывых, але куды ні кінь вокам — усюды ў нашым будынку памяць пра гэтага незвычайнага чалавека, — распавяла дырэктар Глыбоцкага дома рамёстваў Таццяна Карнеева. — Незвычайная каваная лесвіца, казырок і ліхтары — знадворку, унутры — люстры, я б сказала, жырандолі ў сучасным выкананні, і бра — выраблены ім. Ён адзін з першых у нашай краіне адрадзіў старадаўняе кавальства. Стараўся зразумець, як вырабленыя тыя ж аўтэнтычныя клямкі, крыжы, даследаваў іх і метадам спроб і памылак узнавіў амаль забытае рамяство. Потым сабраў аднадумцаў і стварыў кааператыў "Дэкор", дзе вырабляліся каваныя прадметы ў старадаўнім стылі. Дарэчы, Аляксандр Дубіна выступіў арганізатарам двух фестываляў кавальства, якія праходзілі ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя ў Глыбокім. Цяпер сын працягвае справу бацькі. А цудоўная разьба, якая таксама ўпрыгожвае дом рамёстваў, засталася нам у спадчыну ад выдатных майстроў, братоў Шавялёвых — Валерыя і Уладзіміра.

Першапачатковая задача, якую паставілі для сябе супрацоўнікі новай установы, — захаваць рэгіянальныя асаблівасці старадаўніх глыбоцкіх рамёстваў і перадаць майстэрства падрастаючаму пакаленню. Спачатку было зусім мала гурткоў. Адной з першых прыйшла майстар Вера Байкова, якая пачала вучыць дзяцей вязанню. Неяк Вера Васільеўна прапанавала заняцца ткацтвам. Разам з першым дырэктарам дома рамёстваў Галінай Батвінёнак знайшлі станок і пачалі асвойваць двухнітовае ткацтва, потым узяліся за больш складаныя тэхнікі чатырохнітовага ткацтва: "дымку", выбарнае, перабіранае. Народны майстар Беларусі Вера Байкова працуе тут і сёння.

— Яшчэ адзін наш гонар — народны майстар Беларусі Марыя Ермаловіч, якая больш як 15 гадоў займаецца саломкай, — працягвае Таццяна Карнеева. — Яна майстар-самавучка. Шчыра кажучы, ёй усе рамёствы па плячы. Акрамя кавальства, як падкрэслівае сама Марыя Вячаславаўна. Бо яно падуладна толькі мужчынам.

Побач са сталымі майстрамі шчыруюць маладыя. Пяць гадоў таму прыйшла сюды Юлія Арэхава, выпускніца Віцебскага дзяржаўнага каледжа культуры і мастацтваў па спецыялізацыі "кераміка", вельмі творчы чалавек. Займаецца ручной лепкай, стварае непаўторныя і каларытныя работы.



*Вабіць вока вышыўка Валянціны Логвін.*



*Віктар Дудкевіч у старадаўнім строі.*



*Заварожвае лепка Юліі Арэхавай.*

— Ініцыятыўная і адказная, у яе заўсёды шмат ідэй, — заўважае дырэктар дома рамёстваў. — Не спыняецца на дасягнутым, пабывала на курсах па апрацоўцы скуры. Стварае цудоўныя рэчы з гэтага матэрыялу. Займаецца і выцінанкай. Яе работы настолькі карункавыя, вытанчаныя і лёгкія, што хочацца глядзець і глядзець на іх.

Больш як пяць гадоў працуе і Валянціна Логвін. Універсальны майстар, хоць і самавучка. Займаецца вышыўкай, вязаннем, ткацтвам. Найвышэйшага майстэрства дасягнула ў вязанні кручком. У яе атрымліваюцца і вельмі цікавыя ручнікі. Вывучае менавіта глыбоцкія традыцыі і старанна ўзнаўляе старадаўні ручнік. У свае аўтарскія работы Валянціна прыўносіць і новыя, сучасныя элементы.

У адной з экспедыцый у вёсцы Залессе жанчына-стараверка паказала супрацоўнікам дома рамёстваў лапік ручніка з тканымі элементамі ў тэхніцы выбарнага ткацтва. Майстры вырашылі ўзнавіць яго. Як патлумачыла Таццяна Карнеева, такі ручнік можна не толькі выткаць, але і вырабіць пры дапамозе вышыўкі, выкарыстоўваючы вельмі працаёмкую тэхніку "насціл". Неспецыяліст нават не зможа вызначыць, як выраблены ручнік: вытканы ён ці вышыты. Гэтай адказнай справай займаецца Валянціна Логвін. Яна ж стварае народныя касцюмы, характэрныя для Глыбоччыны.

— У нас яны не такія багатыя і насычаныя, як, напрыклад, на Брэстчыне, — заўважае дырэктар. — Для глыбоцкага ўбора характэрна вышыўка крыжыкам. Вось рыхтуем мужчынскую сарочку. У якасці прыклада ўзялі вышытую льняную сарочку, якая захоўваецца ў музеі Залескай базавай школы.

У свой час Вера Васільеўна стварыла шэраг касцюмаў для народнага тэатра фальклору "Цярэшка". Глыбоцкія жанчыны звычайна насілі тканую спадніцу, вышытую крыжыкам сарочку. Больш вопытныя майстрыхі, калі хацелі, каб іх строй выглядаў багацейшым, дадавалі купоны: вытканыя льняныя палоскі нашывалі паверх рукавоў.

Майстар Віктар Дудкевіч вядзе гурток разьбы па дрэве, які вельмі любяць наведваць хлопчыкі. Настаўнік дапамагае ім асвоіць старадаўнія тэхналогіі. Напрыклад, дзеці робяць каўшы, карыстаючыся толькі стамескамі і разцамі. Самастойна Віктар вырабіў маленькі свідравальны станок — паменшаную копію аўтэнтычнага. Пры яго дапамозе дзеці, як і іх прадзеды, робяць адтуліны ў драўніне. Яшчэ майстар сабраў багатую калекцыю старых інструментаў для дрэваапрацоўкі.

— Віктар цікавіцца і гісторыяй раёна, неяк загарэўся зрабіць касцюм, характэрны для Сярэдняевечча, — дадала Таццяна Карнеева. — Тым больш, што дзякуючы археалагічным раскопкам, якія праводзіліся на Глыбоччыне, у нас маецца дастаткова інфармацыі. Ідэя гэта была яго, а стваралі строй ужо ўсе разам.

## З глыбінкі

### Бібліятэчная Ліга Чэмпіёнаў

Горад Барысаў вядомы не толькі футбольным клубам БАТЭ, але і сваёй бібліятэкай.

Сёлета ўпраўленне культуры Мінскага абласнога выканаўчага камітэта аб'явіла конкурс на лепшы web-сайт публічных бібліятэк Міншчыны. Конкурс дазволіць пашырыць віртуальную бібліятэчную прастору і дзякуючы гэтаму забяспечыць больш поўны доступ наведвальнікаў да інфармацыі. Акрамя таго, удзел у ім мусіў стымуляваць развіццё інтэрнэт-тэхналогій сярод публічных бібліятэк Міншчыны і актывізаваць стварэнне і ўдасканаленне сайтаў.

У конкурсе прынялі ўдзел 18 бібліятэк. Кожны сябра журы выстаўляў сваю адзнаку, ацэньваючы змест, дызайн і эрганамічнасць, тэхналагічнасць сайтаў. Па суме атрыманых балаў і былі вызначаныя пераможцы. Бронзу атрымала Жодзінская цэнтральная гарадская бібліятэка, срэбра — Салігорская. І, нарэшце, першае месца і заслужанае золата ўзяла Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І. Каладзеева.

Зразумела, такія конкурсы адпавядаюць хутчэй першынству вобласці. Але ж і БАТЭ калісьці пачынаў як аматарская каманда! Таму ў бліжэйшы час варта выходзіць на рэспубліканскі ўзровень. А там і еўракубкі чакаюць! Ці замахнуцца барысаўчане на Лігу чэмпіёнаў у сваёй галіне?

**Віталь БЯРЭЗІНСКІ,**
**г. Барысаў**

### Грошы ў гародчыку

Багатая калекцыя нумізматыкі Чэрыкаўскага гісторыка-краязнаўчага музея папоўнілася новымі цікавымі экспанатамі.

Так, зусім нядаўна Аляксей Іваноў знайшоў на сваім прысядзібным участку, што ў горадзе Чаусы, некалькі расійскіх манет, датаваных другой паловай XIX стагоддзя. Яны і былі перададзены музею. Знаходку, падобную да гэтай, перадаў музею і жыхар Магілёва Віталь Масольд. Сярод новых экспанатаў — датаваныя другой паловай XIX — пачаткам XX стагоддзя манеты, а таксама больш старыя грошы. Гэта "дзенга" 1737 года і полушка, надпіс на якой сцерты так моцна, што нават цяжка вызначыць год яе выпуску.

Дарэчы, такія знаходкі (а часцей іх прыносяць цікаўныя школьнікі) у музей трапляюць нярэдка, а таму і калекцыя даволі багатая — больш як 600 адзінак. Асноўная частка грошай датуецца XVIII — XIX стагоддзямі.

Калі казаць пра цікавыя знаходкі, нельга не згадаць і перададзеную нядаўна Сяргеем Маслаковым старадаўнюю пячатку, якая ў калекцыі сфрагістыкі музея стала трэцяй. На ёй можна разгледзець герб "Пагоня" і нажніцы ўнізе. На жаль, з цягам часу на пячатцы сцерліся літары, таму немагчыма разабраць надпіс. Цяпер супрацоўнікі музея высвятляюць, якой арганізацыі яна належала.

**Алеся БАЦЮСЬ,**
**г. Чэрыкаў**

## Афарызм

*Глядзіце знізу ўверх на сосны, на воблакі.*
*Не на людзей.*

**Пімен ПАНЧАНКА**



**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2715
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 23.08.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3516
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


ISSN 0024-4686
9 770024 468001
12034